*Алесь Бачыла*

## РАДЗІМА МАЯ ДАРАГАЯ...

*Радзіма мая дарагая,*
*Ты ў шчасці жаданым жыві:*
*Я сэрцам табе прысягаю*
*У шчырай сыноўняй любві.*

*На рэках, азёрах і нівах,*
*Заводах, будоўлях — наўсцяж*
*Народ наш працуе руплівы,*
*І край узвышаецца наш.*

*Я радасць сваю не стрымаю —*
*І песня ўзлятае сама:*
*Мне лепей ад роднага краю*
*Нічога на свеце няма.*

*Чужое зямлі нам не трэба,*
*Пачуцці ва ўсіх нас адны:*
*Мы хочам, каб мірнае неба*
*Не знала пажараў вайны.*

*Мы дружбы народам жадаем*
*І шчырай братэрскай любві.*
*Радзіма мая дарагая,*
*Красуйся і ў шчасці жыві!*

*Расчыні шырока дзверы,*
*Мілая старонка,*
*Выйдзі стрэнуць свой Кастрычнік*
*Песняй гулкай, звонкай!*

Янка Купала

*Рыгор Барадулін*

## ДОМ НАД СВІСЛАЧЧУ

Захар'еўская, дом 135 —
Як гэты след
Не вынюхалі шпегі,
Што нават
Крокі ціхія адлегі
Спяшаліся ў даносы запісаць.

Хаціна каля самых капытоў
У коннай жандармеры стаяла.
І Свіслач,
Як далёкая Каяла,
Халодная,
Пацела ў пяць патоў.

Прапрадзед паравоза — самавар
Самадзяржаўна
Пыхаю надзьмуты,
І сведка,
І хаўруснік зорнай смуты,
Глытаў, як патаемны змоўца,
Жар.

Лес падступаў
На выхад запасны,
А ў доме жыў настрой
Бунтоўна-шчыры.
І Леніну
Цяплей было ў Сібіры
Ад весткі з Мінска
Ў першы дзень вясны.

І дом
Пасля ў гісторыю ўвайшоў,
Як свет стары
З яе ганебна выйшаў,

Дом стаў відзён
З усіх зямных узвышшаў,
Гарэў і ўваскрасаў
На страх віжоў.

І першым бервяном
Ён лёг у гмах,
Які дарогі свету
Значыць сёння,—
Каб выбавіць планету ўсю
З сутоння.
У гмаху
Зорамі накрыты дах.

Захар'еўская, дом 135,
Былая вуліца ў губернскім Мінску.
У стольным Мінску
Новую прапіску
Дом мае,
Дом, што з космасу відаць.

## *Анатоль Грачанікаў*

### ЛЕНІН У ШУШАНСКІМ

Мароз
Над Шушанскім трашчыць.
Заснула ўсё.
Ды шпік не спіць.
Вядуць
Казённыя валёнкі
Яго да хаты.



Профіль тонкі
Там цьмяна ў шыбіне
Бліпічыць.

Ізноў Ульянаў
Нешта піша.
Няўжо супроць
Вяльмож, цара?!
Марозная
Разносіць ціша
Па ўсёй Расіі
Скрып
Пяра.

Да шыбіны
Закляклы шпік,

Дыханне тоячы,
Прынік.

І адхінуўся, недарэка,
І да акна прыліп ізноў,
Нібыта ўбачыў профіль веку
Без самаўладдзя і паноў.

«Дык хто ж у ссылцы? —
Думаў ён.—
Ці гэты —
Малады Ульянаў,
А можа, сам
Манарх Раманаў,
Што адгароджаны
Мурамі,
Штыкамі,
Турмамі,
Шпікамі
Ад люду беднага
Здавён?

А гэты, ссыльны,—
Між людзей.
Імперыю
З Сібіры бачыць.
Такія могуць перайначыць
І ход жыцця, і ход падзей».

Шпік у парэпаны кажух
Уцягваў, здубянелы, шыю...

Агеньчык
У акне
Не тух
І асвятляў
Усю Расію.

## *Пятрусь Макаль*

### НАРАДЖЭННЕ ДЗЯРЖАВЫ

На вуліцах сціхае завіруха,
І снег рыпіць пад ботамі салдат.
А з захаду —
Дакучліва і глуха —
Даносіцца
Хрыпаты гул гармат.
У кабінеце — Ленін.
Ён узрушан:
Якія весткі кожны дзень нясе!
Ён ведае,
Настане час —
І рушаць
Пад сцяг чырвоны пралетары ўсе.
Пакет — распакаваны — на абрусе...
Пачаставаўшы чаем пасланца,
Ён маніфест працоўных Беларусі
Перачытаў яшчэ раз да канца.
— Наш лёс
З Масквою зліты назаўсёды,
Мы ў новы свет
Ідзём плячо к пляну!..
Магутны голас цэлага народа
Чуваць
У кабінеце
Ільічу.
Ён рэзкім рухам адхінае штору,
Імкліва падышоўшы да акна.
І вось ужо далёкая пратора
Як на далоні
Леніну відна.
Ён бачыць гарапашніка за вёскай,
Што над сахой
Згінаецца дугой,—
Адной нагой ступіўшы на палоску,
Не ведае,

Куды ступіць другой.
І выпрастаўся раптам —
І ступае
Бязбоязна
Угневаны бядак:
— Стапчу цябе я ўшчэнт,
Мяжа скупая,
Што мне жыццё абгарадзіла так!
І прага волі запаліла вочы,
І пальцы самі цягнуцца к курку,
І, як салдат узброены,
Рабочы
Працягвае аратаму руку.
...А ў шыбу ўжо зірнуў прамень ласкавы.
І вось Ільіч
У рукі ўзяў дэкрэт:
Аб нараджэнні новае дзяржавы
Даведаецца сёння цэлы свет!

# *Аляксей Пысін*

## З МАЛЕНСТВА

Вярталіся вяскоўцы з кавалерыі,
Дарылі хлапчукам высокі шлем.
Будзёнаўку мы мералі і верылі,
Што некалі таксама дарасцем.

Дамоў шахцёры лямпачку прывозілі —
Цапам падсвечвала ў начным гумне.
А мы чакалі канаплянай восені,
Сініцы той, што ў школу нас гукне.

Каноплі ў садзе ці сады парыпвалі,
Калі туман вісеў, згушчаўся змрок?
Данбаскі светлячок у зроку грыфельным
Свяціў наперад нам на цэлы крок.

Свяціў на цэлы крок, на два наступныя,
Падморгваў, заахвочваў усур'ёз,
Як быццам бачыў ён з вясновай купіны,
Што век нясе, куды паверне лёс.

І хоць не ведалі, якая жорсткая
Парода зла і скваппасці людской,—
Мы штось армейскае і штось шахцёрскае
Ўзялі запасліва ў характар свой.

## *Паўлюк Трус*

### ДЗЕСЯТЫ ПАДМУРАК

**Урывак з паэмы**

Край легенд,
крыжоў, магіл-курганаў,
край тугі —
бальзам жывых крыніц...

Край смугі,
бялявых кос-туманаў,
край палёў,
краса шумлівых ніў...

Край балот,
нізін, азёраў наскіх,
край лясоў,
маўклівых сосен-струн...

Край паэм,
адвечных песень-казак,—
дарагая сэрцу
Беларусь...

Дні прайшлі, адшалясцелі зоры
на гарачых крыллях навальніц.
І пульсуе радасць у прасторах,
залатыя свецяцца агні.

Дзесяць год упартага змагання,
дзесяць год змагання й перамог.
Толькі сцені плачуць на кургане,
прасціраюць рукі ля дарог.

Хто ж гадаў, як наплывалі хмары,
хто ж гадаў, хто думаў, а ці сніў,
што краіна соннага надхмар'я
расцвіце у чырвані зарніц.

Творчы міг... Напорная імклівасць...
Працай тут заняты муляры,
і пад небам зорнасці маўклівай
вырастаюць волаты-муры.

— Добры дзень, аснежныя прасторы,
добры дзень, сталіца хараства.
Скора ў бляску вечара, ой скора
празвініць па вуліцах трамвай.

І тады я стану пад гарою,
каб пазбыцца смутку і журбы,
буду слухаць песні Асінстрою,
захаплюся музыкай турбін.

Край легенд,
адвечных песень-казак,
край паэм —
бальзам жывых крыніц...

Край балот,
тугі азёраў наскіх,
край цішы
і громаў-навальніц...

Край лясоў,
мінулых дзён паўстання,
край нізін —
прастораў дальніх шыр...

Край палёў...
О край,—
калі ж ты станеш
краем фабрык дымных
і машын?..

## *Язэп Пушча*

### АРКЕСТРЫ

Аркестры, будучынь страчайце маршамі!
Мы славім дзень — і сённяшні, і заўтрашні.

Прасторы родныя красой уквечаны;
Магутны гімн — сучаснасці і вечнасці.

Жыццё абняць аберуч гэтак хочацца;
З крыніц зямлі вада жывая сочыцца.

Умыйся ёй, сучаснік наш дапытлівы.
Узоры светлыя ў жыцці мы выткалі.

Аркестры, будучынь страчайце маршамі!
Мы славім дзень — і сённяшні, і заўтрашні.

# *Міхась Васілёк*

## З НЯВОЛІ

Ціха вакол,
Вецер дрэў не калыша.
Ночка цярусіць паволі на дол
Зоры з далёкага ўзвышша.
Край мілы мой,
Птушкай падбітай імкнуся
Туды, дзе чакае пакутных сыноў
Родны прастор Беларусі.



Дрот навакол —
Людзі чужыя. Як зверы...
Ды не зламае дзікі закон
Ў сэрцы надзеі і веры.
Нашу вясну
Цёмная ноч засланяе...
Толькі ў грудзях набалеўшых адну
Думку мы песцім, люляем:
Прыйдзе яна,
Прыйдзе звароту часіна —
Радасць сустрэчы, як чарку, да дна
Вып'ем з табою, краіна!

Нямецкі канцлагер, 1940

## *Сяргей Дзяргай*

### АКУПАЦЫЯ

Святло згінула раптам...
Цемра не падпаўзала спакваля,
Не падкрадалася завуголлямі,
Не засыпала наперад змрок і цені.
Цемра — паглынула.
Невідушчая, яна ўглядалася:
Што там, яшчэ бліскае надзея ў вачах?
Глухая, яна ўслухоўвалася:
Што там, яшчэ б'ецца сэрца жывое?
Нерухомая і важная,
Яна намагалася прасякнуць усюды,
Нават у каморкі нашага мозгу;
Не́мая і гугнявая,
Яна выла сірэнамі,
Глушыла выбухамі,
Высявала мёртвыя словы,
Якім не дадзена было ўзысці.
Белая бяроза стаяла пашчапаная.
Раса ў полі — высахла.
Жытні колас — асыпаўся.
Голад звіў гняздо ў нашым чэраве.
Мінулае было так далёка,
Што цяжка было яго ўспомніць.
Будучыня... Замест яе была Вера.
Да мэты ішлі наўпрасты,
Абмінаючы дзяцінства, юнацкасць, старасць.
Дня не было:
Дзённыя клопаты разбегліся,
Распаўзліся,
Прытаіліся,
Баючыся напомніць аб сабе.
Ночы не было:
Чародка ружовых сноў
Скінулася зграяй ваўкалакаў,
Шэрых, чорных,

Яны вылі і хапалі за горла.
Жыцця не было,
Але не было і смерці.
Быў — дух ператвораны ў полымя.
Мужнасць нараджала герояў.
Помста нараджала герояў.
Надзея нараджала герояў.
Крыўда нараджала герояў.
Смутак нараджаў герояў.
Адчай нараджаў герояў.
І толькі здрада нараджала — тхароў.
Яны пладзіліся і самі сябе жэрлі.
Мы замкнулі свае вусны на замок.
Дзе схаваны ключы,— не ведалі самі.
Не хацелі ведаць, не жадалі ведаць.
Было — не адамкнуць той замок
Ні крывёй, ні жалезам.
Дарэмна здрада падбірала ключы і адмычкі.
Мы пільна ахоўвалі таямніцу,
Таямніцу жыцця.
Мы хавалі яе ў нетрах цёмнага лесу,
Мы хавалі яе на папялішчы спаленай вёскі,
Мы хавалі яе ў зруйнаваных гарадскіх мурах,
Мы хавалі яе ў сваім сэрцы...
І калі ўжо нічога не заставалася,
Нічога! —
Мы перадавалі яе ў іншае сэрца,
А самі падалі на зямлю,
Раскінуўшы рукі крыжам.
На адзінае імгненне
Сонца працінала цемру.
Мы глядзелі на яго,
Глядзелі ўжо не прымружваючы вачэй.
Лёгка жыць,
Лёгка паміраць,
Адчуваючы
Сваю дужасць,
Сваю веліч,
Сваю Праўду.

## *Мікола Аўрамчык*

### ПЕСНЯ ПРА МІКАЛАЯ ГАСТЭЛУ

Калі захопнікі прыйшлі ў маю краіну,
Жадаючы з зямлі народ наш сцерці,
Ты з вышыні
у твар чужынцам кінуў
Нянавісцю палаючае сэрца.

Як метэор, што азарае свет,
Ты праляцеў над Беларуссю роднай,
Навек пакінуўшы глыбокі след
У неўміручай памяці народнай.

Мы не развітваемся, капітан, з табою,
Бо днём і ноччу,
вечарам і раннем
Над роднаю савецкаю зямлёю
Выконваеш ты
важнае заданне.

Нядарма землякі пасля змяркання,
Заўважыўшы, як зорка праляцела,
Гавораць, што вяртаецца з задання
Бясстрашны лётчык капітан Гастэла.

Як метэор, што азарае свет,
Ты праляцеў над Беларуссю роднай,
Навек пакінуўшы глыбокі след
У неўміручай памяці народнай.

## *Мікола Сурначоў*

### У СТОПТАНЫМ ЖЫЦЕ

Ніколі не ехаць
Хлапцу маладому
Да блізкага гаю,
Да роднага дому.

Над ім асыпаюцца
Слуцкія краскі,
Абсмалены колас
Схіліўся да каскі.

Ляжыць ён, як віцязь,
У стоптаным жыце,—
Маці спактаеце,—
Ёй не кажыце.

## *Пятро Глебка*

### ПАСЫЛКА

Ноч. Халодная зямлянка.
Перастрэлка. Цішыня.
Неба чыстае, як шклянка,
Тупат быстрага каня.

Мы пазналі без памылкі,
Што пад сховай цемнаты
Нам даставілі пасылкі,
Тэлеграмы і лісты.

Хто ад маткі, хто ад жонкі —
Кожны вестку атрымаў,
Толькі мне і маёй старонкі
Ні пасылкі, ні пісьма.

Не заныю, не заплачу.
Я да ласкі не прывык...
Да мяне раптоўна, бачу,
Падыходзіць паштавік.

Ён вымае мне са скрынкі
Шоўкам вышыты кісет,
Дзве квадратныя хусцінкі
І малюсенькі пакет.

Незнаёмаю рукою
Там напісана ўгары:
«Беларускаму герою
Ад сяброўкі і сястры.

Вышываны там, дзе горы,
На святой зямлі грузін,
Каб ты ведаў, што і ў горы
Ты на свеце не адзін».

Я прыняў дарунак мілы
Перад боем уначы
І да самае магілы
Буду шчыра берагчы.

Не пасылка дарагая,
А братэрская любоў,
Наша дружба векавая,
Дружба верная сяброў.

## *Аляксей Пысін*

* * *

Палім мы маршанскую махорку,
Бачым мы Дняпроўскую граду.
Будзе сёння бой. На тым узгорку,
Можа, я таксама упаду.

Будуць травы над курганам. Будуць
Адлятаць у вырай жураўлі.
Нас, напэўна, ў свеце не забудуць,
Ўспомняць, што на свеце мы жылі.

...Я гляджу на даўняе курганне,
На траву, на рыжых мурашоў.
Ведайце: калі мяне не стане —
Я ў сваю дывізію пайшоў.

## *Аркадзь Куляшоў*

### ПАД ВОСЕНЬСКІМ НЕБАМ

Спазніліся мы,
Хоць і вельмі застаць іх хацелі,
У вырай яны, баючыся зімы,
Адляцелі.

Пад імі мільгае і гаць,
І азёры,
І ўзгоркі,
І ім не відаць
Ані нашы шынелі, ні зоркі.

Каб нашыя зоркі заўважыў
Важак жураўліны,
Напэўна б, разважыў,
Што гэта блішчаць журавіны.

А гусі?
Адкуль ім адрозніць за хмаркамі тымі
Шынелі ад купін,
Нядаўна пакінутых імі?

Каб ніжай былі яны
І ў туманах маскіроўкі
Разгледзець маглі яны
Зоркі, шынелі, вінтоўкі,—

Адрокся б ад высяў,
Ад цёплага выраю жораў,
Сюды б з сінявы сеў
На шкло магілёўскіх азёраў.

Каб зверху пазнаць
Нас маглі пералётныя гусі,
Зіму зімаваць
Засталіся б яны ў Беларусі.

*Пятро Сушко*

## ПАРТЫЗАНАВА ПРОСЬБА

Ціхі ўскрык над сцяжынкай маёй
Жураўліны, журлівы...
Ты ляціш, журавелька, з сям'ёй
У далёкі свой вырай.

Забяры, журавелька, з сабой
Злой бяды адгалоскі:
Горкі дым,
Горкі жаль,
Горкі боль
Маёй спаленай вёскі.

# *Уладзімір Караткевіч*

## НАШЫ БЯРОЗЫ

Танкі з крыжам ляцелі на лес празрысты.
Дым мяшаўся з зямлёю. Сцяліўся пажар.
Палала бярозка, танюткая, чыстая,
Без стогну,
Як Жанна д'Арк.



У дрэўцы, кволенькім, як мімоза,
Цякла зямлі маёй мужная кроў...
Я знаю, як гінуць нашы бярозы:
Без плачу.
Шапкі далоў!

# *Пятрусь Броўка*

## НАДЗЯ-НАДЗЕЙКА

Плача сірочая ў лесе жалейка...
Сціхла ты,
Змоўкла, наша Надзейка.
Хто ж гэта думаў, як давялося:
Вочы закрыла хмурая восень,
Выцвілі косы,
Шчокі запалі,
Рукі завялі.

— Надзя! Надзейка!..— плача жалейка.—
Болей рукам тваім
Жыта не жаці,
Жыта не жаці,
Снапоў не вязаці.—
Трэцюю ночку вісне дзяўчына
На белай бярозе ля роднай хаціны.
Горачка-гора сэрца скавала,
Што ж ты, бярозанька, не ўратавала?

З лісцем пажоўклым горкія слёзы
Падаюць, сыплюцца з белай бярозы:
— Добрыя людзі, жальбу здыміце,
Лепей мяне вы, бярозу, спіліце.
Гэтую дзеўчыну знала я дзіцем...

Жоўты пясочак,
Зялёны вяночак.
Сінія вочкі,
Што васілёчкі.

Буйныя ветры, лютыя буры...
Ходзіць па лесе хлопец пануры.
— Надзя! Надзейка!..— плача жалейка.
З лісцем пажоўклым горкія слёзы
Падаюць, сыплюцца з белай бярозы:

— Хлопец-юнача, смутныя вочы,
Зрэж мяне, белую, цёмнаю ноччу,—
Цяжка стаяць мне з горам дзявочым.

Помню я смех ваш,
Гулі-гулянкі,
Песні-вяснянкі
Аж да світанку.

Хлопец жалобу носіць па полі.
Ён у бярозы пытаецца з болем:
— Што ж не схавала ты любую голлем?
— Надзя! Надзейка!..— плача жалейка...

З лісцем пажоўклым горкія слёзы
Падаюць, сыплюцца з белай бярозы:
— Як наляцела цемра-навала,
Змеі напалі, джалілі джалам.
Дымам дыхнулі — чорнай я стала,
З крыкам і тлумам,
Гвалтам і глумам
Красу загубілі,
Дзяўчыну забілі.

Ходзіць па лесе, пушчах, дубровах
Хлопец разгневаны, хлопец суровы:
— Скора вярнуся
Разам з сябрамі,
Грукнем маланкамі
Ды перунамі,
Выпечам змеяў жалезам калёным,
Неба ачысцім, хмары разгонім,
Дзеўчыну ўславім,
Голле расправім,
Травы абсыплем чыстай слязою,
Чыстай слязою,
Быццам расою.
— Надзя! Надзейка!..— кліча жалейка.

*Аркадзь Куляшоў*

## БЯРОЗКА

Стаіць яна ў зрэбнай кашулі
Адна на пагосце.
Варожыя кулі пакінулі след на бяросце.
Стралялі чужынцы, ды цудам бярозка ўцалела.
Стаіць яна, нібы дзяўчына на месцы расстрэла.

Не плач жа, бярозка, не лі свае слёзы,
Красуня,
Над люстрам ракі запляці свае косы,
Красуня.
Цябе не застрэлілі і не пагналі ў няволю.
Расці ж ты на радасць і рэчцы, і людзям, і полю!

## *Ніна Загорская*

### БЛАКАДА

— Мама, пчолкі лятуць?
— Дочачка, гэта кулі...
— Я налаўлю іх, мама! —
і стрымгалоў малое
(маці спыніць не паспела)
кінулася напярэймы
злосным свінцовым восам,
якія з ціўканнем
уядаліся ў цела граба,
векавечнага мудрага дрэва,
што люляла, гушкала мары
няцямнай свавольніцы.
...Дрэва
не паспела малой затуліць.

## *Мікола Арочка*

### ПАРТЫЗАНСКІ ХУТАР

Калі ласка,
не зносьце гэты хутар!
Пакіньце ля самай дарогі стагоддзя:
з печчу-таўстухай —
колькі з-за чорнае засланкі
тут узыходзіла боханаў-сонцаў
(кожную ноч!)...
З прашараванымі ночвамі,
дзе кіпень круты з чыгуноў
вяртаў закарэлым бінтам і кашулям
белакужэльную свежасць
(кожную ноч!)...
З трафейнай каністрай,
змеевіком на пліце,
дзе выціскалася сіняя моц
па кроплі на раны
(кожную ноч!)...
І з тым абразом на куце ў ручніках,
перад якім на калені
(кожную ноч!)
падала стомлена маці,
хрысцячы дзверы і вокны,
родную зямлю.

# *Раіса Баравікова*

## МАЛЕНЬКІМ ПАРТЫЗАНАМ ВЯЛІКАЙ АЙЧЫННАЙ ВАЙНЫ ПРЫСВЯЧАЕЦЦА

*Памяці юнага піянера-героя*
*Марата Казлова*

### 1

Прыціхлі ў стоме звонкія паляны...
У гушчары заглух апошні бой,
Па вузкай сцежцы крочаць партызаны,
Акраец хлеба дзеляць між сабой!
А з імі хлопчык...
Сціснуў вусны ўпарта,
Ў руках трымае зброю — аўтамат!
Разведчык ён, і на заданне заўтра
Адправіцца на досвітку Марат!

### 2

Цвіце чабор.
У полі спее жыта.
Прыемна сцежкай роснаю ісці.
Яшчэ не ўсё Маратам пражыта,
Яшчэ не зведаў многага ў жыцці.
Нядаўна марыў аб сябрах, аб школе,
Аб будучым, дзе думкамі вітаў,
Ці мог ён думаць, што такое гора
Ўпадзе на родны васількова край!

### 3

Ідзе хлапчук.
На сонца пазіраде.
Пяшчотнай песняй лес шуміць над ім...
Ці мог ён ведаць,
што яго чакаюць,
Ці мог адчуць,
што вораг побач з ім?
Спяваюць птушкі.
Шапацяць рамонкі.

У голлі рыжых выцвілых асін
Так бесклапотна песцяцца вавёркі...
І раптам: «Стой!
Ці не Казлова сын?»

4

...Схапілі!
Павялі да крайняй хаты!
Няўжо не ўбачыць хлопчыку зямлі,
Той, за якую гінулі салдаты,
Той, дзе таполі гонкія раслі!..
Маўчаў хлапчук!
Ні слова, ні паўслова
Не выпытаў з яго драпежны кат.
Прад позіркам плылі — матуля, школа...
Яны малілі: «Патрывай, Марат...»

5

Так і загінуў...
Красавала жыта,
Цвіла прырода ў сонечных вянках.
Яшчэ не ўсё Маратам пражыта,
Ён будзе крочыць
як жывы ў вяках!
Спяваюць птушкі!
Шапацяць рамонкі,
Зямля пад сонцам росная ляжыць.
Прыслухайцеся, гонкія сасонкі,—
Тут недзе хлопчык сцежкаю
бяжыць!

## *Віктар Шымук*

### НЕВЯДОМЫ ПАРТЫЗАН

Набірае лета сілу,
Гарачынь такая, спёка.
Я іду лясной сцяжынкай,
Цішыня, спакой наўкол.



Бачу, нечая магіла
Каля сцежкі недалёка.
Шэры камень нахіліўся
На сухі, замшэлы дол.

А на камені два словы
Хтосьці высек акуратна.
А на камені два словы
Пазіраюць праз дзірван.
Мо гучалі тут прамовы,
Мо ўслаўлялі подзвіг ратны.
Я ж чытаю толькі словы —
«Невядомы партызан».

Я не знаю, хто ты, дружа,
І ў якім баі загінуў.
Ці ў спякоту, ці то ў замець,
Ці то ў дождж, ці то ў туман.
Быў ты сынам, быў ты мужам,
Быў ты воінам краіны,

Беларусі-партызанкі
Невядомы партызан.

Сосны, сосны, адкажыце,
Вы ўсё бачылі і чулі,
У якім баі гарачым,
Ад якіх загінуў ран?
Сосны, сосны, не маўчыце,
Ад гранаты ці ад кулі
Склаў галованьку навекі
Невядомы партызан?

Толькі ціха, ціха ў лесе.
І жывіцай пахне спёка,
І igліца ападае
На асмужаны дзірван.
Спіць пад соснамі Палесся
Каля сцежкі недалёка
Беларусі-партызанкі
Невядомы партызан.



# *Адам Русак*

## ЛЯСНАЯ ПЕСНЯ

Ой, бярозы ды сосны —
Партызанскія сёстры,
Ой, шумлівы ты, лес малады,
Толькі сэрцам пачую
Тваю песню лясную
Ды успомню былыя гады.

Ды успомню пажары,
І варожыя хмары,
І завеі халодных снягоў,
І слату, і нягоды,
І начныя паходы,
І агні партызанскіх кастроў.

Край любімы, мой родны,
Ты на свеце свабодны,
За цябе я на бітву хадзіў,
Каб ніколі, ніколі
Ты не быў у няволі,
Каб заўсёды у шчасці ты жыў.

Адышлі тыя годы,
Адгрымелі паходы,
Толькі пушча за полем шуміць.
Ой, бярозы ды сосны —
Партызанскія сёстры,
Вас ніколі ў жыцці не забыць.

## *Мікола Аўрамчык*

### БАЛАДА АБ ВЫЗВАЛЕНЫМ ПАЭЦЕ

На Беларусі ёсць лясны паўстанак,
Дзе некалі ў адзін з вясновых дзён
Адбілі раніцою партызаны
Нагружаны варожы эшалон.

У партызанскім лагеры зялёным
Юнак-разведчык расказаў пазней,
Як ён знайшоў за кратамі ў вагоне
Абрабаваны пушкінскі музей.

Між даўніх кніг у вокладках са скуры,
Сярод пажоўклых выразак з газет,
З-пад рукапісаў,
з бронзавай скульптуры
Паэт прыветліва зірнуў на свет.

— Нягоднікі! — прамовіў злосна з болем
Хлапец,
падняўшы рукапісны ліст.—
З багаццем нашым
Пушкіна ў няволю,
На катаргу ў нямеччыну вязлі.

Спяшаючыся,
Пушкіна адгэтуль
Аднеслі партызаны у лясы...
Нібыта слёзы,
на шчацэ паэта
Заззялі кроплі ранішняй расы.

Ухутаны,
пад плашч-палаткай новай,
На падасланым верасе сухім,
У засені густых галін яловых
Адпачываў ён у кутку лясным.

Між партызан аб ім хадзіла слава.
Чыталі мсціўцы
Пушкіна радкі
Аб тым, як нашы продкі пад Палтавай
Грамілі чужаземныя палкі.

А ў поўнач на чыгунцы, каля рэчкі,
Ляцеў з маста варожы эшалон,
І ўдарам партызанскім
у мястэчку
Разгромлен быў фашысцкі гарнізон.

Пазней,
калі дачуўся лес зялёны,
Што перамогі светлы дзень настаў,
Паэт з'явіўся ў гарадок раённы
І горда узышоў на п'едэстал.

Цяпер дубы расказваюць быліны
І шэпчуць баравыя верасы
Аб тым,
як Пушкіну цяжкой часінай
Далі прытулак нашыя лясы.

## *Уладзімір Паўлаў*

### БЕЛАРУСЬ — 1945

Не помніць хто сірот, удоў, калек?!
Твая слязіна ў сэрца мне запала.
На сотню — дваццаць восем чалавек
Айчыннаю вайною ты паклала.

Было з чаго тут рукі апусціць,
У горы скамянець, у паняверцы
І тройчы ў дамавіну пры жыцці
Жывому легчы і жывым памерці.

А ты жыла не так, як набяжыць,—
Ад гора ў працы бачыла збавенне,
У дружбе той, якой няма мяжы,
Якую завяшчаў вялікі Ленін.

Хай колас на далоні лёгкі быў
І лес пасля вайны не дужа статны,
Ні я, ніхто па сёння не забыў,
Як ты з людзьмі дзялілася астатнім.

На папялішчах горад і сяло
Цагліны клалі, майстравалі зрубы.
Тваё святлела мудрае чало,
Зацятае суровасцю ад згубы.

Казала ты: «Не будзь за ўсіх вышэй,
А дабрынёю чалавека радуй».
І кожны з нас душою харашэў
Ад гэтага наказу і парады.

Удзяка табе, родная зямля,
Што ёсць каму сказаць пра гэта свету,
Што родзіць твая й сёння аралля
Сваіх пілотаў і сваіх паэтаў.

# *Сяргей Дзяргай*

## ХІРАСІМА

На каменні руін тваіх
Адбіты
На вечныя векі
Смерць і пакуты,
Хірасіма.

Попел жывы
Поўніць бязмежжа
І, не знаходзячы спакою,
Асядае ў нашых сэрцах,
Хірасіма.

Мы любім і помнім,
Мы чакаем і спадзяёмся,
Мы верым і змагаемся.
Змагаемся,
Хірасіма.

Вечным маўчаннем гармат,
Цішынёй вечнага міру
Ушануем памяць
Ахвяр тваіх,
Хірасіма.

Прыйдзе час:
Ўся зямля будзе ў вечным цвеце
І адродзіцца, уваскрэсне
Ціхая слава твая,
Хірасіма.

# *Аляксей Пысін*

* * *

...населенный пункт Борки.
А. Твардоўскі

Рамонкі, мак, і лебяда,
І трыста траў цвітуць вясною.
Тут незабытая бяда
Калышацца перада мною.

Бярэ пчала свой горкі мёд,
Палынны дым, што мёдам лічыць.
«Мы — тысяча і восемсот,
Мы з тысячы засмяглых Лідзіц.

Перш вочы выпалілі нам,
Каб катаў мы не апазналі.
Затым чарга была рукам —
Дзяцей мы імі засланялі.

Калі ж агонь на сэрцы лёг,
Мы ў гэтым вогнішчы ля шляху
Пачулі цяжкі тупат ног —
То беглі ворагі са страху.
Баяліся, што гнеў наш сцяты
Спяруніць выбухам расплаты...»

Рамонкі, мак, і лебяда,
І трыста траў цвітуць вясною.
Тут незабытая бяда
Калышацца перада мною.

Спакой вам вечны, землякі,
Ўсё ў нас ад вас — жыццё і мова.
І назва даўняя — Баркі:
Дарожны знак ля Магілёва.

# *Анатоль Вярцінскі*

## РЭКВІЕМ ПА КОЖНЫМ ЧАЦВЁРТЫМ

У часе мінулай вайны загінуў
кожны чацвёрты беларус.

З дакумента

Ой, хацела мяне маці
За чацвёртага аддаці...

З народнай песні



### УСТУП

Вы бачылі лес,
дзе прагал скразны?
Скажыце, вы бачылі бор той,
дзе кожнай другой няма сасны
ці сама меней — чацвёртай?
Тое ж было і з народам маім.
Сякера ваеннай навалы
прайшлася бязлітасна па ім,
і — прагалы, прагалы.
Яны і сёння не зараслі,
свіцяцца прасторай мёртвай...
Вы бачылі лес,
дзе прагал скразны?
Скажыце, вы бачылі бор той?

### ЧАСТКА ПЕРШАЯ

Зямля мая бой прымала
ад стара і да мала,
ад стогадовага Талаша
да Казея — малыша.
І падаў, распасцёрты,
кожны чацвёрты.

Часта згаралі знічкі тады.
Быў небасхіл чорны.
А на зямлі стылі сляды —
кожны чацвёрты.

Мір асвятліў нас сваім святлом.
Грымелі ўрачыста акорды.
Толькі не быў за святочным сталом
кожны чацвёрты.
Доўга не трацілі ўдовы надзей,
доўга чакалі маці дзяцей.
Не верылі ўсё, што мёртвы
кожны чацвёрты.



Помнім мы болі і страты свае,
памяць шуміць, як чароты.
О, як нам вас не стае,—
кожны чацвёрты!

### ЧАСТКА ДРУГАЯ

Кожны чацвёрты быў мёртвы —
Мір і спакой ім вечны!
Кожны трэці быў змораны,
скалечаны і знявечаны.

Кожны другі на целе
меў раны, апёкі ці шрамы.
І ўсе мы, усе мы мелі
на душы сваёй раны.

Зеўралі ямы, траншэі,
зеўралі печы ў друзе —
ранай адной страшэннай
на целе маёй Беларусі.

## ЧАСТКА ТРЭЦЯЯ

Лічым: чацвёрты кожны.
А можа, кожны трэці?
Голадам падкошаныя,
паміралі дзеці.

Яшчэ мы не ўлічылі
тых, што лячылі раны,
раны не залячылі,
рана паміралі.

Колькі прапала без вестак,
без пахаванняў, памінак!
А колькі потым дзетак
узарвалася на мінах!

Лічым: кожны чацвёрты.
А той рахунак прыблізны,
а той рахунак няцвёрды,
а ўрок яшчэ больш вялізны.

## ЭПІЛОГ

**Урок спражэння**

Не забываецца той урок,
не зарастаюць прагалы...
«Дзеці,
вы вывучылі урок?
Дзеці,
вы праспрагалі?
Я іду,
ты ідзеш,
а ён не ідзе —
ён мёртвы.
Я пяю,
ты пяеш,
маўчыць кожны чацвёрты.
Мы ідзём,
ідзяце вы,
грунт пад нагамі цвёрды.
Яны не ходзяць —
не жывы
кожны чацвёрты.

Любім мы,
любіце вы.
Колькі дзятвы,
травы,
сінявы! —
Хоць сэрца насцеж разгортвай.
А каб яшчэ ды быў жывы
кожны чацвёрты!

# *Сяргей Законнікаў*

## НА ПАРТЫЗАНСКІМ АЭРАДРОМЕ

Прыйду сюды адзін маўклівай ноччу,
Калі раскіне цемень свой шацёр.
Нібыта мой сігнал чакае лётчык,
Запальваю аж да нябёс касцёр.

Вакол пасталі сосны у дазоры...
Мне полымя вышэй узняць карціць,
Хоць ведаю, што ён, чырваназоры,
З гадоў грымотных зноў не прыляціць.

Падкладваю ў агонь сушняк старанна,
З травой, з сівым туманам гавару,
Пакуль касцёр, што ўзняўся над палянай,
Не перальецца раптам у зару.

## *Віктар Ярац*

### БЫЛАЯ ПЕРАПРАВА

Там зоркі на хвалях
пужлівых
калышуцца ноччу, а днём,
як промні, пякуць успаміны
пра ўсіх, хто пайшоў на дно.

Рака пасівела, змаршчынела.
Вачамі ўспамінаў — віры.
Глыбокаю ранай
пчымліваю —
палоска вячэрняй зары.

Здзічэлыя грушы на кручах.
Як сведкі вякоў — валуны.
Кранаецца вецер балюча
акопаў мінулай вайны.

Знямелыя ў горычы травы
і ў хмарны, і ў сонечны дзень.
Воблакі
воблікамі людзей
плывуць над былой
пераправай.

## *Алег Лойка*

### ПРАЛЕСКІ Ў АКОПАХ

Яны ў старых акопах расцвілі —
Няхай жа вечна тут цвітуць пралескі,
Каб больш крыві акопы не пілі,
У дыме бомб не чэзлі пералескі.

Маўчыць халодны, заімшэлы дол,
Яны ж агеньчыкамі цепляцца на груддзі —
І ўсё ад іх цяплее навакол,
І дыхаюць вальней зямля і грудзі!..

## *Мікола Маляўка*

### МЛЕЧНЫ ШЛЯХ

У абелісках ты, зямля,
Нібы з нябёс асыпаў зоркі Млечны Шлях
На курганы —
Святла
І смутку ўзгоркі.

Ад зорак светла ў галавах
Тваіх герояў незабытых, Млечны Шлях,—
У соснах,
У бярозах,
У ракітах.

Масцілі праз агонь і жах
Твае равы і пераправы, Млечны Шлях
Выпрабаванняў,
Памяці
І славы.

Не гасяць зорак у палях,
На плошчах тых, дзе спяць салдаты, Млечны Шлях,
Твае вятры,
Дажджы
І снегапады.

На зоркі, на свяшчэнны прах
Рука чужая меч падыме — Млечны Шлях,
Мы
Самі станем
Зоркамі тваімі.

Ты свеціш нам на курганах,
На ўсіх сцяжынах і арбітах, Млечны Шлях,—
У соснах,
У бярозах,
У ракітах.

## *Зінаіда Мінчанка*

### УРОК МУЖНАСЦІ

Лінейка ў школе. Мужнасці урок.
Чакаюць незвычайнага героя.
Я вучням не расказвала знарок,
Адкуль сягоння прыйдзе госць і хто ён.

І ён прыйшоў. Маўкліва шапку зняў.
Глядзелі вучні нейк расчаравана.
Няёмкая сляпая цішыня,
Бо ведалі кульгавага Сцяпана.

Ды і герой не пачынаў, маўчаў.
Разгублена глядзеў ён, з неспакоем.
Няёмкасць нейкая была ў вачах,
Нібы казаў: які ўжо там герой я?

Пасля пачаў...
Не аб сабе самім,
А пра свайго таварыша Івана.
Да самага Берліна йшоў ён з ім,
Да светлай той вясны доўгачаканай.

Расказваў, як Іван уперад вёў
Байцоў, як побач рваліся снарады.
Атакі, пераправы, гул баёў
Пад Мінскам, Оршай, Курскам, Сталінградам...

— Было, ляжаў знясілены ад ран
Я ў доме, што палаў,
Канаў у дыме.
Ды ўскочыў тут у полымя Іван —
Хоць сам гарэў, мяне з агню ён вынес...

Сцяпан закончыў.
Нехта запытаў,
За што ён атрымаў медаль і ордэн.

— За Сталінград...
Расказваць ён не стаў.
— А сябар ваш Іван, адкуль ён родам?

— Івана ж вам магу я паказаць...—
Сцяпан зірнуў на вучняў хітравата,
Кіўнуў туды, дзе сціпла, у слязах,
Стаяў ён — іх сівенькі матэматык.

# *Мікола Чарняўскі*

## БАЛАДА НАДЗЕІ

*Памяці Браніслава Іосіфавіча Стукіна —*
*ураджэнца Вілейшчыны,*
*салдата вайны,*
*які не вярнуўся з поля бою*

І зноў адвярнуўся ад пошуку лёс,
І зноў суцяшэння адказ не прынёс:
«Не значыцца, згодна папер франтавых,
Ні ў спісе забітых,
Ні ў спісе жывых...»
А хіба ад гэтага стала лягчэй —
І зменшала ўдовіных слёз і начэй?
А хіба ад гэтага сыну спакойна —
Ад раны сірочай,
Нічым не загойнай?
Напэўна, здараецца рэдка, ой, рэдка,
Каб сэрца сагрэла з архіва даведка,
Даведка аб горы,
Даведка аб смерці,—
Не шмат суцяшэння ў казённым канверце.
Мо толькі на боль свой
Прымусіць забыцца
Ды сэрца ўтрапёна прымусіць забіцца
У міг той:
«А можа, нарэшце, а можа?..»

Ды след засцілала
Чакання пароша —
Надзеі пакутлівай след...
А сын падрастаў неўпрыкмет,
І татка —
Адно з успамінаў
Матулі
Вяртаўся да сына.
Вяртаўся на родны парог.
І сын у журбе
Яго вобраз бярог:

«Чарнявы сабой, кучаравы,
А рукі —
Умелі усё, без прынукі
Нястомна да справы гарнуліся —
Быў працавіты...»

І, мабыць, няма ўжо на свеце —
Забіты.
Хоць вочы, здаецца, здалёк
Ім свецяць —
І жонцы, і сыну:
«Я з вамі, я з вамі дагэтуль —
І я не загіну...»

*

Аднойчы у сне
Завітаў ён да сына:
«Я рады, Валерый,—
Ты слаўны хлапчына!
Я знаю, не год,
А ўжо многа гадоў
Маіх вы дарэмна шукалі слядоў.
Дык знайце ж:
Без вестак я, сын, не прапаў —
На полі далёкім
Пад кулямі ўпаў.
З пахода не мог я вярнуцца у хату —
Суровую долю
Даў лёс мне, салдату.
Мой сон берагуць
І граніт, і пясок.
Я веру, мой след адшукаеш, сынок».

І сын, куды б клопат яго ні закінуў,—
Спыняўся ля брацкіх магіл на хвіліну
І прагна чытаў
На граніце імёны:
«А можа, мой бацька між іх памянёны?
А можа, праз гэтулькі летаў і зім
Тут раптам знайду,
Тут сустрэнуся з ім?..»

Ды чуўся прыглушаны голас граніту:
«Не тут ён забіты,
Не тут ён забіты...»
І зорка, што вогненна ўвысь узнялася,
Цьмянела:
«Не тут яго кроў пралілася...»
І суха пясок шапацеў надкурганны:
«Не тут пахаваны,
Не тут пахаваны...»

*

Над Эльбаю ранак
Блакіт расхінуў яснавока.
І лёгкім хмурынкам —
Высока,
І спевам птушыным —
Шырока.
І плошчаў і сквераў
Абновай зялёнай, квяцістай
Каменна-задумлівы Дрэздэн
Сустрэў экскурсантаў-турыстаў —
Гасцей з Беларусі,
Сяброў і братоў...
Ідуць яны плошчай,
Над імі ж —
Гамонка вятроў і лістоў.
Такі ж, як і дома,
Над імі у сонцы блакіт,
І дыхае свежасцю весняй
Свавольны вятрыска
З ракі.
Ён, Дрэздэн,
Гасцей сустракае —
І выслаў наперад раку:
Як бохан той,
Сонца трымае —
На хвалі —
Сінюткім сваім ручніку.
Над Эльбаю ранак
Блакіт расхінуў яснавока.
Ідуць яны...
Дораць усмешкі...

Чужая гамонка павокал...
Над Эльбаю ранак —
Звычайны для ўсіх краявід.
Чаму замаўчаў нечакана,
Нібыта задумаўся гід?
І раптам спыніўся,
І група на месцы застыла —
Стаялі яны перад помнікам,
Брацкай магілай.
Віруе агонь... Мармуровыя пліты...
І золата сонца, і золата літар...
Імёны... Імёны...
Міколы часцей ды Іваны —
Байцы-вызваліцелі нашы
На гэтай зямлі пахаваны.
Імёны... Імёны...
Рыгоры, Вано, Браніславы —
Айчыны сыны-пабрацімы,
Сыны нашай доблеснай славы.

Суровая памяць.
Суровыя пліты.
Суровы граніт.
І толькі адзін з экскурсантаў
Не чуе,
Што кажа ім гід.
Ён воддаль спыніўся,
Яго ні аб чым не пытае.
Напружыўшы позірк,
Імёны на плітах
чытае,
чытае,
чытае.
І раптам затахкала сэрца:
На мармуры шэрым, халодным
Застыў яго позірк
На прозвішчы,
Гэткім знаёмым і родным!
Застыў, як прыкуты,
Знямелі, бы ў роспачы, рукі,
І толькі збялелыя губы
Чытаюць-вышэптваюць: «Стукін...»
І толькі надзея,

Пакутная гэта надзея,
Ў ягоныя вочы і сэрца
Праз даль,
Праз гады
Паглядзела.
Асколкамі промняў заззяла
Над ціхай дамоўкай салдата.
А губы, а губы шапталі:
— Я веры̆у, што ўбачымся, тата.
Адно не чакаў я,
Адно мне было невядома,
Што гэтак далёка
Сустрэну ад роднага дому.

Маўчалі турысты —
Сябры і браты з Беларусі.
А сын да пліты мармуровай,
Нібы да грудзей, прыхінуўся:
Здалося, праз камень,
Праз цемру,
Праз жвір,
Небыццё —
Бацькоўскага сэрца пачуў ён біццё.
І голас, здаецца, пачуў ён,
Прыглушаны жвірам,
Ды блізкі:
«Ты помніш, казаў я —
Сустрэнемся ля абеліска?
Як рос,
Як жылося, мой сынку?
Які ты сабою?
Даруй, я не бачу цябе —
Запарушаны вочы зямлёю.
Такім,
Як пакінуў вайною,
Такім толькі бачу:
То звонка смяешся наранку,
То зойдзешся раптам ад плачу...»
— Даруй мне і ты:
Я ж таксама, цябе я таксама
І чую, і бачу такім,
Як у смутку расказвала мама:
«Чарнявы сабой, кучаравы.

А рукі —
Умелі усё, без прынукі
Нястомна да справы гарнуліся —
Быў працавіты...»
Павер, ты праз годы
Ні мною,
Ні ўнукам тваім
Не забыты...
Парáй, што матулі сказаць,
Як дахаты вярнуся.
Прызнацца ёй шчыра,
Павер мне, баюся, баюся.
Яна ж не забыла,
Дагэтуль чакае і верыць:
Ты вернешся, тата,
Пастукаеш раптам у дзверы,
Ты недзе жывы,
Не згарэў,
Не засыпан чужою зямлёю,
А проста дарога з вайны
Стала доўгай бясконца,
Крутою!
Ці трэба надзею,
Што весніцца ў сэрцы,
Згасіць назаўжды?..
«Сынок, я цябе зразумеў...
Я кахаў яе моцна
І ведаю, любіш і ты...
Павер, будзе лепш,
Як пачуе,
дазнаецца праўду ўсю,
Праўду,
Салдацкую горкую праўду,
Што вышай за смерць і за здраду.
Я поля вайны не пакінуў,
Цябе і яе не пакінуў:
Я міру і шчасця хацеў на зямлі
І за гэта загінуў.
Яшчэ папрашу:
Ад мяне
Абеліскам на роднай зямлі пакланіся —
Сябры франтавыя мае
Там, сынок, назаўжды засталіся...»

...Стаялі мужчыны ў маўчанні,
Стаялі жанчыны ў скрусе —
І чэхі, і немцы, а з імі
Сябры і браты з Беларусі.
Набегла хмурынка.
Дажджынкі
Па золаце літар сцякалі —
Нібыта расстання слязінкі
Прабіліся раптам праз камень.

# *Зінаіда Дудзюк*

## ВЯРТАННЕ З ВАЙНЫ

Ён сорак год ішоў з былой вайны,
Бяспамятны, знядолены вайною.
Не мог заснуць да рання ў цішыні,
Пытаўся ў сноў і явы: «Скуль я? Хто я?»

Ён на людзей з надзеяю глядзеў:
Мо нехта з іх пазнае ў ім салдата?
Ці даваенны ўспомніць нейкі дзень,
Або прызнае сына ў ім ці брата?

Ён сорак год не пакідаў шпіталь.
Чужыя людзі дарагімі сталі.
І сорак год
цяпло іх, дабрата
Яго [redacted] нябыту да жыцця вярталі.

Нібы дзіця, ўзіраўся ў даўніну,
Калі здалёку прывідна і шчасна
Матуля прыгадалася яму,
І родны дом, і дзень маленства ясны.

Успомніў потым некага [redacted] сяброў,
Пачаў чакаць радню на Беларусі,
Як памяць шуганула ў ім кастром...
Праз сорак год салдат [redacted] вайны вярнуўся.

## *Таіса Мельчанка*

### НАС НЕ БЫЛО...

Нас не было на свеце,
А вы ўжо ў танках гарэлі.
Вас град свінцовы рашэціў,
Кашулі, як мак, чырванелі.

Вам бы, хлопцам бязвусым,
Дзяўчат абдымаць употай.
А вы крываніл вусны,
Кідаючыся на дзоты.

Вам бы яшчэ дужэці,
Як тым таполям гонкім.
А ўжо аб вашай смерці
Крычалі пахаронкі.

...Колькі вас, не каханых,
Зямля прыгарнула да сэрца.
Памяць нягойнай ранай
Вечна будзе гарэці...

## *Сымон Блатун*

### АЎТОГРАФЫ НА КАМЕНІ

*Героям Брэсцкай крэпасці*
*прысвячаецца*

Пашчапаны сцены воспаю свінцовай,
А раты байніцаў сталі са шчарбінамі:
Тут вайна пісала на жалезнай мове —
Кулямі, снарадамі і мінамі.

І сціскалі лапы крэпасць мёртвай хваткай,
І глушыла неба грознымі абваламі...
Чую, разважаюць: — Вось была дзе кладка,
Як жалеза, моцная, трывалая.

Балагураць двое пра абпал цаглінаў,
Пра раствор хітрушчы, што рабілі прадзеды:
Не расшчэпіць цэглу ні снарад, ні міна,
І нішто не зможа рады даць.

Толькі не, не цэгла вытрымала шквалы —
Баранілі людзі кожны подступ сэрцамі,
Паміралі ў ранах з думкай не аб славе —
Са святою думкай, што свабода вернецца.

Бачу — вось ён, воін, у бінтах барвовых
На сцяне кінжалам выскрабае літары:
«За Радзіму паміра...» — і словы
Тут крывёй палітыя.

Моўчкі я праходжу па сырых фарпостах,
Кожная рэліквія для мяне святая...

Раптам прыпыніўся з сэрцам гнеўным, злосным,
Іншае на сценах я чытаю:
«Мы былі ў крэпасці Вова, Муся, Жора»,
А далей і дата — год... шэсцьдзесят пяты.

Я хацеў бы крыкнуць вовам, мусям, жорам:
Гэй, хутчэй сатрыце вы свае каракулі,
Тут жа кроў пяклася і дыміўся порах,
Не адна матуля тут па сыне плакала!

Нам заўжды свабода каштавала дорага,
За яе мы ў бітвы грозныя хадзілі...
Дык няхай жа ззяюць золатам аўтографы
Партыі, народу і Радзіме.

## *Казімір Камейша*

### ЦАГЛІНА БРЭСЦКАЙ КРЭПАСЦІ

Цэгла гэтых муроў
Чырванее, што кроў.
Вы пад ёй правярайце трываласць
Нашых рук,
                    нашых слоў,
Мужнасць нашых сыноў,—
У двух печах яна гартавана.
Першай печчу цагельня аднойчы была,
Чырвань мірнага полымя ёй аддала.
І была яшчэ печ
З назвай страшнай «вайна»,
Разам з цэглай людзей апаліла яна.

...Цэгла гэтых муроў
Чырванее, што кроў.
Яна з крыку уся,
Яна з болю уся.
Колькі ж можна яе абпальваць?!
...Калі ў рукі цагліну я ўзяў,
Апякла яна рукі і памяць.

## *Анатоль Вялюгін*

### БАЛАДА
### ПРА КІРЫЛУ АРЛОЎСКАГА

Здабыта часіна спакою
У штурме царовых палат —
З вінтоўкай пайшоў баразною
За плугам акопнік-салдат.



Крокі ворага
Чуеш, орле, чуеш
Здаля?
Пахне порахам,
Пахне спелым хлебам
Зямля.

У рыжых спарадных разорах
Валенсіі вогненны дол.
Туды, у іспанскія горы,
Ляціць русачубы арол.

Крокі ворага
Чуеш, орле, чуеш
Здаля.
Пахне порахам,
Пахне горкім пылам
Зямля.

У пушчы арол не бядуе —
І дома спакою няма:
Сляды замятае, бінтуе
Гарачыя раны зіма.

Крокі ворага
Чуеш, орле, чуеш
Здаля?
Пахне порахам,
Пахне чорным снегам
Зямля.

Настала жаданая ціша,
А нам у дарогу якраз —
Ніколі Радзіма не спіша
У бестэрміновы запас.

Крокі ворага
Чуем, орле, чуем
Здаля.
Пахне порахам,
Пахне спелым хлебам
Зямля.

Шануе адважныя сэрцы
Арлiная наша сям'я.
На кожнай салдацкай паверцы
Гучыць ветэрана імя.
Чуеш, орле?
Чуеш?..

## *Максім Лужанін*

### МАДОННЫ

*Міхасю Савіцкаму,*
*аўтару карцін «Партызанская мадонна»*
*і «Мадонна Біркенау»*

Са старасветчыны да нашых дзён
Майстрамі шмат пакінута мадонн,
Я — не пра ўсіх...
                    Даруй мне, Рафаэль,
Даруйце, Леанарда, Багдановіч,
Здабыткаў вашых словам не падновіш,—
Мой час пачаў брадзіць, шыбае ў вочы хмель.

Задумны твар мадонны партызанскай
Нам паказаў мастак...
                    За ёю ажылі
Мадонны ў шынялі, з угнутай каскай,
Што цягнуць раненых праз мінныя палі;
Мадонны за рулём — камбайн сярод пшаніцы,
А дзіцянё ісці не хоча з рук;
Мадонны ў цэху, там шкловалакно ільсніцца,
А грудзі знаць даюць, каб пасмактаў хлапчук...

Я мог бы шмат назваць, але нашто імёны?
Няшчасны, хто не стрэў хоць аднае мадонны.

Мадонны! Кажам мы і мацяркам сваім,
Саджаем, гордыя, іх на мастацтва лаву,
Але перад усім і над усім
Ёсць найсвятлейшы твар — Мадонна Біркенау.

Хоць да пятлі цягнулася далонь,
А помста мастаку прапальвала палотны,
Стрываў ён, асудзіў на бессмяротнасць
І ката, што пагнаў яе ў агонь.

## *Яўгенія Янішчыц*

### САВА І МАРЫЯ

Мой паклон табе сардэчны, хата
(Дзякуй, што і я ў гасцях была!).
...Зберагаў хто серабро і злата,
А Марыя Саву берагла.

Колькі часу лютая стыхія
Апякала вогненнай вайной...
Гарачыўся: «Кінь мяне, Марыя!
Як са мной — то лепш ужо адной».

А Марыя ветла ўшчувала:
«Саўка, не іграй, нібы ў кіно».
Мыліцы паспешна падавала,
Адчыняла ў белы сад акно.

І дарожак збітых не лічыла,
Чорны скарб трымаючы ярма.
Колькі год прайшло з тае, Айчыннай —
Гэтулькі! — адхлання ім няма.

Секане па сэрцы слова «тата».
Слова «мама» — громам ля вушэй.
Сцеражэ хто серабро ды злата,
А Марыя — Саву сцеражэ.

Ой вы, косы доўгія, сівыя,
Ой ты, сукні выцвілай скалых!
Як малітву: «Сава і Марыя!»
Вымаўляю я імёны ўслых.

Калі хто пра серабро ды злата
Мысліць у чаканні перамен,
Вашая,
над Ясельдаю,
хата
Перад цэлым светам, як рэнтген.

Калі сэрца падае ў адчаі
І трасе мяшчанскі землятрус,
Вашымі бяссоннымі вачамі
На мяне глядзіцца Беларусь.

Ой вы, ночы доўгія, глухія,
Думак неадольных асаўё!
Гой ты, доля — Сава і Марыя —
Прычашчэнне церпкае маё.

## ЖУРАЎЛІНЫ РЭКВІЕМ

*Памяці П. М. Машэрава*

Вы рабочым былі між рабочых,
Між сялян — галубінай душой.
Хлеб сірочы і попел сірочы
Падзялілі з Радзімай сваёй.

Журавель закрычаў з паднябесся,
Спалатнела зямля, як абрус.
Захліснула пякучая вестка,
Скаланула усю Беларусь.

Вы з пякельных дарог выраста́лі,
Паўставалі з агню, як з былін,
Пушчы сын, Камісар і Настаўнік,
І арлінага племені сын.

Санцалюбам былі ад прыроды,
З краем, з болем яго — спарышы.
Вы паэтам былі. І з народам
Гаварылі на мове душы.

І паверыць у смерць немагчыма,
У аркестраў жалобную медзь.
Залатою бярозкай Радзіма
Выйшла Вас на дарозе сустрэць.

*Янка Непачаловіч*

## КАЛЮЧЫЯ ДРАТЫ

Я сам не ведаю, чаму так,
Калі пабачу плот з дратоў,
Душу цяжкі агорне смутак —
Ламаць, крышыць той плот гатоў!

Ці мо таму, што гэтым дротам
Спавіты край быў родны мой?
І за такім калючым плотам
Жывых закопвалі зямлёй?..

Ці мо таму, што плач дзіцяці
За дротам тым навекі глох?
Ці мо таму, што сын да маці
З-за тых дратоў прыйсці не мог?..

Ці мо таму, што за мяжою
За дротам — тысячы братоў?..
Драты, пакрытыя іржою,—
Гарыць на іх людская кроў.

## *Вячаслаў Дашкевіч*

### КАЦЮША

Вада гарэла, і кіпела суша,
І неба громам на кавалкі рвала.
І ўсе падумалі: «Кацюша»
Даўно у рускіх існавала.

Яна спаўна ў сябе ўвабрала
Радзімы рысы дарагія.
Стынь Запаляр'я, жар Урала
І мора Чорнага валы тугія.

Пакуль стваралі там звышрасу
І ў барабаны гучна білі,
Мы не гублялі дарма часу
І неабходнае рабілі.

І сёння ў нас над галавой
Той-сёй спрабуе базы строіць.
Касмічнай зброі тчэ сувой,
Каб свет на лад свой перакроіць.

Я гэту тэму закрануць
Не па сваёй ахвоце мушу.
Няўжо ім хочацца пачуць
Яшчэ раз рускую «Кацюшу»?

Не разумеюць, хоць ты трэсні,
Ні ў добрым, ні ў благім настроі,
Што лепей слухаць нашы песні,
Чым слухаць голас нашай зброі.

## *Паўлюк Пранузa*

### О ПАМЯЦЬ, ПАМЯЦЬ...

Пажоўкла кніжка запісная —
Салдацкі дзённік баявы.
Па ім я часта ўспамінаю
Шлях да рэйхстага агнявы,

Сяброў, з якімі ваявалі,
Ішлі праз вёскі, гарады.
О памяць! Памяць! На прывале
Ніколі не бываеш ты.

# *Уладзімір Шахавец*

## КУРГАНЫ

Мы нямала ўжо іх раскапалі,
Вывучаючы ўважна знаходкі,
Каб спазнаць, як жылі, ваявалі,
Як дужэлі нашыя продкі.

Іх жыцця неспакойны бераг
Узрываўся гісторыі гулам.
Мы, зыходзячы з сённяшніх мерак,
Захапляемся тым мінулым...

Як не ўспомніць «Курган» Купалы,
Што праслаўлены песняй паэта!
З кургана таго гуслі-цымбалы
Без раскопу звіняць над светам...

Бы нязгаснае славы помнік
І трыумф баёў справядлівых,
Той курган, што ўзвышаецца сёння
Ля маскоўскай шашы імклівай.

Беражыце яго ашчадна,
Даглядайце яго старанна.
Не капайце яго, нашчадкі,
Бо пад ім вайна пахавана.

# *Васіль Зуёнак*

## ПРЫЦЯГНЕННЕ

**Тры раздзелы з паэмы-рэпартажу**

### ПРЫЦЯГНЕННЕ

> ...Атрымаў томік вершаў на «Праграсе» на сваёй роднай беларускай мове... І назва «Нача» — родная. Гэта рачулка, якая цячэ непадалёку ад нас. Невялікая, але вельмі маляўнічая.
>
> З касмічнага рэпартажу У. Кавалёнка

Я ляцеў кавалачкам Радзімы,
Я ляцеў лістком Зялёнай Пушчы.
Я ляцеў — бязмежнай і адзінай
Сіняй памяццю крыніц відушчых.

Памяццю, што плыткую бязважкасць
Узрывае сілай мегатоннай.
Я ляцеў, каб па-зямному цяжка
Сніўся сон бязважкаму Фатону.

Я ляцеў: і слова, і травінка,
Што ў касмічнай стыні прарастае.
Я ляцеў — як подых той галінкі,
Што сусветаў рубяжы хістае.

Я ляцеў у зорнае імгненне —
Як пылінка з палявога тракту,
Што трымае ў полі прыцягнення
Сорак тысяч вогненных галактык.

Я ляцеў, каб з роднаю зямлёю
Нітаваўся вырай твой высокі.
«Вось яна — не расставайся з ёю»,—
І крылом я расхінаў аблокі.

Бачыш — небам засінеў бульбоўнік —
Цвет далёкай радасці дзяцінства,
І сланечнік палісаднай поўняй
За штыкет вячэрні закаціўся.

Бачыш — маці з цёплага падворку
Стоена ўглядаецца да неба:
Каб жа хто не ўрочыў тую зорку,
На якой табе вяртацца трэба...

Чуеш — вецер у дубах зашастаў,
Чуеш — хваляй б'ецца ў бераг Нача,
Чуеш — камень уздыхнуў мышасты:
Метэорны сон, відаць, пабачыў...

## СЕМ КІЛАМЕТРАЎ

> Па сем-восем кіламетраў штодзённа праходзілі касманаўты на бягучай дарожцы.
>
> З выступлення акадэміка А. Газенкі

> Ад белага да Зачысця? — кіламетраў сем з гакам.
>
> З даведніка «Дзядзька на прызбе»

За чысцікам — Зачысце,
Сіўцамі шлях зарос...

Ды птушак хор вячысты
Не атрасае рос.
І пеўня спеў гарласты
З касмічнае страхі —
На дождж грыбны і часты
З дынамікаў сухіх.

Арбітаю імчышся —
Прастор і вышыня!
І зноў, як у Зачысце,
Ідзеш, ідзеш — штодня.

Дакоскі ці дажынкі,
Імжа ці лістапад —
Адна, адна сцяжынка:
Ні ўперад, ні назад.

І тыя ж кіламетры,
Як і да школы — сем —
На борце праз сусветы
З табой «Салют» нясе.

Сталёвая лагчынка,
І гумавы мурог,
Вучоная спружынка —
Як матылёк — з-пад ног.

За чысцікам — Зачысце...
Бяжком, трушком штодня,
Не гонкі, ды плячысты,
Бо з кавалёў радня.

І думак рой заўсёды
Лавіў адну з прыкрас,
Што боты-скараходы
Былі б у самы раз.

А ты — у чаравіках,
Што кашы просяць год,
Не па назе вялікіх,—
Адольваў пераход...

Валодзя Кавалёнак,
Да школы роўна сем! —

І певень зноў натхнёна
Б'е крыллем на страсе,
З дынаміка спявае:
Хутчэй, хутчэй на ўрок...
Зачысце падлятае —
Бліжэй, бліжэй на крок.

Крылата целагрэйка
Шугае з-за плячэй...
Па каляіне глейкай —
А ці вось тут лягчэй?..

Ні дрэўца, ні прыпынку,
Сцяною — далягляд...
Бяжыць, бяжыць сцяжынка —
Ні ўперад, ні назад...
І толькі ў памяць выйсце —
Звініць, звініць званок.

Ад Белага ў Зачысце —
Адзін касмічны крок.

## ПОГЛЯД

> ...Глядзіш на Зямлю — маленькая ўсё ж яна...
>
> З расказа У. Кавалёнка

Мудрэц — вачыма мудраца,
Купец — кішэняю купца,

Змагар — магутнасцю вяршынь,
Падліза — языком з аршын,

Араты — хлебам на стале,
Лятун — чырвонцам на крыле,

Бядак — бядою бедака,
Бягляк — нагамі бегляка,—

Так на зямлю глядзелі,
З ёй і пілі, і елі,
І клаліся ў магілы
Пад шум бяроз пахілы...

Вачыма Космасу глядзім,
Багамі ў небе спім, ядзім,

Па моры вечнасці плывём,
Па волі вечнасці жывём,

Глядзім вачмі прыроды
На лёсы і народы.

І ўжо карэннем мы ўраслі
Ў той грунт без чорнае зямлі,

І апалілі крылы
Касмічныя магілы —
Без глыбіні, без берагоў...

О, не рабіце з нас багоў!..

Бо ўжо здаецца нам здаля
Такой маленькаю зямля,

Ад пікаў да глыбіняў дна
Яна адразу ўся відна,

Яна слязінкаю дрыжыць,
А на слязінцы — людзям жыць...

О, не тварыце нам імён —
Бывае слава, як праклён,
Калі — маленькая — здаля
У вочы вам глядзіць зямля.

# *Артур Вольскі*

## ВЯСЕЛЬНЫ КАРТЭЖ НА ПЛОШЧЫ ПЕРАМОГІ

Тут —
        у вайну —
прайшлі дарогі
на Захад
з усяе Русі.

Ляціць да плошчы Перамогі
картэж — паўтузіна таксі.
Ужо кладзецца
                        Шляхам Млечным
асфальт пад ногі маладых.
Агонь,
што мы назвалі Вечным,
нібы жар-птушка,
вабіць іх.
Але не ім спявае ранак.
Ён прысвячае тым свой спеў,
хто не вярнуўся да каханых
ці закахацца не паспеў,
па кім дагэтуль жонкі плачуць
у скрусе вечнай і святой,
хто не пабачыў і не ўбачыць
дачку пад шлюбнаю фатой
ці сына ў чорным гарнітуры
за шклом таксі,
                        як у акне,
па кім жалобныя хаўтуры
вятры спраўлялі на вайне.
Прабачце мне,
                        сябры былыя,—
раптоўных слёз не адганю.
Пяро жар-птушкі
                        маладыя
бяруць ад Вечнага агню.

# *Мікола Мятліцкі*

## ДЗЕСЯЦЬ ПРАЦЭНТАЎ

> 10 % — такі лік страт у будучай ядзернай вайне прагназіруюць тыя, хто прагне яе распачаць.
>
> З газет

Нас — дзесяць працэнтаў — з шара зямнога
Сыдзе ў магчымай вайне.
Нам далакопы кажуць: нямнога.
Вельмі нямнога смерч заглыне.
І дапускаюць: такое магчыма...
Дзесяць працэнтаў, заложнікі, нас.
...Неба зямное працята вачыма,—
Ядзернай смерці папас.
Смутна, пагрозна на кантыненты
Чорныя хмары ляглі.
Ходзяць заложнікі — смерці працэнты,
Ходзяць яшчэ па зямлі.
Ціха, ледзь чутна над ядзерным светам
Кропля спадае дажджу.
Дзесяць працэнтаў —
У стоўпішчы гэтым
Дзённа і ночна хаджу.
Чую дыханне апошняй пагрозы.
Ядзерны смерч панясе
Вас па-за вёсачкай любай бярозы.
Дзесяць працэнтаў?!
— Усе!
Бой незагойны мружыць павекі,
Скрушная памяць трасе.
Там, па-за вёсачкай, выгараць рэкі.
Дзесяць працэнтаў?!
— Усе!
Ядзерным смерчам перажагнецца
Неба, што ўзмахам крыла.
Знаю: на доле, пад ім, застанецца
Дзесяць працэнтаў тла.

*Юрась Свірка*

**МІЛЬЁНЫ**

Каб войны спрадвеку мой край не малолі,
Было б нас не дзесяць — не дзесяць мільёнаў!
Народ не скараўся, наваламі скуты,
Заўжды праганяў ён захопнікаў лютых.
Аратамі славіўся і друкарамі,
Паэтамі, воямі і гуслярамі.
За волю шляхі паўсціланы касцямі.
І Грунвальд пацвердзіць. Забыць немагчыма,
Як гналі чужынцаў паўстанцы Вашчылы,
Як лезлі у край крыжаносцы лавінай.
Крывёй барвянелі палі і даліны.
Быў кліч Каліноўскага: «Гэй, беларусы,
Да зброі! Даволі прыгнёту, прымусу!»
За волю сваю і за лепшае шчасце
На дол змагарам давялося упасці.
Ахвяры прыносіў і час той далёкі,
Як ніішчылі люд наш з-за Віслы наскокі...
Жадалі вярнуцца да хат і да жвіру,
Ды іх праглынулі прасторы Сібіры,
Нянаскіх краёў і заморская далеч,
Свой лёс за мяжой землякі праклінаі.
І жаліцца песня на матчынай мове
Ў Канадзе, ў Аўстраліі і ў Аклахоме...

*

Не сотні — мільёны людзей недалічана —
Сыны Рудабелкі, Расонаў і Клічава,
Бягомля, Ушачаў, Шуміліна, Дрысы...
Вайны праясніліся грозныя рысы.
Вайны пераможнай, крывава-смяротнай,
Айчыннай, дзе спалены кожны чацвёрты.

*

З суседзямі ў дружбе жывём мы сумесна.
З Расіяй — не цесна і з Польшай — не цесна.
Здаўна з Украінай — сястрой прыдняпроўскай —
Па-брацку гаворым, пяём па-сяброўску.
Сяброў-латышоў не уявіш чужымі.
І ў бітвах мы разам, і ў шчасці мы — з імі.
З-за Нёмана чуем суседзяў літоўцаў.
У нас адна доля, у нас — адно сонца.
Між нас не пралеглі граніцы-разоры —
Лясы ў нас агульныя, рэкі, азёры.
І мова у нас — зразумелая мова.
Яднанне і дружба — адна ў нас аснова.
Гукні: «Колькі год жыць у мір улюбёным?»
І рэха падхопіць: «Мільёны, мільёны!»

# *Яўген Міклашэўскі*

## ХАТЫНСКІ ЗВОН

Вось і Хатынь...
Толькі гукі жалобных званоў.
Клопат адкінь
І паслухай званы каміноў.



Хіба не чутна,
Якія віхуры гулі
На шматпакутнай —
Святой беларускай зямлі?

Смутак званоў —
Гэта голас народнай бяды.
Колькі разоў
Адсыпаць нам старыя сляды?

Хіба ж не бачна,
Які гэта ранішні край?
З песняй удзячнай
Ён зноў сустракае свой Май.

Ад гадавін
І ўрачыстых хвілін не лягчэй:
Попел руін
З кожным годам пячэ гарачэй.

Сеем ці жнём —
Б'юць трывогу над светам званы.
Колькі жывём —
Мы жывём на руінах вайны.

Гэта трывога,
Якой не суцішыць нічым,
Перасцярога
Загубленых жыццяў — жывым.

Гэта для ўсіх —
І вячэрні і ранішні звон.
І ні на міг
На зямлі не заціхне ўжо ён.

Хто нам пратрубіць:
«Назад! Да вытокаў сваіх...
Там не загубіць
Планету зласлівец і псіх».

Дзе ж напамін,
Што не пыл на дарогах пячэ,—
Попел руін
І ахвяр, не апошніх яшчэ.

Голас ахвяр
Не даходзіў спрадвек да жывых:
Гукі фанфар
Не адразу стамляюць наш слых.

Дрэва жыцця,
Што развейвала змрок і сутонь,
Шоўкам лісця
Не пагасіць нейтронны агонь.

Жахам хімерным
Здаецца наступны наш дзень.
Можа, павернем,
Калі мы да смерці ідзем?

Можа, прыпынім
І свой навуковы прагрэс?
Горад пакінем
І пойдзем у горы ці ў лес?

Вецер трывожна
Штоноч шамаціць у трысці.
Вецер, ці можна
Нам нейкае выйсце знайсці?

Хіба па слёзы
Мы ў дзень свой наступны ідзём?
Як мы пагрозы
Ад роднай зямлі адвядзём?

Спынімся? Збочым?..
Счакаем? Ды не, як відаць:
Мы не захочам
Усё, што стварылі, аддаць!

Шляхам пакутным
Мы будзем ісці, як ішлі,
Дымам атрутным
Прапісваць прагрэс на зямлі.

Воляй мільёнаў
Мы вырвем паходню ў маны.
Вечных праклёнаў
Не вытрываць богу вайны.

*О Беларусь, лясная ружа,*
*Зялёны ліст, чырвоны цвет!*
*У грамадзе савецкай, дружнай*
*Знайшла ты свой шчаслівы свет.*

**Уладзімір Дубоўка**

*Мой родны кут, як ты мне мілы!*
*Забыць цябе не маю сілы.*

**Якуб Колас**

# *Мікола Аро́чка*

## МАТЧЫНА ЖЫТА

Ідзе сяўба...
Зямлі патрэбна жыта.
Патрэбна жыта кранам, лемяхам,
маторам цягавітым і рукам,
абжытым берагам
і неабжытым.

Патрэбна жыта,
каб расправіць стан,
глыбіннай сілай выбухнуць чароўна
жыццю...
Зямлі далёка не ўсё роўна:
на полі родзіць
жыта ці бур'ян?

Зямля рунець жадае аксамітам.
Ёй не ўсё роўна:
сноп альбо акоп...
На свеце, пэўна, добра ўсё было б,
каб людзі болей думалі
пра жыта!
Каб думалі пра жыта гарады,
ў глыбінях — нафта,
ў домнах — плаўка сталі.
Каб думалі пра жыта магістралі,
асфальтавыя плошчы, правады...

Каб думала пра жыта неба!
На арбітах
і тут, на кожнай пядзі,
я малю:
не разлучайце жыта і зямлю!
Зямлю, крый бог,
не адбірайце ў жыта!

# *Раіса Баравікова*

## УСПАМІН ПРА ЦЁТКУ ЯНЮ

Можа, кляў гаспадарку: гары яна гарам.
Можа, меў востры зуб на суседа Кузьму.
І, аднойчы ўскіпеўшы, яе ён ударыў,
і яна пакланілася нізка яму.

...І калі на вазок ён падсаджваў другую
у яе на вачах, як купец на карму,—
адвярнуўся ад слоў: «Як жа я давякую?!»,
і яна пакланілася нізка яму.

А пасля лугавінай, нібы па кіліме,
да сялібы вяртаўся ён цераз зіму,
задыхаўся ад думкі: «А раптам не прыме?..»,
і яна пакланілася нізка яму.

# *Рыгор Барадулін*

* * *

Мы больш сваёй ахвярнасцю вядомы,
Мы, беларусы,
Мы — народ такі,
Ахвотна забываем, што мы,
Хто мы.
Згадаюць
Нашай памяці вякі!

Мы сціпласцю сваёй здаўна вядомы,
Саміх сябе хваліць нам не з рукі.
Хай слабакі
Аж падаюць ад стомы,
На плечы ўзяўшы
Пыхі мех цяжкі.

Мы ўсім сваёй гасціннасцю вядомы,
Надзейныя сябры і дружбакі.
І госць, і падарожны ў нас,
Як дома.
А злым і травы колюцца ў бакі.

Гатовы ўсё аддаць,—
І тым багаты,
Мы, беларусы,
Мы — народ такі.
Што з краю небяспекі нашы хаты,
Пра гэта
Не забудуць чужакі!

## У АДКРЫТЫМ КОСМАСЕ

Мама,
Колькі жыла,
Выходзіла ў космас
Цемры, святла,
У космас адкрыты,
Дзе чакалі
Даёнкі, матыкі, карыты;
У космас
Лесу, гароду, саду;
У космас клопату
Пра пагоду, пра ўроду, расаду.

І сам-насам з Сусветам,
Як з тым суседам,
Гутарыла і зябла,
Калі штоначы,
Часам плачучы,
Часам стогнучы,
Не чуючы ні рук, ні спіны,
Вартавала дбала
Карміцельку-яблыньку,
Якая ўцалела з вайны.
Абкладзеная падаткамі,
Нібыта ападкамі,
І яшчэ гусцей,
Яблынька
Яблыкаў чакала восенню
З бояззю,
Як мама гасцей:
Ці ўсім стане
Пачаставацца?
Трывога чакання —
Таксама праца.
Мама, бывала,
Палахліва драмала
На голай зямлі.

І калі
Яблыньку нехта кранаў,
Яблыкі сыпаліся —
І маму будзілі.
А незабудкі,
Санлівыя непрабудкі,

Глядзелі ўранні з канаў
У наіўным здзіве,
Як пыхлівая, забыўлівая радня.
А маму да пэўнага дня
Бяссонным вартаўніком
Назіркам,
З вока на вока,
Крадком
Пільнаваў лёс,
З усмешкай гледзячы
На гладышы, на ручасцікі, на гарнушкі,
На цёрлы, цабэркі, кадкі,
У якіх і днявалі, і начавалі
Зоркі,
Што намерзліся ў небе да слёз.
І моцна,
Відаць па ўсім,
Бог спаў у садзе сваім,
Бо там нехта яблыні трос
І густа сыпаліся
Знічкі-ападкі.
Ні разу маму не папрасіў
Стары
Прыгледзець і за ягоным садам.
Няйнакш там яблыні
Раслі галінамі дагары,
Таму на зямлю прасіліся
Зарападам...
Не ведаю, як для самога
Бога,
А для мамы
У космасе адкрытым
Бязважкага не было нічога.
Усё здабывалася
Потам, бяссоннем, спрытам,
Усё запрашалася
Ласкаю, ўгаворам, дакорам
У хлеў, уварыўню, ў кубло
З ляхі, з-пад страхі, з поля.
Усё цяжкое, важкое было,
Як доля...

## ЗА КАЛЯДНЫ СТОЛ

А я збяру гады старыя,
Што ад мяне ўцякалі ўпотай,
З дзядамі разам
На куццю.
На кут няхай садзяцца тыя,
Што мама няньчыла з пяшчотай,
Гады, прыемныя жыццю.
Ад маладых гадоў дзяды
Хай адвядуць сляды бяды.

Няхай, што не любіў калісьці,
Гады, бо валакліся сонна,
Далей садзяцца ад кута.
Яны мяне даўно зракліся,
А мне іх не хапае сёння,
А я ж без іх, што сірата.
Няхай траецкія дзяды
Паклічуць збродныя гады.

Хай ля мяне пасядуць поплеч
Гады, што не ўцяклі далёка,
Яшчэ я помню іхні крок,
Я помню іхні плач і поплач,
Мне левае дагэтуль вока
Свярбіць, нібыта назнарок.
Няхай калядныя дзяды
Уснежаць сцежку на клады.

А тыя, што пакуль мае ўсе,
Каб ліха іх не падлічыла,
Баюся пасадзіць за стол.
Хачу, каб гром куцці наеўся,
Каб добра ўгрэўся маразіла
І не ўкаваў глыбока дол.
Маўчаць гады,
Маўчаць дзяды.
Хоць ценем буду я сюды.

## СЫН ДЗЯДЗЬКІ ЯКУБА

Любіць здаўна перагукваца слова
Гукамі,
Быццам бярвеннем вянец.
Журыцца пушкінскае Бярнова,
Смуціцца коласаўскі Бервянец.

Вырай тугой даляцеўшы да Ніла,
Вернецца радасцю ў роднасць мясцін.
Ціха Альбуццю
Ступае Даніла —
Дзядзькі Якуба здарожаны сын.

Парассялілася ў свеце шырока
Шчодрая коласаўская радня,
Голас разважлівы,
Кемнае вока
І аратайная далання.

Рупна збірае
Даніла даніну
З сэрцаў гарачых,
Як [redacted] мазаля.
Хораша сыну,
Жывому ўспаміну
Бачыць,
Як рунню бярэцца зямля.

## ПАКОРА

*Валерыю Анісенку*

Хоць бяда начуе ў родным краі
Самапасам, як і лебяда,
Родны край сыноў не дакарае —
Па-бацькоўску кожнага шкада.

Родны край ласкава сына прыме,
Сын пакорна вернецца туды,
Дзе яго гады ў растайным дыме
Павялі за небакрай сляды.

І забудуцца былыя страты,
Як тваю далонь кране далонь.
Праз вакно даўно забытай хаты
Засмяецца, як сусед, агонь.

Тут не будзеш ты адзін ніколі,
Тут твая прытоміцца хада,
Тут з табою доля і нядоля,
Тут твая віна, твая бяда.

Крыўды забярэ зямля старая,
Напамін прыцішыцца ў журбе.
Родны край ніхто не выбірае,
Выбірае родны край цябе.

## *Святлана Басуматрава*

### ПУЦЯВЫ АБХОДЧЫК

Сярод калін
І скошаных траў,
Дзе вольна пчолам
І салодка восам,



Жыве сабе
Абходчык пуцявы,
Які сябруе
З рэйкамі і лёсам.

Драўляны дом,
Драўляны новы плот.
Пад вокнамі
З вяргінямі гародчык.
Ля дома ёсць
І сад, і агарод —
«Хадзяін спраўны»,
Пуцявы абходчык.

Адгаманіў званочкамі
Лужок,
Сягоння ён —
Куточак сенажаці.

Складзе абходчык
Роўненькі стажок,
Каб да вясны
Скарміць яго цяляці.

Вось тут бы мне
Праводзіць цягнікі
І кожную па паху
Ведаць зёлку.
Саліць у дзежцы
Хрумсткія гуркі
І цалаваць абходчыка
На золку.

...На шыбе
Промень сонечны дрыжыць,
Як птушаня,
Садзіцца на галінку,
Я выйшла б тут
І засталася жыць.
Ды мой цягнік
Не мае тут прыпынку.

Дарога без канца —
Мой вечны крыж,
Неўладкаванасць —
Мой жыццёвы почырк.
Крычыць:
— Ну што, прыгожая, глядзіш?
Мужык вясёлы,
Пуцявы абходчык.

*Пятро Бітэль*

## УНУКУ

Любіць сваё — зусім не значыць
Чужое ганіць, адмаўляць.
Вось за чужым свайго не бачыць,
Не вывучаць, не шанаваць —



Злачынствам будзе без сумнення,
Бо ёсць такі закон жыцця:
Шануй чужое аж да пакланення,
Сваё любі да самазабыцця.

## *Данута Бічэль-Загнетава*

### ПІНКАВІЧЫ

Маладую журбу тваю, Костусь,
што на змеевых воках,
аблоках,
на відомцах, пажарніцах, вострых асоках,
касачах і вятроўніках горка настоена,
шылахвосткі, крыжанкі
разгалосяць да Століна...

Духоўныя скарбы без кошту.

Патанулі сляды твае, Костусь,
у Прыпяці, Піне, чортавых воках.
У сэрцах нашчадкаў ясней.
Атрымала юнацтва бунтоўнага пошту:
«Спакойна і павольна,
як у зачараваным сне...»
        Прытуляецца Прыпяць да Піны.
        Напраскі праз балота з Пінска
        уцякае ад Піны Прыпяць,
        каб пасля нагбом яе выпіць.
Карчавальнік, бульдозер-бульдог, кустарэзы,
бароны, плугі, балотныя фрэзы
па куп'і, па карчах,
па рачулках, па лесе.
Але моцна трымаецца нораў Палесся.
        Вышываны вясёлкавы ўбор
        апранае Палессе святам.
        Не носіць крамнага корту.
        На адмежніку дуплаватым
        выцінае запеўкі азёр
        на маўчанне тваё, Костусь.

## *Генадзь Бураўкін*

### ПОЛАЧЧЫНА

Не шукайце красы за морамі,
Узбярэжжаў з крыштальнымі зорамі,—
Прыязджайце да нас на Полаччыну,
Пахадзіце яе прасторамі.

Тут азёры, як неба, сінія,
У чаротах чароды гусіныя,
А на дне Млечным Шляхам свецяцца
Трапяткія гурты язіныя.

Навальніцы грымяць пад кручамі,
З гор бягуць ручаі грымучыя,
Тут ля Дрысы сасонкі звонкія,
Над Дзвіною бары пявучыя.

Тут вясёлкай сонца кружана,
Усміхаецца з кожнай лужыны.
Тут на кожнага закаханага
Салаўёў па чатыры тузіны.

Тут дзяўчаты ўсе — чарнабровыя,
На палях ільны двухметровыя...
Тут пад кожным курганам і каменем —
Ці быліна, ці казка чароўная...

* * *

У звышсучаснай каламуці,
Нібыта «іжыцу» і «яць»,
Старыя правілы чамусьці
Мы пачынаем забываць.

Не прадпісанні-аднадзёнкі,
Што напяклі пісарчукі,
А нашых продкаў завядзёнкі,
Якіх трымаліся вякі.

Хіба іх помніць больш не трэба?..
Здавалася б, чаго прасцей:
«Не папракай кавалкам хлеба
Бацькоў, нашчадкаў і гасцей».

Чаго ясней:
«У беднай хаце,
Дзе на цвіку вісіць сума,
Не заікайся пра багацце,
Бо тут яго даўно няма».

І ўжо зусім ніякавата
Не знацца з ісцінай такой:
«Пажар тушыць і ставіць хату
Найлепш суседскай талакой...»

Усё праверана вякамі
І над бяздумнаю травой
Прыбіта вопыту цвікамі
На браме памяці жывой.

І хоць на мудрасць не скупая
Зямля, дзе сёння мы стаім,
Нам так часамі не хапае
Служэння правілам старым!

## *Васіль Вітка*

### СОСНЫ

Курган прыдарожны лясны,
Наверсе — дзве стромкіх сасны.
Як змалку за рукі ўзяліся,
Як змалку навекі зрасліся,
Так разам прабіліся ўвысі,
Да яснага сонца яны.

Ты першаю мне паказала:
«Зірні, як іх доля звязала.
Здалёк яны воку відны,
Іх пояць карэнні адны.
Іх вернасць, іх думы і сны
Крануць не паспее навала...»

Павер, варушыць не хацеў
Я памяці дзён тых і дрэў,
Хоць зноў над узлессем вясна
І тая ж дарога значна,
Ды толькі ў самоце сасна
Стаіць на кургане адна.

Другую навала зламала,
Кару ад кары адарвала,
Замоўк яе гоман, заціх.
А мне не забыць іх, дваіх,
Як песень шчаслівых тваіх,
Што ты колькі год не спявала.

Устань жа, сасонка, зірні,—
Ізноў ажылі карані,
Рубцы зацягліся смалою...
Я стану і сам тут сасною,
Навекі зрастуся з табою
На ўсе твае ночы і дні.

## *Анатоль Вялюгін*

* * *

Ад сталоў гасціны шумнай,
сумятні ўрачыстай
мы, бадзягі, легкадумна
уцяклі на прыстань.

І панёс Дняпро нястомны —
без кают, без класаў —
трох сыноў Дзвіны і Нёмна
на паклон Тарасу.

Захмяліла нас дарога
ў вербах прыбярэжных
пахам сена маладога
і дымкоў начлежных.

Колькі песень вечарамі
на Ўкраіне мілай!
У дарозе за плячамі
мы адчулі крылы.

Набліжаючы спатканне,
вырас над вадою
у смузе ружовай Канеў
летняй раніцою.

Кожны з думкамі сам-насам
прад святой гарою,
тут ідзеш, як да Парнаса,
лесвіцай крутою.

Пер'е цёплае аблокаў
Кабзара акрыла:
у вянку лясным высока
стаў ён над магілай,

над вякамі страшнай крыўды,
над чумацкай доляй,
што рыпела ад Таўрыды
з соллю слёз у полі...

Бачны стэпу, чутны свету
бацька сівабровы.
Гэтак лёгка, гэтак светла!
Гляньце за Дняпро вы —

што там?..
Водбліск рубіновы
грае ў яснай сіні.
У сям'і вялікай, новай
ёсць вяршынь вяршыня.

І відны заўсёды блізка
з гэтае вяршыні
вёска Вязынка ля Мінска,
Канеў на Ўкраіне:
то, сябры, з Масквы адразу
бачны сэрцу брата
помнік мудраму Тарасу
і Купалы хата.

## *Віктар Гардзей*

* * *

О край за дымкай палявою,
Тваё святло ў душы збярог.
І з горкім шчасцем, і з бядою
Іду сюды — на твой парог.

Перад узлескам чабаровым
Трава да пояса стаіць.
Ракочуць велічныя словы:
Жывому — жыць! Зямлі — радзіць!

Гарыць зара калінай спелай.
Заве грыбная парасля.
Каб толькі ж сэрца не счарсцвела
І ні сягоння, ні пасля.

Ах, колькі іх, людзей нявінных,
Няма, няма сярод жывых.
За іх, за іх любіць павінны
І гэты бор, і паплавы.

Зялёны мёд у звонкіх сотах.
Бусліны клёкат ручая.
О Беларусь, тваёй пяшчотай
Душа не ўсцешыцца мая!

## НЕЗАБУДКІ АЗЁР

Ля ціхай затокі, па плёсе,
Ёсць шчасце згадаць аб любві.
Сваіх я не высушу вёсел —
Плыві, мая лодка, плыві!

Крычаць патрывожана гусі
У мройны азёрны разліў.
А карта маёй Беларусі —
Як луг, што блакітна зацвіў.



Ля Браслава звоняць крыніцы.
Азёры Наддзвіння бруяць.
І вербы схіляюцца ніца,
І вёслы, і вёслы блішчаць.

Якая ж нязнаная сіла
І вабіць сюды, і заве,
Дзе Нарач нябёсы ўтапіла,
Дзе Свіцязь плюскоча ў траве.

Запеў пастушковае дудкі
Ля плёса яшчэ не замёр.
І росна цвітуць незабудкі
Маіх беларускіх азёр.

## *Сцяпан Гаўрусёў*

### ХЛЕБ-СОЛЬ

На ручніках, расшытых пеўнямі,
Хлеб-соль падносім для гасцей,
Вядзём за стол, каўшамі пеннымі
Частуем мёдам пагусцей.

І не хаваем — дзе падзенешся? —
Сваіх пачэсных мазалёў.
А трэба — крошкаю падзелішся:
Лепш сто сяброў, чым сто рублёў.

Наш дом з адкрытымі варотамі
На скрыжаванні ўсіх дарог,
Але з нявыцертымі ботамі
Не запрашаем на парог.

А тых, хто з каменем за пазухай
Збіраўся сесці за наш стол
(Маўляў, хоць пабалюю раз няхай),
І сёння корміць цвёрды дол.

Рукамі, ад спякоты чорнымі,
Што выціраць не любяць слёз,
Мы перамолвамі, як жорнамі,
Не раз, не два свой горкі лёс.

Але з пакорнымі далонямі
Мы не хадзілі на паклон,
Калі усходамі зялёнымі
Ад хцівых рук наш гінуў плён.

Спіной не гнуліся жабрацкаю...
І хоць шануем свой мазоль —
Мы дзелім хлеб рукою брацкаю,
І любяць нас,
і ў гэтым — соль!

* * *

Ці ясны дзень, ці дождж цярусіць дробны,
У думах адкаснуцца не магу
Ад дрэў,
        што ўзносяць верх крыжападобны
І ў спёку, і ў сцюдзёную смугу.

Лясы Радзімы!
                Як мы цэнім мала,
Што вы для нас прыстанішчам былі,
Што разам з намі доля вас ламала,
Ды вы цярпліва цяжкі крыж няслі.

Вы зберагалі гордую паставу
І бачылі праз кісяю імжы
Сваёй айчыны маладую славу
І — ворагаў драўляныя крыжы.

# *Ніл Гілевіч*

* * *

Ах, якая над Гайнай купальская ноч!
Самы раз бы шукаць кветку-папараць,
Самы раз уплятаць летуценні ў вянок,
Самы раз белы корань выкапываць!

Ды ні гуку над Гайнай — пад цёмным шатром.
Толькі зоркі — як вочкі Купаліны.
Дзе ж вы, хлопцы, дзяўчаты? Чаму за сялом,
Над ракою, агні не запалены?

Раскладайце, паліце купалля агні!
Не затым, каб ускрэсла мінуўшчына,
А каб лепей убачыць наступныя дні,
Да вытокаў душой дакрануўшыся...

Раскладайце агні — хай плывуць па рацэ,
Можа, ў зыркім святле іх вы ўгледзіце
Постаць Янкі Купалы з кійком у руцэ —
Запрасіце яго прысуседзіцца!

Ён вас, пэўна, папросіць «Каліну» спяваць
І, напэўна, ад слёз не стрымаецца,
Скажа: «Ах жа, якое купаллейка ў вас!
Ах, якую вы спадчыну маеце!..»

* * *

Край мой беларускі, край!
Дай мне прыгарнуцца, дай!
        Да твайго ляснога
        Вераснога долу,
        Дзе так шчасця многа
        Выпала на долю,—
Дай жа прыгарнуцца, дай!

Край мой беларускі, край!
Дай ты мне напіцца, дай!
Той вады гаючай
З той крыніцы вечнай,
Дзе ад ран балючых
Ты арлоў вылечваў,—
Дай жа мне напіцца, дай!

Край мой беларускі, край!
Дай ты мне паслухаць, дай!
Як на лад пявучы
Старажытнай мовы
Тут гамоняць пушчы,
Там шумяць дубровы,—
Дай жа мне паслухаць, дай!

Край мой беларускі, край!
Дай ты мне прайсціся, дай!
Па тваіх прасторах,
Па шляхах бясконцых
Уначы — пры зорах,
Раніцой — пры сонцы,—
Дай жа мне прайсціся, дай!

Край мой беларускі, край!
Дай мне наглядзецца, дай!
На тваё на пожні,
На лугі ды рэкі,
Каб у час апошні
Ўзяць з сабой навекі,—
Дай жа наглядзецца, дай!

## *Сяргей Грахоўскі*

### ДУБОВЫ ЛІСТ

Стаяць дубровы ў жнівеньскай красе,
Плывуць у вырай жураўлі і гусі,
Дубовы ліст, у жылках і ў расе,
Мне нагадаў абрысы Беларусі.



Яго мая кранаецца рука,
А ён нібыта выкаваны з броні,
І жылка кожная дубовага лістка
Злілася з жылкай на маёй далоні.

# *Анатоль Грачанікаў*

## ЗА ГОМЕЛЕМ ЛЮДЗІ ЁСЦЬ...

Прыгадаў я зноўку маладосць
І начлег казённы на вакзале.
— За Гомелем людзі ёсць? —
У мяне вандроўнікі пыталі.
Рагаталі мужыкі ў чарзе:
— Ёсцека, ды дробненькія ўсе...

Землякі палескай стараны
Жартавалі, мо каб не журыцца,
Толькі што вярнуўшыся з вайны,
З доўгай і крывавай касавіцы.
Я цяпер прызнаюся услых:
Быў, бясспрэчна, Мележ сярод іх.

І Шамякін браў тады білет,
Ды не ў мяккі, нават не ў плацкартны,
Каб усім сказаць, чаго ён варты,
Гэты дзіўны і складаны свет.
Не спяшыў Навуменка Іван,
Ён абдумваў першы свой раман.

З кулямі варожымі ў нагах,
Поўны камсамольскай загартоўкі,
Макаёнак нішчыў па начах
Першыя ў жыцці аднаактоўкі.
І зямляк мой, Сачанка Барыс,
Шчэ не ўведаў Штаты і Парыж.

Калі раптам нечаканы госць
Да мяне ў кватэру завітае:
— За Гомелем людзі ёсць? —
Жартам па-ранейшаму пытае.
І адкажа, толькі пыл страсе:
— Ёсцека, ды дробненькія ўсе...

Землякі, палескія сыны,
Колькі ўсім нам вынесці прыйшлося,
Каб да нашай роднай стараны
Гэтае пытанне прывілося!

Гомельшчына!
Выспы і бары.
Прыпяць...
Сож...
Дняпро...
Між іх — азёры...
Дзе яшчэ сустрэнеце, сябры,
Гэтакае шчырасці узоры?
Кажуць людзі: чым гаротней доля,
Тым бліжэй ты да чужога болю...

Рудабелка...
Ціхан Бумажкоў,
Мазураў і Ціхан Кісялёў,
Царыкаў, Ісачанка, Казлоў,
Нашы камунары, партызаны,—
Вашай славай край аперазаны.
Ловіць праўду сёння свет вялікі
У дзяржаўным голасе Грамыкі.

...Ад'язджае і мне кажа госць:
— За Гомелем людзі ёсць!

## ЭКСКУРСІЯ

Перад вамі — зямля продкаў маіх і дзяцей.
Не любіць яна чужынцаў,
любіць яна гасцей.
Тут вас накормяць, і спаць пакладуць,
і на дарогу дарунак дадуць.
Такі ўжо звычай на нашай вольнай зямлі.

Шмат якія цары, імператары і каралі
хацелі ўправіць яе
ў пярсцёнак славы сваёй,
як дзівосны бурштын.

І ўсе як адзін
на шаткоўнях войнаў
падданых сваіх шаткавалі,
ды нават тое, што мелі,— гублялі.

Звярніце ўвагу:
ніколі народ мой
нікога не прыгнечваў.
У цемры невуцтва — словам Скарыны
просты люд ачалавечваў.
Насельнік
дрымотных пушчаў, выспаў, балот
дзяліў з Каліноўскім
думак бунтоўных узлёт.
Той, хто аднойчы
зведаў гаючую прагу волі,—
рабом не будзе ніколі.
І, як сімвал сусветнай еднасці змагароў,
дагэтуль гарыць на парыжскіх вуліцах
Урублеўскага кроў.

Зірніце направа:
тут палацы і храмы стаялі,
званы звінелі,
на веча народы склікалі.
Калі ж нахрапам
лезла ў край наш
гайня атлумленых ворагаў —
ірваліся яны бочкамі пораху.
Старажытнага дойлідства творы
лёс адзіны з народам мелі
у шчасці і ў горы.

Зірніце налева:
гэта помнікі XX стагоддзя — мемарыялы,
узніклі яны пасля фашысцкай навалы.
Чытайце надпісы на магільных грудках,
можа, стрэнеце прозвішча брата ці земляка.

А цяпер раім усім
адгарнуць старонку першага тома
Беларускай Савецкай Энцыклапедыі
і прачытаць — «Акупацыйны рэжым».

Страціла Радзіма мая
столькі сыноў,
колькі ў лесе дубкоў,
столькі дачок,
колькі ў небе аблок,
столькі дзетак,
колькі ў лузе кветак.
Праліла столькі слёз,
колькі ў полі рос...
Пакланіцеся гэтай зямлі на развітанне.
...Шчаслівай дарогі!

## СЛАВЕНІЯ

Славенія —
Слава і слова.
Любляна —
Пяшчота, любоў...
Славянская мяккая мова
З глыбінь скамянелых вякоў.

Свабода
Людзей чалавечыць.
На гэтай пакутнай зямлі
Ні атурэчыць,
Ні анямечыць
Чужынцы народ не змаглі.

І сёння
На вулках Любляны
У водсветах мірнай зары
«Кацюшу» пяюць партызаны,
Нібы ў беларускім бары.

Чаму ж гэтак ціха спяваюць,
Нібы ля начлежных кастроў,
Нібыта з-за гор наплываюць
Варожыя хмары ізноў?

І я, пасланец Беларусі,
У водсветах мірнай зары
Да явара тут прыхінуўся,
Нібы да хваінкі ў бары.

Ракеты глядзяць,
Як цыклопы.
Свет сны міралюбныя сніць.
І чыстая ў цэнтры Еўропы
Крыніца славянства бруіць.

# *Генадзь Дзмітрыеў*

* * *

Адзін дзівак
заўважыць мусіў
З усмешкаю,
нібы
Растуць у нас
на Беларусі
Паэты,
як грыбы.

Ну, як тут з ім
не пагадзіцца,
Бо скрозь
паміж азёр
З бароў
гаючаю жывіцай
Напоўнены прастор.

Дубы
з магутнымі шатрамі —
Не злічыш іх гады;
Увосень гучна
пад нагамі
Страляюць жалуды;

Прапахла лета
сырадоем
І мёдам маладым;
І сонца
яблык кожны поіць
Нектарам залатым.

Дзівос другіх
у нас нямала.
Вось дбайнай працы
плён:

Звініць,
як струны на цымбалах,
Пад ветрам
спелы лён.

Дык глянь наўкол:
калі ўсё гэта
Не бачыць,
не любіць
І хоць душой
не быць паэтам,—
Тады навошта жыць?

## *Валерый Дранчук*

### ЕХАЎ ПРАЗ ГАСЦІЛАВІЧЫ

Ехаў праз Гасцілавічы.
Заехаў у госці
да самога Гасцілы.
А дома яго не застаў.

Сустракалі суседзі,
родныя, блізкія, якіх было шмат —
у кожным двары.

Частавалі чым маглі,
спявалі песні,
расказвалі.
Пыталіся ў час бяседы,
адкуль родам,
ці не п'ю гарэлачку,
ці жонку люблю,
ці маю дзяцей.

Заначаваў у Гасцілавічах,
а Гасцілы не прычакаў:
нарэшце сказалі, што ён
даўным-даўно
спачывае пад хвоямі.

Праеду ўсю маю Беларусь,
ружакветную ды гасцінную.
Стануся госцем скрозь,
нават калі Гасцілы не будзе
дома.

## *Леанід Дранько-Майсюк*

* * *

Не здолееш спакусу зваяваць,
Пакваппішся на рай і панаванне,
І давядзецца ўсім ахвяраваць —
І мовай беларускай, і каханнем.

Лягчэй казаць пра нешта і плысці
На хвалі спадарожнай да спачыну,
Цяжэй маўчаць і думаць пра айчыну,
І марыць у сабе яе знайсці.

* * *

Не можа нацыя сысці,
Нібы вада ў пясок,—
Павінна след пакінуць ці
Хоць там які слядок.

І славу ўсіх сваіх вякоў
Не тое што забыць,
А ўліць яе ў чужую кроў,
Каб тую кроў, чужую кроў,
Навек сваёй зрабіць.

# *Мар'ян Дукса*

## ЧАЙКІ НАД ПОПЛАВАМ

Хто яго помніць — сусветны патоп,
калі мора было ў наваколлі...
Скуль вы ўзяліся?
Вы, што адданыя ветру салёнаму,
непадуладныя
шэрай будзёншчыне сушы.
Скуль вы ўзяліся?
Ускалыханыя хваляй высокай,
белаю пенай і сінню нябеснай.
Скуль вы ўзяліся?
Кажуць,
вы ўсе вестуны землякоў-беларусаў,
што на чужыну закінуў вецер нядолі,
тых, што аднойчы
дзікай травой параслі
па стаптаных шляхах
кантынента чужога,
тых, што адолець змаглі акіян
і ўласную роспач...
Ды не ўтапілі ў глыбокай вадзе
да апошняга часу
тугу па радзіме.
Вы — нібы іхнія душы,
што ў момант астатні
зноўку вярнуцца надумалі,
родныя ўспомніўшы гоні...
Душы ў вобразе чаек
нізка ныраюць над поплавам,
нібы жадаюць пакратаць
крыллем айчыннае сена.



## *Анатоль Дэбіш*

* * *

Заўжды я рады, што мне выпаў лёс такі —
Жыць думкай аб народзе і Радзіме.
Які ні быў бы шлях цярністы і цяжкі —
Не гандляваць душой і марамі сваімі.

Зноў сінізну нябёс сячэ маланкі меч,
Над Нёманам зара паходняй дагарае.
І Вежа Белая аблокаў цені з плеч
На травы золкія ў світальны час страсае.

Тут — Беларусь... Яна у повязі вякоў,
У квецені вясны ўстае перада мною.
І адчуваю я душою зноў і зноў,
Як памяць на вякі мяне нітуе з ёю.

## *Кастусь Жук*

### РАДЗІМІЧ

Мой продак слыў пушчанскім сілачом.
Ён справу меў і з дрэвам,
і з жалезам:
Мог паваліць ён
елку плечуком
І мог адзін
дзіка нажом зарэзаць.

Пад жылістай ягонаю рукой
Не воўчым лыкам —
грэчкай спела гала,
І поле палавела
збажыной,
І дзяцеліна
пад касой спявала.

Калі ж на край у красках, у расе
Ішла бяда нявечыць нівы, хаты,—
Ён жонцы
пакідаў турботы ўсе,
А сам з мячом
ішоў на супастата.

І скажа,
жыта росцячы,
пасля
Нашчадак з-пад Нясвіжа ці Бярозы:
«Усеяна радзімая зямля —
Касцямі чужаніц
і злыдняў розных...»

## Васіль Жуковіч

* * *

Чарнобыльская аварыя —
з ліку маральных яна,
гэта — бяда нечаканая,
страшная, як вайна.

Біблія не прарочыла
гэткае цяжкай бяды,
разам бяда азмрочыла сёлы і гарады;
глянуць з папрокам у вочы нам
будучыя гады.

Мірная эвакуацыя
сее ў вачах адчай.
Моцны людзьмі і працаю,
асірацее край.

Стане зямля нелюдзімаю,
дзікай, глухою тут.
Моцны сваёй радзімаю,
асірацее люд.

Не суцяшаю нікога я,
чым тут і як суцяшаць?
За чалавецтва з трывогаю
буду свой век дажываць.

* * *

Чмурэць вам хочацца, гуляць.
А я не буду прытварацца,
я не хачу ператварацца
ў паяца —
буду сумаваць.

Карысна мне пасумаваць —
хачу даўгі падсумаваць,
даўгоў набралася багата:
свайму народу вінаваты;
павінен я ў сябе спытаць,

ці я сплаціць даўгі гатоў
за шмат бяздарнейшых гадоў,
што я разменьваў на пустое,
за нерашучы бой з застоем,
ці я сплаціць даўгі гатоў.

Гуляць вам хочацца, чмурэць,
я ж не паддамся ачмурэнню —
я падуладны азарэнню,
я ўвесь ахоплены гарэннем,
паканавана мне гарэць.

*Хведар Жычка*

## ЖЛОБІНСКІЯ ЭЦЮДЫ

### САД

Я колькі ні блукаў па свеце,
пейзажаў лепшых не сустрэў:
сад ля Дняпра прыбраўся ў квецень
так, што зусім не відна дрэў,
нібыта завіруха вёску
пушыстым снегам замяла...
На сонцы песцяцца пялёсткі,
і ў кожнай кветачцы — пчала
шчыруе,
мёд і воск збірае,
каб пракарміць сваю сям'ю...

Вось так і людзі ў нашым краі,
што сеюць хлеб
і сталь куюць.

### ПАРТЫЗАН

Матулі сказаў:
— Вярнуся, не плач...—
і знік у скляпенні ночы.

Каханай сказаў:
— Да спаткання! Чакай...—
і знік у разліве світанку.

Сказаў камандзіру:
— Загад зразумеў! —
і знік у мігценні лістоты.

Вярнуўся да ўсіх ён —
у цэнтры сяла
стаіць абеліск мармуровы,

і золатам ззяе
яго імя —
такое ж, як ён, маладое.

## ПАМЯЦІ ПАЭТА

Дыхні, вятрыска, сум развей,
сарві жалобны крэп з партрэта!..
Быў мулярам Яцук Мацвей
і быў паэтам.

Маўчаць гаркотна ля труны
кватэр утульных навасёлы...
Ён будаваў людзям дамы,
бальніцы, школы...

Пабыў бы шчэ сярод жывых,
падыхаў мёдам руні весняй,
шчэ б напісаў мо пару кніг
бадзёрых песняў...

Цяплом бы сэрца, як і рук,
сагрэў сучаснікаў, нашчадкаў...
Паэтам быў Мацвей Яцук,
бо сеяў шчасце.

## НЕ ТАКІ БАЗАР

Дзядзька Лаўрэн
аглядае тавар,
зведзены бровы,
насуплены твар.

Галавою матае
і цяжка ўздыхае:
— Ці ж гэта базар?!.

А на сталах усяго ёсць багата:
цыбуля, часнок,
агуркі і салата,
сыр,

масла,
тварог
і смятана густая...

— Ці ж гэта базар?!.—
дзядзька зноў паўтарае.

Суніцы, чарніцы,
агрэст і клубніцы,
маліна,
ажына,
грыбы,
гарбузы,
чарнаплодка-рабіна...

— Ці ж гэта базар?!.

Мяса,
кілбасы,
вяндліна і сала,
мёд,
кавуны,
сухафрукты на ўзвар...

— Ці ж гэта базар?!.

— Няўжо табе, дзядзька,
гэтага мала?
Чаго яшчэ хочуць
твае завідушчыя вочы?
— Каб фыркнуў дзе конь,
парася запішчала,
во быў бы базар!

## СЯМ'Я МАЙГО ПЛЯМЕННІКА

— Пра гэткае ў родзе Жычкаў
адвеку ніхто не марыў,
каб жонка была хімічкай,
а муж — сталяварам.

## БАЦЬКОЎСКАЕ ШЧАСЦЕ

Маладыя бацька і маці
не могуць налюбавацца
маленькай дачушкай Таняй,
што поўзае па дыване,
промні ловіць рукамі
і бурбалкі з рота пускае.

## ПА ЛЁДЗЕ

Хтосьці па лёдзе ідзе праз Дняпро —
чорная кропка на белым.
Як разгадаць, ці са злом, ці з дабром,
трус ён ці смелы?..

Смелага, хто да нас крочыць з дабром,
шчыра вітаем,
а баязліўца са злом
хай Дняпро
ў пельку пад лёд забірае.

## *Ніна Загорская*

* * *

Пры дарозе — вёска Паплавы:
Белая сімфонія бяроз.
Подзвіг
          з-пад ласкавай муравы
Помнікам-бярозаю прарос.

Куля абарвала светлы міг.
Сорак першы...
Полымя дарог...
Ён Святлом прабіўся праз мурог,
Каб Трывогай
                    стаць паміж людзьмі.

### МАМІН РУЧНІК

Мамін ручнік —
белая дарога ў вечнасць.

Усё яе жыццё — патканае надзеямі.
Усе яе надзеі — пабітыя градам болю.
Увесь яе боль — падшэрхлая скарынка цярпення.
Усё яе цярпенне — крона магутнага радаводнага дрэва.

Трымаю аберуч святыню — Мамай сатканы ручнік
з кутасамі надзеі і веры — і не веру,
што некалі
               гэтае сонейка зойдзе!

## *Сяргей Законнікаў*

### ВЕЧНАЯ ДАЛЕЧ

*Генадзю Бураўкіну*

Далеч Беларусі ветравая
Панаўзбоч няспешных бальшакоў...
Зноў яна імкліва наплывае,
Ціснецца ў душу з усіх бакоў.

Хлеба,
Волі,
Памяці дыханне
На сваім крыле абсяг прынёс,
Каб не прападала адчуванне,
Што сатканы з іх навечна лёс,

Капне на запылены трыпутнік
Ціхая дажджынка ці сляза.
Што памкнуўся ўсіх часоў пакутнік
Толькі аднаму табе сказаць?

Хто лісцінку ў жылках цёплых, белых —
Болю і любові стойкі сплаў —
Да душы зняможанай, знямелай,
Як далонь ласкавую, прыклаў?

Дня расце высокая званіца,
Растае ў нябёсах спакваля.
Нейкую святую таямніцу
Прыхавала родная зямля.

Ходзіць полем вецер асцярожны,
Звоніць жыта маладая медзь.
Хочацца на камень прыдарожны
Сесці і да забыцця — глядзець...
Глядзець...

## БАЦЬКАЎШЧЫНА

Мой любы край,
не дакараі,
Што славіць зноў бяруся...
Калі і ёсць на свеце рай,
Дык ён —
на Беларусі!
Прайдзі па ёй
і ўсё збяры,
Пачуй душой адкрытай...
Тут голас вечнасці
бары
Нясуць зямлі з блакіту.
Тут чорныя вайны сляды
Рукой рабочай
сцёрты,
Каб маладыя гарады
Стаялі вольна,
цвёрда.
Тут загучаў на новы лад
Паэта заклік вешчы —
Гушкае космас арлянят,
Купалы чуе вершы...
Відаць,
няма бальчэй пакут,
Чым шкадаваць да скону,
Што не вярнуцца ў матчын кут,
Хоць позна,
ды з паклонам.
І я павандраваць люблю,
Каб потым
днём спаткання
Абняць наўсцяж
сваю зямлю,
Як крыламі,
рукамі.
Жабрацкі лёс
мяне міне...
Задыханы ад шляху,
Засну я
ў роднай баразне
Непераможным птахам...

* * *

Пад ліпай, што галлём чарнее,
Стаяла хата ў тры акны.
Жыла там цётка Паланея,
Адна як перст пасля вайны.

Сваёй не адрачэшся долі —
У хаце мужыка няма.
Сама ў гародчыку, і ў полі,
І на падворку ўсё — сама.

Калі салома ўшчэнт сатлела,
То выгляд даху сумным быў:
Дзе толь, дзе лапік бляхі белай,
А побач — гонта і гарбыль.

Цікаўны з бальшака зварочваў
Да хаты сцежкаю глухой,
Бо надта ж западала ў вочы
Яна стракатаю страхой.

А цётка шчыра рада госцю
І хваліць сціплае жытло:
— А што з тае мне прыгажосці?..
Абы за карак не цякло.

Увішнай, маладой хадою
У склеп спяшае па траве.
Нясе гарлачык сырадою:
— Частуйся, добры чалавек...

Над магілкамі дзень сінее,
Як васілёк маёй віны.
Пад крыжам цётка Паланея
Сніць вечна хату ў тры акны.

Свет не заўважыў гэтай страты,
Не азірнуўся на бягу...
А перад кім я вінаваты,
Што памяць,
як страху,
залатаць,
Відаць, ніколі не змагу?

* * *

Зарыпіць
сініх зорак у небе жарства —
Гэта вечнасць ідзе Млечным Шляхам...
І хоць кружыцца ад вышыні галава,
Ды няма месца
суму і страху.
Нібы матчыны рукі,
знаёмым цяплом
Па шчацэ гладзяць спелыя травы,
Ахінае вей-ветрык
празрыстым крылом,
Шэпча родныя словы ласкава.
Трэба верыць сабе,
слухаць сэрцам зямлю,
Спасцігаць дабраты таямніцы...
Лёс аб шчасці інакшым
даўно не малю —
Тут яго зачарпну я
з крыніцы.
Покуль век
нітку часу
маўкліва прадзе,
Абрываць не збіраецца ў скрусе,—
І смяецца,
і плачацца так,
як нідзе,
У далонях маёй Беларусі.

## АЛЁНКА З ГОРАДА НУРЭКА

Над плынню Вахша
б'ецца рэха —
Чуваць
на ўсіх мацерыках.
Алёнка
з горада Нурэка
Смяецца на маіх руках.

Мы з ёй стаім
ля вадаспада
У арэоле пырскаў-зор.
Здаецца,
ад яе пагляду
Мякчэе позірк
гордых гор.

Цвіце,
як васілёк,
Алёна
На добрай,
сонечнай зямлі.
Яна
цымбал не чула звону,
Не бачыла
ў лянах палі.

І хоць са смуткам,
ды не ў скрусе,
Каля стрыножанай ракі
Згадалі
пушчы Беларусі

Са мной
Алёнчыны бацькі,—
Тут скрозь
зямляцкая сябрына,
Лічы,
што побач родны дом:
БелАЗаў чуцен
рык зубрыны —
Паўзуць натужна
на пад'ём.

Плаціна
прорву перакрыла,
Нібы арлінае крыло.
Да гарадоў
і да аілаў
Пайшло
жаданае
святло.

На Вахшы,
скакуне шалёным,
Аброць народнай талакі...
Далонькай
шчырая Алёна
Маёй кранаецца рукі.

Яна частуе чабурэкам:
«Еш!» —
гаспадыня хоць куды!
А беларусачцы з Нурэка
Яшчэ
няпоўных тры гады.

## *Алесь Звонак*

### АЛЬБУЦЬ

Альбуць!
Старых дубоў
Зялёная падкова,
Пазалацелы луг,
Крынічкі срэбны звон...

Альбуць!
Як сэрцу шмат
Гаворыць гэта слова,
І гэты цёмны бор,
І неба сіні схон.

Усё пераадчуй,
Усё схапі вачамі,
У сэрцы зберажы,
У часе не забудзь:

Ты сцежачкай ішоў,
Ступаў яго слядамі,
Таго, чый шлях прайшоў
Калісьці праз Альбуць!

Таго, каму душа
Нясе свой скарб найлепшы,
І цёплы успамін,
І ўдзячнасці паклон,

Што не заглушыць шум
Нахіленых алешын,
Што не развее ў дым
Віхор асенніх дзён.

Альбуць!
Юнацкіх год яго
Праўдзівы сведка.

Альбуць!
Чароўны кут
Любімае зямлі!

Тут Колас жыў.
Тут казкі
Бор шаптаў падлетку,
Размову з юнаком
Тут перуны вялі.

Быць можа,
Ты, Альбуць,
На золаку стагоддзя
Узрушыла душу
Той сілай пачуцця,
Што стоена жыла
Вякі ў маім народзе,
Каб выйсці на прастор
Кіпучага жыцця?!

Быць можа,
Ты, Альбуць,
Вясёлкавыя блікі
Рассыпала
Ў яго бліскучыя радкі,
Каб шлях адсюль пачаў
У свет Сымон-музыка
І Новую Зямлю
Шукалі хадакі?!

...Сны веку сняць дубы.
І безліч сонцаў дробных
На ўзорным лісці іх
Дрыжаць у кроплях рос...
Благаслаўлёна будзь,
Зямля Айчыны роднай,
Радзіўшая таго,
Хто славу ёй прынёс!

## *Васіль Зуёнак*

* * *

*Акадэміку А. М. Ганчарэнку*

Помню круг, палёт рукі,
Помню позірк пільны,
Бо спрадвек у нас гаршкі
Не багі ляпілі.

Бацькаў сябар ганчаром
Быў на ўсю акругу.
Бегаў за «расці здароў»
Я пры ім абслугай.

То, бывала, паднясеш
Дровы для апалу,
То, як бохан,— рэж ды еш —
Гліны цёплы кавал.

То, як самы важны гляк,
Едзеш на фурманцы...—
Збыць пасуду не «за так»
Дай нам божа шанцы.

Мы з табой амаль радня:
Ты зляпіў Адама,
Ну, і нам ляпіць штодня
Выпала таксама —

Ёсць макотры, гладышы,
Кварты і гарнушкі,
Гарлачы, і спарышы,
І свістулькі-птушкі...

Пагулянкай, ад Шчаўроў,
Тонуць колы ў верасе:
Наша слава ганчароў
Едзе каля Версанкі,

Налятай, гаспадары,
Просім, гаспадыні!..
...Толькі тут — свае майстры
Выраслі на гліне.

Шматпатомныя, як час,—
Родам Ганчарэнкі...
Разбягаюцца і ў нас
Ад здзіўлення зрэнкі:

Як званы, вісяць збаны
На тыніне кожнай...
«Не дадуць і паўцаны»,—
Думаем трывожна...

Толькі дзядзька мой Ганчар
Раптам засмяяўся:
— Не загіне наш тавар!
Дзьмі ў свісцёлку, Вася!..

Свіснуў сам, і я за ім —
Весела іграем,
Каля Версанкі стаім
І купцоў чакаем.

Першай бабка падышла,
Потым — дзед старэнькі,
А за імі — паўсяла:
Дзеці-Ганчарэнкі!

Вытылікваў я, дудзеў,
Выцінаў жалейкай...
А хлапчук адзін глядзеў
У задуме нейкай.

Дзесьці ў небе калясіў:
Як ямчэй прыстаць там...
Ці не верыў ён зусім
У маё мастацтва?

Ці пакрыўдзілі сябры?
Ці не меў капеек ён?..
І сказаў ганчар стары:
— На, бяры во пеўніка...

Свіснуў раз ён, і другі
І закукарэкаў! —
Вось, выходзіць, як багі
Лепяць чалавека...

Паталаніла, відаць,
А хутчэй — свістулькі
Паспрыялі ўсё прадаць
Нам да чарапулькі!..

Ганчарэнкі, ганчары...
Час не перайначыш...
Шмат вады з тае пары
Збегла ў нашай Начы.

І прыходзіць толькі ў сон
Версанка з Мачулішчам...
Я ў свістулькі дзьму. А ён —
Той хлапец — як чуецца?

Не сцвярджаю ад дзвярэй,
Але маю версію:
Акадэмік ёсць — Андрэй
Ганчарэнка. З Версанкі...

Вы ўжо скемілі? Вось-вось...
Толькі ўсё ж адразу
Не праводзьце гэту вось:
«Круг ганчарны — лазер».

Не такая да святла
Простая дарога.
Ды акружнасць надала
Ўсім арбітам строгасць.

Электронныя пучкі
Сутнасць асвяцілі,
Што спрадвек у нас гаршкі
Не багі ляпілі!

## *Анатоль Іверс*

### ПАРОЛЬ

— Пароль?
— Лясная сцежка.
— Напрамак?
— Добры бор.
Прыветлівая ўсмешка,
Настоены чабор.

Убок сышла, направа,
А я
      стаю чагось.
Апроч ваеннай справы
Ў мяне і сэрца ёсць.

І кожны раз на ўзлессе
Бяру з сабой пароль.
Птушыных столькі песень
Вясенняю парой!

Былі баі,
Сустрэчы,
І патэфонны вальс,
І многа светлых рэчак...
Трансваль мая,
Трансваль...

# *Іван Калеснік*

## КАЛІ РАЗАМ МЫ

Эх, і праца ж спорыцца,
Калі разам мы!
Нам і горы скорацца,
Калі разам мы.

Ноч здаецца раніцай,
Калі разам мы.
Дзень зусім не хмарыцца,
Калі разам мы.

Шчасце ў хаце селіцца,
Калі разам мы.
І сыны вяселяцца,
Калі разам мы.

Людзі ўбачыць рады, як,
Калі разам мы,
Не дабрацца здрадзе к нам,
Калі разам мы.

* * *

Зямля —
Патухшая планета,
Сказаў аднойчы астраном.
О, як паверыць
Цяжка ў гэта,
Бо тут здаўна
З табой жывём.

Аром палі
І поплаў косім,
Сячом зляжалыя пласты.

Як галубоў,
Ракеты ў космас,
Зямля,
Іх выпраўляеш ты.

Хаця ў галактыках не свеціш
Маленькай зоркай агнявой,
Ды ў цемрадзі
Зямныя дзеці
Свет бачаць
найсвятлейшы
твой.

І гэта зарыва ўзнімае,
Зямля,
Сям'я сыноў тваіх
Жывых сягоння
І — нямая,
Што не прыйшла
З франтоў цяжкіх.

Я веру,
Будзеш і ў далёкім,
Зямля,
Планетай пекнаты,
Бо твой цяжар
І тваю лёгкасць
Даўно трымаюць
не кіты.

# *Уладзімір Карызна*

## ДЗІЎНЫЯ ЧАРАВІКІ

Пазнаецца ўсё
У параўнанні,
З параўнаннем яснасць настае.
Неяк я зайшоў на рынак ранні,
Бачу — журавіны на стале,

Белыя — няспелыя — нямала!
Іх яшчэ спяліць бы ды спяліць,
Але бабка іх затарбавала,
Бізнес, бач, прыехала рабіць...

І я ўспомніў час,
Зусім няблізкі
(Час далёкі, а цяпер баліць!):
Хлопчыкам павёз на рынак мінскі
Шчаўе,
Каб на ногі што купіць.

Босы на асфальт ступіў гарачы —
Запякло,
Аж сіл няма трываць,
І пабег з падскокам, ледзь не з плачам,
Тое сваё шчаўе прадаваць.

Сеў за стол.
Расклаў стажкамі шчаўе.
(Па даўнейшай, па людской цане!)
Шмат пакупнікоў, але вачамі
Торкаюцца ў іншых,
Не ў мяне.

Ды ўсё ж торг пайшоў.
Ужо і трэці
Са стала знікае мой стажок.
Падыходзіць цётачка ў берэце:
— Дай бясплатна хвораму, сынок.

Што ж, бяры.
І з гэтае хвіліны
Рух узняўся, ажно вецер дзьме:
Жменьку бабцы пажылой накіну,
А сівому дзеду — нават дзве.

Шчаўе ўсё прадаў я.
І з набытку
Сонейка праглядвае само.
За свае рублі купіў напітку.
З'еў адно, другое «эскімо»
І пайшоў
Шчаслівы
Да прылаўка.
(А ці быў
Шчаслівы больш
Калі!)
— Дайце чаравікі, калі ласка,
Цётачка, на гэтыя рублі!

Палічыла.
— Мой жа ты харошы,
Каб ты быў усё жыццё здароў! —
Не хапае
(На старыя грошы!)
У цябе каля сямі рублёў...

Я панік душою
І плячыма.
Крылы свае нізка апусціў.
Але раптам падышоў мужчына,
І рублі ён тыя заплаціў...

Я гатовы быў яму пець песні!
І сягоння,
З далечы гадоў,
Бачу,
Як тады хлапчыну неслі
Чаравікі дзіўныя дамоў.

# *Алесь Каско*

## НЕЎМІРУЧЫ ЦЕСЛЯ

*Рэстаўратарам Мірскага замка*

Пад вежамі — сутонне дзён;
змярканнем,
                а ці ранкам шэрым
агеньчык свеціцца праз дзверы
і стук сякеры стуль чуцён.

Як вабіць кліч той у муры!
Глухім — нікога не пакіне...
...Скляпенне.
                У старым каміне
зырчэе зарыва зары.

Пад хісткім блікам агнявым,
якому ў сутарэннях цесна,
кавалкі дубу чэша цесля —
і годнасць, і спакой у ім.

Які ўжо час яго рука
чаруе ў цвёрдае драўніны
насцілы,
        рамы,
                крыжавіны.
Ва ўсім — ніводнага цвіка.

«Скажыце, майстар, вы з Міра?»
«З Міра... А мо і не адгэтуль,
сюды ж прыходзілі з паўсвету.
Мне род мой гэты кут абраў.

Былі ў сівых вяках муры,
пабудаваныя і мною,
змацоўваў іх мой род крывёю,
вунь камень чырванню гарыць.

Сціраўся камень, дуб згніваў —
і кожны замяняўся новым.
Знікалі княжанні і змовы,
а род мой — жыў і будаваў!..»

І вось таму ў сутоннях дзён,
змярканнем, а ці ранкам шэрым
агеньчык свеціцца праз дзверы
і стук сякеры нам чуцён.

# *Валянціна Коўтун*

## ТОНЕЖ

*Веры Палтаран*

Тонеж, Тонеж... Галінка весніць.
Бераг хрустае пад нагой.
Залатое сэрца Палесся
У гняздзечку тугім пад страхой.

Крылы ластавак пырснулі звонка.
Вуж засыкаў. Птах закрычаў.
Прыхінае песню старонка
Да гарачага
да пляча.

За раку коней выпусці, Тонеж,
Маладыя гады вярні.
У глыбокіх вірах патонуць
Чарнатропы, аеры, ўюны.

Стылым ранкам рукаў туману
Зачапіўся, глянь, за лазу...
Беззаганна і беспадманна
Ў сэрцы песню тваю нясу.

Горла ластаўкі —
спеў твой, Тонеж.
Чарацінка праразала тхло.
Апускалі вёдры ў калодзеж,
А да дна не дастаў ніхто.

**РАСЛІ...**

Пад звоны шпор заштарана акно.
Цыгарак рой. Дзядзькі, як панарамы.
Зрывае плашч французскае кіно,—
Якія гранды тут, якія дамы!
Якім шаленствам каляровых сноў
Кіно ўзяло цыбатую чародку
Графінек тых прасмоленых чаўноў,
Што звеславалі не адну паводку.
Звінела ноч цнатлівым вішняком,
А хлопцы йшлі ватагай незалежнай.
Свісталі дзёрзка... А пасля цішком
Чакалі нас пад кожнаю чарэшняй.
Чакалі нас у бляску сініх зор —
Калгасных статкаў гранды-менестрэлі.
Вось брыгадзір паплыў у сонны двор,
І нашы хлопцы ў словах пасмялелі.
Пасля кіно прасцей ва ўсім было.
Здавалася,
ну што там пацалункі?!
А вось стаім...
І мову адняло!
Напятыя, бы залатыя стрункі.
А вось маўчым... (Якое там кіно?)
Мы так маўчаць да раніцы гатовы.
...Пад звоны шпор заштарана акно.
Пад спеў начы на вуснах бляknуць словы.
Цвіла зямля ад вішнякоў і сліў.
Спявала неба. Даспявалі грудзі.
Графінькі нашы... Так вось і раслі
Нецалаванымі. Хаця былі ўжо — людзі.

# *Мікола Кусянкоў*

## ЛЕС

Дыхне, ледзь ступіш крок ад электрычкі,
Хваёвым пахам векавы гушчар.
А ў ім ля кожнай смуглае чарнічкі —
Як рыцар з вострай шпагаю — камар.



Чужою здасца фауна і флора.
І лес — сярэднявечны нейкі, бо —
Здалёк відаць — на шыі ў мухамора,
Нібы ў сеньёра, белае жабо.

І стрэлы скрозь. Старой падсочкі стрэлы?..
Не бор — калчан тугі, дык, пэўна ж, тут
Стралка самога з лукам недзе стрэну,
Хто будзе ён — мо Тэль, мо Робін Гуд?..

Легенд нянаскіх не прыніжу веліч,
Гатоў дзівіцца на любы пейзаж,
Ды, мабыць, вёў за свет мяне Сянкевіч
У лес чужы, а я вярнуўся ў наш.

Бо толькі тут маёй душы не зябка.
Між дрэў і слоў сваіх і сам я свой.
Тут не «жабо», тут наша слова «жабка»
Падскоча з яркай жабкай лесавой.

Тут з локаць камарыныя насочкі —
Як іх убачыў калісь наш Максім.
А бор паранен стрэламі падсочкі —
Напэўна, так, ды, мабыць, не зусім.

Бо гэта ж ён сваё падставіў цела,
Каб ні адна татарская страла
Ні на Булонскі лес не паляцела,
Ні лес Шэрвудскі раніць не магла.

І як ні многа сцежак тут віецца,
Свой вечны след пакінуў на любой
Той, хто за ўсе лясы, за чалавецтва
Выходзіў з лесу роднага на бой.

І гэта ж ён, сівы стралок пушчанскі,
Ужо грыбны пракладвае маршрут.
Ідзе праз даўні лагер партызанскі
Наш, самы добры ў свеце Робін Гуд.



* * *

Цячэ рачулка Цеціва між лоз
На стыку трох рэспублік —
Там я рос.

Да рэчкі бегаў я
Квяцістым лугам —
Хавала ледзь не з галавой трава.
І ўжо тады нацягвалася туга
Майго зямнога лёсу цеціва.

Якім падобным на стралу зрабілі
ТУ-104 —
Срэбны лайнер той,
Што ўзнёсся над прасторамі Сібіры,
Каб апынуцца недзе за Чытой!..

На захад —
Скрозь тайгі абшары хмурныя;
На ўсход —

Хрыбта каменнае лязо...
Бурацiя i побач з ёй — Даурыя,
Дзе партызанiў некалi Лазо.

Гарысты край навекi стаў мне дараг.
I ўсё ж грады каменнай высакосць
Не засланiла
Той пясчаны ўзгорак,
Што каля роднай вёскi недзе ёсць.

Больш чым на тры рэспублiкi, напэўна,
Спявае певень там,
Бо i ў глушы
Таежных нетраў
Я
Той голас пеўнеў
Лаўлю як бы антэнаю душы.

Прабач, тайга, што часам сэрца ные:
На свеце ж ёсць яшчэ лясок адзiн —
Я чую,
чую,
чую
пазыўныя
З калыскi незабыўных тых мясцiн.

Не знаю сам, дзе заўтра апынуся,
Якi пазнаю край,
Ды ў родны кут
Прыйду —
I там,
на ўсходзе Беларусi,
Скажу:
«Радзiма пачалася тут».

*Еўдакія Лось*

## КУПАЛЬСКІ ЛІВЕНЬ

Дождж у Вязынцы, лівень,
а светлы жа, светлы!
Каснікі намачылі
у сажалцы ветлы.

Ветлы-вербы, язміны,
вяргіні, анюткі
як чакалі такое
празрыстай мінуткі!

Як чакалі рабіны
у гронках няспелых
і дзяўчаты ў сукеначках
белых, ой, белых!..

Прычасаліся вербы,
стаўкі паглыбелі,
і дзяўчаты пад ліўнем,
дальбог, пастрайнелі.

А жанкі ў сарафанах
ад ліўня ўцякалі
і ў траве свае пацеркі
парассыпалі...

Хто там знойдзе ў купалках
жамчужную пацерку!
Пачакае малое
Дамоў сваю мацерку...

Ёй сушыць сарафан,
ёй расчэсваць касу
ды Купалу дарыць
маладую красу!

# *Пятрусь Макаль*

## КРУШЫНЯНЫ

Кожны мае радзіму малую —
Той куток, дзе радзіўся і рос.
Я ж душою сваёй мілу́ю
Крушыняны — мой боль і лёс.
Крушыняны — вялікая крушня,
Камянёў палявы карагод.
Крушыняны, без вас мне скрушна
Столькі вёсен і зім,
Столькі год...
Ці ж маленства з памяці сцерці,
Хоць яно цяпер — даўніна,
Што сталёвымі крыламі смерці
Апякла незагойна вайна.
Я, прырослы да плуга раптоўна,
Гнаў баразнаў хлебную раць.
Мне асколкі снарадаў гвалтоўна
Памагалі палетак араць.
На жніво я выходзіў у поле —
Серп сціскала мая далонь.
Жаў са мной збажыну ў суполлі
Кулямётны смяротны агонь...
Дзе ты, вёска мая?
Пакажыце
Мне радзіннай хаціны святло.
Я народжаны ў жнівеньскім жыце,
Што калыскай маёй было.
Я нікога, вядома, не лаю,
Толькі сэрца мне точыць іржой,
Што радзіма мая малая,
Мая вёска цяпер — за мяжой.
Як мне дому бацькоў пакланіцца?
Я аднойчы ў світальны туман
Працягну руку праз граніцу:
— Добры дзень, землякі з Крушынян!

## *Васіль Макарэвіч*

* * *

Зарастае двор наш крапівой,
Быльнягом дрымучым зарастае.
Тоне хата ў гушчары страхой,—
Хутка двор глухою пушчай стане.

А хіба даўно тут тапары,
На дрывотні, ззаўха гучна гракалі?
Я на цесным матчыным двары
Вывучаў калісьці геаграфію.

Як і трэба кожнаму двару,
Каб не зіркаў з хіжасцю сычоваю,
Я матыку з-пад страхі бяру,
Непралазь густую выкарчоўваю.

Выдзіраю быльнягі жыўцом,
Лебяду ад раніцы зраселую.
Не, не забыццём,
А ўсё ж жыццём,
Будзеш, матчын двор,
Павек заселены!

## *Мікола Маляўка*

### БЕРАЖЫЦЕ ШЫПШЫНУ...

Беражыце Шыпшыну, нашчадкі,
Беражыце на шчасце,
Беражыце як след!

Гэта —
Дзядоў запавет.

Любаваўся паэт з дзяўчынаю
На зялёны ліст, на чырвоны цвет,
І цябе, Беларусь, шыпшынаю
Ён назваў, закаханы паэт.

Катавала вайна на дыбе,
Ды мінуліся чорныя дні —
Ты не задыхнулася ў дыме,
Ты не згарэла ў агні.

Расцвіла ты, Шыпшына мілая,
А я болю ў душы не таю:
Радыяцыя апаліла,
Апыліла крону тваю.

Не парадуе шчодрая завязь,
І трывога за карані —
Тых дзяцей, што народзяцца заўтра,
А пакрыўджаны ў нашы дні.

Ратавалі героі сціплыя
І цябе, і далёкі свет.
І на іх абеліскі сыплецца
Твой зялёны ліст, твой чырвоны цвет.

Пахавалі яго ў саркафагу,
Ды рэактар яшчэ не ачах,—
І жывыя працуюць без страху,
Каб вулканам не стаў саркафаг.

Над табою, Шыпшына мілая,
Мы схіляемся, поўныя сіл,
І змятаем з галінак пахілых
І жалобу, і ядзерны пыл.

Ад туману начнога блакітная,
Белая ў маі, калі цвіцеш,
Ты не загінула ў бітвах
І чарнобылем не зарасцеш.

Прыбярэшся з усёй краінаю
У зялёны ліст, у чырвоны цвет,
І цябе, Беларусь, шыпшынаю
Назаве ён, новы паэт.

Беражыце Шыпшыну, нашчадкі,
Беражыце на шчасце,
Беражыце як след!

Гэта —
Наш запавет.

## ПАСТУХ

Ясным днём і ноччу цёмнаю
Ціха круціцца Зямля.
А на ёй,
Пры нашым Нёмане,
Дзед Макар пасе цяля.

Лёгкі, ён прайшоў над рэчкаю —
І няма слядоў ад ног,
Быццам на планету грэшную
Апусціўся з неба бог.

Адхадзіў сваё з сявенькаю
І цяпер, спякотным днём,
Ад цяляці ён, сівенькі,
Адганяе аваднёў.

Дачакаўся ўнукаў, праўнукаў,
Розум ясны ён збярог,
Быццам гэта бог і праўда
Ў свеце ядзерных трывог.

І ні днём, ні ноччу цёмнаю
Не супыніць ход Зямля,
Покуль тут,
Над родным Нёманам,
Дзед Макар пасе цяля.

## *Ніна Мацяш*

### ВІЗІТНАЯ КАРТКА

Спытаюцца: «Адкуль ты?
Скуль ты родам?»
І адкажу:
— З палескай той раўніны,
Якая з даледавіковых ча́саў
Пароднена і з доляй, і з нядоляй.
О, нездарма яна, мая старонка,
І Белым возерам глядзіць,
Як вечнасць,
І Чорным возерам глядзіць,
Як памяць...
Бярозаўшчына!
Жылкаю блакітнай
Пульсуе Ясельда ў цябе на скроні.
Вясёлыя гаі твае бярозавыя
Нітуюцца з барамі ды з дубровамі,
Каб з травамі, імхамі, чаратамі
Няўзнак на ўвесь зеленасвет Еўропы важыць.
А ці ж не так і чалавечы лёс твой
Панітаваны з лёсам чалавецтва,
Мая Бярозаўшчына?!
Колькі тысяч
Дзяцей сваіх ахвяравала ты
І землям іншым, і народам іншым!
І апыналіся бярозаўцы твае,
Чарнявыя ды русыя,
Натоўпам безаблічным бежанцаў ці эмігрантаў...
Выдатна патраплялі змазалелыя іх рукі
Выпешчваць каву на плантацыях Бразіліі,
Былузваць вугаль з нетраў Чылі,
Выдойваць буйваліц у пампах Аргенціны,
Вылоўваць жэмчуг у прадоннях Палінезіі.
Але з гадамі выяўлялася, што з дна
Нядольнага тулянне здабываўся імі
Адным-адзіны скарб:

Туга няшчадная
Па крыку кнігаўкі над лотацева-залатым разводдзем,
Па аксамітных азярынах лёну сіняга,
Па далікатным
Бэзава-ружова-белым цвеце бульбы,
Па васілёчку ў жыце ды буслянцы на страсе...
Не адбалець такому болю.
Шукалі хлеба на чужыне,
Чужынцамі ж падцятая, падмятая
Зямля радзінная была
Для самых лепшых,
Для адданейшых сыноў, дачок сваіх
Злавеснейшым
Канцэнтрацыйным лагерам «Бяроза»:
Як люта катавалі там, як праглі ўсмерціць
Самую думку, мару згаладалых
Пра іх найсаладзейшы хлеб —
Хлеб долі-волі
На прадзедамі тканым, адбеленым ад глуму чорнага абрусе
Уласнай мовы!..
Век не прыцьмець у памяці людской
Ні Мальчы прамінулага стагоддзя,
Засечанай да смерці бізунамі
За бунт супроць улад;
Ні расстраляным карнікамі Осаўцам
За тое, што найпершымі ў раёне
Калгасам
выйшлі сустракаць вясну;
Ні Здзітаву, вядомаму яшчэ
Ў часы Іпацеўскага летапісу,
Сёння ж
Бяссмертна ўслаўленаму
Партызанскай Здзітаўскаю абаронай;
Ні юнаму Белаазёрску,
Што рукатворным сонейкам расцвіў,
Каб не вярнуўся болей змрок былога.
Бярозаўшчына!
Ўмелі пастаяць
За гонар свой, за песеннае заўтра твае дзеці —
Твае Альшэўскія ды Кутнікі, Труцькі,
Вячоркі, Руцічы, Скарыны,
Гардзейчыкі, Юркевічы, Хвядчэні,
Барушкі, Коласы ды Салаўі.

Іх мноства, нескароных,
Хоць былі
І яміны пры кляштары ў Бярозе,
І ўрочышча Смалярка, і траншэі
Утульналесай Броннае Гары,
Дзе тысячамі гінулі бязвінна
Славяне й неславяне,
Дзе па-зверску
«Звышчалавекі» нішчылі людзей.
Яшчэ й цяпер
Зялёную травінку з тых мясцін
Прыкусіш задуменна —
й толькі потым,
І толькі потым сцяміш, скуль ён, гэты
Саленаваты прысмак на губах...

О ты, бяссмертны крутабег Жыцця!..

Ды шчасна ўсведамляць, што на Зямлі,
Усюды, ўсюды, пад любым сузор'ем,—
А некалі ж ды выспее пара,
Калі любое селішча людское,
Як наша вёска Горыч,
Збудзе горыч
І назавецца Светачам нарэшце!

Гляджу на жытнія разлогі кута роднага
І думаю:
Хай ясніцца Твой дзень,
Хай непарушна мірным будзе неба
Над шчырай працай і над адпачынкам
Дзяцей тваіх неваявітых, працавітых,
Хай зоркамі дастатку й хараства
Дамы іх свецяцца,
Як свецяцца іх душы!
Ім ёсць чым ганарыцца,
Ёсць чым жыць,
І што апець,
І што яшчэ стварыць.

## *Уладзімір Някляеў*

### РОДНАЕ

Вясновы першы гром
Скаціўся, як з гары.
І рэха ля крыніц дубы хістае.
Буслiная зямля. Азёры ды бары.
Акопы ды палын. Зямля святая.



Тут не забыты плач.
І не забіты смех.
Не аціхае спеў чарод птушыных.
Тут дождж не проста дождж.
І снег не проста снег.
Бо гэта дождж і снег
над берагам
Айчыны.

### РЭЙСАВЫ АЎТОБУС

Далягляд жаўцее пожнямі.
Дня сухмень. Павек тамленне.
Звыклы шлях...
Шафёр апошнія
Слухае паведамленні.

Што і як на нашым глобусе?
Скуль, куды ідзе пагроза?
Пахне хлебам у аўтобусе
МІНСК — БЯРОЗА.

Той аўтобус ледзьве дыхае,
Ледзь адольвае грудкі.

Афіцыйны голас дыктара.
Тры бабулі. Два дзядкі.

Лёс, лічы, амаль адмераны.
Што ж ім нечая бяда,
Бліжні Ўсход і ўсе Амерыкі!..
— Не скажы... Людзей шкада.

І глядзяць вачмі блакітнымі,
Як святыя з абразоў,
Сто разоў вайною бітыя,
Паленыя сто разоў! —

Крэўныя мае!
За кожнага
Сам — на крыж і на касцёр...

— Весялей глядзі, заложнікі,—
Жартам кідае шафёр.

...Мы — заложнікі, заложнікі!
Покуль дзень навек не згас,
Мы — за кожнага, за кожнага,
Нат за тых, хто супраць нас.
Нашы сэрцы не жалезныя,
І да страшнага суда
Мы ў залежнасці,
залежныя
Ад усіх, каго шкада.

Як бярозы белакорыя,
Душы свецяцца ў смузе...

Моўчкі курым «Беламорыну»
Мы з шафёрам па чарзе.

Ён ківае мне на радыё,
Уздыхае:
— От народ...
Дзень які! Жыві ды радуйся...

Дыктар зноў пра Бліжні Ўсход.
Кулі свішчуць. Бомбы вухаюць.

Дзень які?.. І век які?..
А бабулі памяць слухаюць,
Памяць слухаюць дзядкі.
Дыктару ў адказ павохаюць
І ўпадуць у забыццё,
На грудзях абняўшы боханы,
Як надзею на жыццё.

## *Сяргей Панізнік*

### ЗОРКІ ПАМЯЦІ

Міжнародны планетны цэнтр (Кембрыдж, ЗША) зацвердзіў назвы планет Беларусь, Хатынь, Мінск, адкрытыя астраномамі ў Крыме. Усе гэтыя малыя планеты знаходзяцца на адлегласці соцень мільёнаў кіламетраў ад Зямлі, паміж арбітамі Марса і Юпітэра.

З газет

З магутнай кроны
вечнага Сусвету
ніводны плод свой,
космас мой,
не струсь
і зберажы
маленькую планету
з такой пакутнай назвай —
«Беларусь».

Яна кружляе
у глыбокай далі,
у дружбе астэроідаў, камет.
Ёй нездарма
імя такое далі:
Айчыну нашу
ведае ўвесь свет.

Ляціць планета
у бязмежнай высі —
як пацыі мільённай
напамін...
Прашу:
«Ў вяках
нашчадкам адзавіся,
калі курлыкне
жураўліны клін.
І, як вясна, свяціся

не іржава,
нясі ў простор
свой непамерклы груз...»
Жыць будзе Беларусь,
мая дзяржава,—
сярод зямлян
жыць будзе
беларус.

. . . . . . . . . .

Ляціце, Зоркі Памяці!
Глядзіце!
З Кастрычніка
на новай мы арбіце.

## *Пімен Панчанка*

### ОДА ТАЛАЧЫНУ

Талачынцы — не злачынцы,
Добрых спраў яны зачынцы:
Ад гарэлкі не шалеюць,
Сеюць лён,
Жывуць з алеем.
А дзяўчынкі — талачынкі,
Як вясновыя хусцінкі,—
Кветкамі прыбраныя,
Вечна закаханыя:
То ў цябе, то ў мяне —
Шчасце дзевак не міне.
Каб сустрэцца з нашай любкай,
Не ў Бабры ты злазь,
Не ў Крупках,
Трэба ў Коханаве злезці —
Спадабаемся нявесце.
А далей — пяшэчкам
З ільняным мяшэчкам:
Не шануем важны чын,
А шануем Талачын.

### БЕГАМЛЯ

На карце ён — Бягомль,
А людзі звалі Бегамлем:
Сяліліся ў глухіх лясах
Халопы беглыя,
Бо беглі ад прыгону, ад паноў,
Ад царскіх устаноў
І пастаноў.
Жыло тут племя
Беларускіх волатаў,
Што не баяліся

Ні старастаў, ні войтаў...
Кажуць людзі:
«Не з багоў мы,
Мы з Бягомля».
І ў вайну фашысты
З Бегамля пабеглі:
Ад варот паварот
Ці зямлёй накормяць рот.

Бегамля умела біцца:
Партызанскі гром.
Партызанская сталіца
І аэрадром...
Рад, што ў гэтым я мястэчку
Гадаваўся, рос
Каля ціхай роднай рэчкі
І родных бяроз.

## ЦЫЦЭРОНЫ

Дзед Талаш сказаць павінен слова.
Грамацей ён —
Як і ўсе дзяды калісьці.
Напісалі для яго прамову
І паставілі суфлёра за кулісы.

«За ўраджай змагаемся мы мужна,
І жывём мы багацей, святлей, дружней...»
А Талаш дык не па тэксту:
«Слушна... слушна...
Трэба сеяць жыта сёлета пазней».

«Дурны мужык, як варона».
Сёння з той адсталасцю паканчана!
Вырасла ў нас многа цыцэронаў,
З мікрафончыкам ля іх —
І цыцэрончыкі.

Ты дырэктар фабрыкі ці трэста,
Дык скажы,
Што добра там, што дрэнна.

А табе патрэбна машыністка з трэскам,
І прамоў складальнік,
І арэна.

Разбухаюць, нібы цеста, штаты —
Гадавальнікі складальнікаў прамоў.
Выразкі і вытрымкі. Цытаты.
Тут ужо не да людскіх размоў.

Вочы да паперы:
Што там напілікана?
Лозунг, дыяграма — на сцяне.
«План па дзяржпрыёмцы перавыкана...
Ёсць у нас і пос... а ёсць і не...»

Можа, нам заместа тых начальнікаў
Выбраць іх памочнікаў
Ці іншых, з галавой?
Ды супрацiўляюцца адчаянна
І за крэсла распачнуць смяротны бой.

Мы ў адной жа школе ўсе вучыліся,
Нам казалі:
«Да жыцця сябе рыхтуй».
Дзе ж вы і калі вы налаўчыліся
Несці ўсім вядомую лухту?

Ці перавучыць іх, ці адмесці?
Каб загаварылі, як раней:
«Мама, мама,
Бульбы дай пад'есці,
Тата, тата,
Хлеб за ўсё смачней».

Цыцэроны ўсюды, цыцэроны...
Глухнуць людзі, птушкі і звяры.
А вароны?
З розумам вароны.
Як дзяды.
Як сам Талаш стары.

* * *

Сход прайшоў.
Няма ў мяне пытанняў.
І няма ні крыўды,
Ні хістанняў...

Ёсць жыццё,
І праўда сёння ёсць.

І ад нараджэння да скапання —
Ёсць каханне —
Вечнасці дыханне
І дзяцей шчаслівых шчабятанне —
Наша радасць,
Наша прыгажосць.

## МАЕ БАГІ

Я ішоў уначы па Мінску
І ўбачыў:
Валяюцца чалавечыя душы:
Ці іх згубілі,
Ці выкінулі з-за непатрэбнасці?

Успомніў старажытныя словы:
Душа,
Душэўнасць,
Бяздушнасць,
Душагуб...

Прызнайцеся,
Хто згубіў душу
На скрыжаванні Кірава і Валадарскага?
Чыя душонка валяецца
У пыле каля ГУМа?

І захацелася крыкнуць:
«Пабойцеся вы бога!»
Я заўсёды верыў у душу
І быў усё жыццё богашукальнікам,

Ды толькі не ў падручнікавым сэнсе...
А родны край,
І зоркі ў небе,
І пах чабору і травы,
І чысты вецер з возера Палік
Я ўсё жыццё нашу ў душы.

Сумленне, праца,
Справядлівасць і паэзія —
Мае багі.

# *Уладзімір Паўлаў*

* * *

Я стаптаны быў капытамі.
Я быў в торбаю, з дзедавай кульбай.
І ў мяне гэта людзі пыталі:
«Скуль ты?»
. . . . . . . . . . . . . .

Я адтуль, дзе Залессі, Замошшы
Пахнуць грушамі і грыбамі,
Дзе спрадвеку людзей харошых
Называюць сябрамі.

З таго бору, што спапялялі,
Дзе на кожным дрэве засечкі,
Дзе чужынцы не паспявалі
Ў галавах сабе ставіць свечкі.

Род абжыў мой
І лес і пожні.
Ён і шчодры, ён і харобры,
Ён вітаецца першы з кожным:
— Дзень добры!

Я адтуль, дзе намыюць золата,
Дзе жалеза і нафту знаходзяць,
З той зямлі, дзе ўсе хлопцы — волаты,
З той старонкі, дзе бульба родзіць.

Я — са Случчыны, я — з Палесся,
З таго краю, дзе ўсе Марусі.
Я — з харошай, душэўнай песні —
З Беларусі!

## *Людміла Паўлікава*

### СПАДЧЫННЫЯ КРОСНЫ

Бабуля ткала ручнікі,
І я нібы дапамагала;
Чаўнок хапала з-пад рукі
Ды нецярплівасцю даймала:
— Навошта столькі ручнікоў?
На ўсіх вяскоўцаў хопіць з гакам!
Бабуля ткала, час ішоў.
А мроі ўсе былі за ганкам!
Там, дзе чакае рэхву брук,
Дзе рэха воклік мой паўторыць,
Там, дзе гарэзлівы раўчук
Мне радасць звонкую падорыць.
Час набіраў разгон цішком —
Туды, дзе люд яднаюць мары:
Адным вітком, як ручніком,
Аперазаў Зямлю Гагарын...
І праз гады, нібыта крык,
Працяла думка нечакана,—
Што гэты велічны ручнік
Бабуляй быў нაканаваны!
...Бабуля ткала ручнікі...
Яе навука не прапала:
Я сёння тку свае радкі,
Каб больш сяброў на свеце стала.



*Генадзь Пашкоў*

## ПРЫПЯЦЬ

Тваіх крыніц гаючых
выпіць
не здолеў час крутых вятроў,
мая любоў
і лёс мой —
Прыпяць,
калыска песень
і дуброў.

І па вірах туманнай волі
ваду —
аж пеніцца зара —
нясеш шырока ўсцяж Нароўлі
і коціш
міма Мазыра.

Пакуль зіма не ляжа злая
і плёсы не зашкліць мароз,
за хвалю пенную хапае
у чорным чадзе
рудавоз.

Ступіўшы ў завадзь па калена,
уздоўж кустоўя —
хто як дзе —
дзятва
і чаплі ў белай пене
палююць плотак у вадзе.

А побач хекам серабрыстым,
каб адпаведны быў настрой,
перабаўляюцца турысты,
як цыганы,
каля кастроў.

А змеркнецца,
ля вёсак блізкіх
пад гвалт аерных прастарэк
аб крэмень
выкрасае іскры
нікім не бачны чалавек.

Там,
па кастрышчы старажытным,
што з кручы вымыла рака,
прыпаў дзіцём
узмежак жытні
да месячнага малака.

І ў дубняках
па сцежках тайных
блукаюць здані тумаНоў,
сівыя,
быццам бы паданні
ля Юравіцкіх курганоў.

І хочацца праз цемрадзь крыкнуць,
каб толькі —
рэха ўсцяж ракі:
«Цячы,
любоў і лёс наш,
Прыпяць,
злучай і сэрцы, і вякі!»

## ГУДЗЕВІЧЫ

Май, туман ад бэзу.
Заблудзіся ў бэзавым тумане
і пачуеш ля прыціхлых хат,
як звініць,
звініць — не перастане
вечаровым звонам саду сад.

Аціхэў,
залёг пасля паводкі
загуляка-Нёман у траве.

На зямлі радзімай
дым салодкі
і туман шчаслівы ў галаве.

З жытняй песняй
хлебасольна прымуць —
кожны госцю ў Гудзевічах рад —
Дзядзька Белакоз
і дзядзька Клімуць,
ну, і дзядзька Пронька-дэпутат.

Як нашэсцяў лютыя навалы
дарагога знішчыць не змаглі?!
Як такія песні захавалі
і душу такую зберaглі?!

Тут да продкаў блізкія дарогі,
тут пралёг
у будучыню шлях,
бо усіх эпохаў перамогі
апявае вецер у палях.

Тут хлапчына,
чарамі абняты,
як усе паэты,
па начах,
падымае ў млечны космас
хаты
з глыбінёю Нёмана ў вачах.

Салаўю жалейка падпявае,—
і такі у песні гэтай клёк,
што да слёз
пяшчотаю кранае
уватканы ў пояс
васілёк.

Ад любві
не раздзімай пажару,
а схілі ціхмяна галаву,
пакланіся ў пояс хлебадару,
пакланіся нізка салаўю.

І прасі ў апошні дзень...
Як літасць,
як глыток апошні
папрашу:
не з нагоды нейкай
урачыстасць —
гэты май хай вернецца
ў душу...

# *Алесь Пісьмянкоў*

## СЫНУ

Вось і зноў зямля,
на якой прарос...
Дзе узрос, сталеў,
дзе самы вясёлы
жыў дзед-мароз,
дзе самы смачны
быў зайцаў хлеб.

Я не знаю вачэй дабрэйшых.
Я не знаю дзядоў мудрэйшых.
Я не знаю нябёс чысцейшых.
Я не знаю лясоў гусцейшых.
Я не знаю званчэйшых слоў,
чым тыя, што тут знайшоў:
на зямлі,
дзе калісь прарос,
дзе узрос, сталеў...
Дзе самы вясёлы
жыў дзед-мароз,
дзе самы смачны
быў зайцаў хлеб.

*Мікола Пракаповіч*

**РОДНАЕ**

Эры касмічнай дзеці —
Мінаем гады, як дні.
...Недзе ў імклівым свеце
Згублены карані.

І не адкажаш пэўна,
Дзе чые лёсы йшлі,
Хто з нас
каму
крэўны
На зваяванай зямлі.

Ды на чужыне раптам
Сцісне горла камяк,
Як роднае слова:
— Братка!
Выдыхне твой зямляк.

Столькі ўсяго згадаеш:
Рэчка... Лясок... Радня...
Цёплым блакітам далеч
Звабіць на схіле дня.

Будзеш ажно да ранку
Ў гасцінічнай мітусні
Вышытыя фіранкі
З дзён басаногіх сніць.

Ледзь вокны заружавеюць,
Прахопішся — зноў адзін.
...Маці на шлях з надзеяй
Нібы з іконы глядзіць.

# *Паўлюк Прануза*

## РОДНЫЯ МЯСЦІНЫ

Пацягнула да бацькоў у госці.
Пехатой адмераў доўгі шлях.
Мне насустрач сцежкі маладосці
Выбеглі ў бярозах і клянах.
Пад зялёнай іхняю аховай
Я іду па роднай старане.
Вецер! Ты мяне не падштурхоўвай,
Без тваёй паслугі лёгка мне.
Шэпча луг травою: «Калі ласка».
Серабрыцца хвалямі рака.
Хіляцца ў паклоне нізкім краскі...
Вы па чым пазналі земляка?

## Аляксей Пысін

* * *

Няма той рэчкі, што з вірамі,
Няма той пушчы са звярамі,
Няма русалак, лесуноў.
Няма вужакі пад дрывамі,
Цыбатых птушак за дварамі
І нават ветраных млыноў.

Няма той рэчкі, што люляла,—
Час рэчку ў травы перашыў.
Не знаю — многа альбо мала
Ў сваім стагоддзі я пражыў.

## *Віктар Ракаў*

### БАЦЬКАЎШЧЫНА

Калі і ёсць у чым,
то тут мне каяцца:
І сноп,
і птах,
і я — з тваёй раллі.
Ці не таму так скачуць жураўлі,
Калі да родных балацін вяртаюцца?

І я ўзлятаю
разам з імі, любымі,
Гляджу,
якая ж ты, мая зямля!
. . . . . . . . . . . . . .
Звініць, пяе над залатымі зрубамі
Святая роднасць —
сноп,
і птах,
і я...

### ЛЯЧУ ПА МАТЧЫНАЕ СЛОВА

Калі ў свой родны край лячу,
Чаго так лёгка мне, і мройна,
І клопатна, і неспакойна,
І радасць ясная ўваччу? —
Калі ў свой родны край лячу.

Чаго сюды заўжды так цягне? —
Пачуць на золку шоргат кос?
Сказаць сабе, што тут я ўзрос?..
Знаёмы ж да растка прасцяг мне —
Чаго ж, чаго ж сюды так цягне?

Вялікі свет, і ў свеце ёсць
Такое, што яшчэ не зведаў.
Ды колькі б ні хадзіў па свеце
І дзе б, і чый ні быў я госць,—
Я знаў,
што ў свеце край мой ёсць.

Тут маці праведнае слова
І першы мой дзяціны крок,
А ў слове —
радасць, і папрок,
І роднасці маёй аснова.
. . . . . . . . . .

Лячу па матчынае слова.

## *Людміла Рублеўская*

### БЕЛАРУСЬ

Як нам у цябе не верыць —
Адкрытую, як далонь,—
Дзе ў кожнай пушчы — ёсць сэрца —
Папараць — кветкі агонь,



Дзе ёсць у азёрах душы —
Затопленыя палацы.
Дзе верны — мацней, чым дужы,
А дужы — умее плакаць.
Дзе здрады імя забыта,
Але не забыць ніколі
За волю тваю забітых —
Стаяць курганамі ў полі.

## *Уладзімір Скарынкін*

### БЕЛАРУСІ

Белая Русь мая!
Чыстая ты мая!
Родная ты мая!

Белыя гоні бульбы,
Белыя косы дзяўчат.
Воблакаў белых
над Бугам
Вечны парад.

Белых грыбоў кашолкі,
Белыя плечы бяроз,
Белыя россыпы золкіх
Чыстых світальных рос.

Белых туманаў плыні,
Белыя вершы буслоў.
Ціхая завадзь Бялыніч,
Рык белавежскіх зуброў.

Вейкі рамонкаў белых,
Белыя грывы завей.
Чыстыя душы
смелых,
Простых тваіх людзей.

Не засмуцілі войны
Позірк лагодны твой.
Толькі бялеюць скроні
Ўдовінай сівізной.

Белая Русь мая!
Чыстая ты мая!
Родная ты мая!

*Юрась Свірка*

## БЕЛАРУСІ

Дзе б ні быў —
Сустракалі сардэчна, як брата:
Усміхаліся цёпла
І ціснулі шчыра руку.



Як свайго запрашалі —
І горад, і сакля, і хата...
Так цябе, Беларусь,
Сустракаюць у кожным кутку.

У Прыбалтыцы блізкай,
На Амуры, Каўказе, у Крыме
І на Волзе,
Што славіцца навіссю стром.
«З Беларусі»,— скажы,
І адразу, як роднага, прымуць,
На пачэснае месца
Пасадзяць цябе за сталом.

Край герояў
І славы народнай пушчанскай,
За твой подзвіг і мужнасць
Ганарыцца заўсёды душа.

Не скрылася ты, Беларусь,
Беларусь-партызанка,
Ад Марата Казея,
Ад Бацькі Міная і да Талаша.

Захапляюцца Мінскам:
«Ваш горад — сапраўдная казка!
Беларусаў сталіца
І ў свеце далёка відна...»
А былы франтавік
Да пляча дакранецца, як бацька:
«Як з баямі на захад ішлі,
У руінах ляжала яна...»

Так паўсюль пазнаюць
Твае песні, палацы, твой голас.
Твае словы, як пропуск —
Сябры, песняры...
«Беларусь, Беларусь! —
І дабавяць,— Купала і Колас...»
Нагадаюць пра лён,
Пра твой лес, пра твае трактары...

Клімука, Кавалёнка успомняць:
«Героі, героі...»
Спачувальна ўздыхнуць:
Апячэ сваім болем Хатынь.
Беларусь, ты з братамі сваімі
Любою парою.
Твая слава ўзнялася
Да зорных вышынь.

Я шчаслівы,
Што сонца тваё, Беларусь, саграваe,
Што жыву на зямлі,
Не скаронай ніколі нікім.
І не першы, відаць,
Я матуляй цябе называю
І хачу,
Каб назвала ты сынам сваім.

## *Міхась Стральцоў*

### БАЦЬКАЎШЧЫНА

З двара прыйду і сяду ля агню.
Палаюць дровы. Ссечана капуста
На градах — блаславенне дню.
Змрок у палях — там сіберна і пуста.

Узыдзе месяц позна. На парог
Я ноччу выйду. У нямым здранцвенні
Паветра, далеч. Серабрыцца лог
За сажалкай — на ім снуюцца цені.

О роднае маё! Як доўга да цябе
Ішоў я, кволы падарожнік.
О весялосць у восеньскай журбе!
Агонь.
Саган.
Вуголле і трыножнік.

# *Анатоль Сыс*

## МАЦІ

### 1

Маці крыжыкам вышывае —
не адвесці ад рук вачэй.
Нітка — кроў на радно жывая
з пальца ўколатага цячэ.

На каленях ручнік чырвоны,
ва ўспаміне — любімы сын:
пахлі жаўранкавым лёнам
яго белыя валасы.

Маці крыжыкам вышывае,
павуцінку павук пляце,
маці песню цішком спявае
пра дарослых сваіх дзяцей.

### 2

«Мама,
вышый мяне на падушцы сваёй» [1].
Памякчэе грачынае пер'е,
я прыснюся табе: еду зноўку дамоў,
колаў стук хай развее бязвер'е...

Ты спявай, ты спявай,
ты сваці, ты сваці,
рассцялі ручнікі, як сцяжыны,
можа, здарыцца так —
заблуджу я ў жыцці,
тады выйду па іх да айчыны.

---

[1] Радок з верша Ф. Г. Лоркі.

# *Максім Танк*

## «СЕМ РАЗ АДМЕР...»

«Сем раз адмер...»
Калі стаўлялі хату,
Кожнае бярно
Дакладна адмяралі,
Склюдавалі, пазавалі,
Падганялі,
Каб і камар нідзе
Не падтачыў свой нос.

«Сем раз адмер...»
Калі печ ставілі,
Старанна так
Выкладвалі цэглы
Под,
Скляпенне,
Комін,
Каб жвава полымя
Ў чалесніках
«Лявоніху» скакала.

Аж маці
Чарпаком з вадой
Не раз яго хрысціла-суцяшала...

Успамінаючы печ гэту,
Нат у завеяным акопе
Я адчуваў яе цяпло.
«Сем раз адмер...»

Забылі гэту мудрасць.
І, асушаючы балотныя абшары,
О, колькі пахавалі
І крыніц і рэк
Пад чорным саванам
Тарфянікаў перагарэлых!

«Сем раз адмер...»
Не ведаю, чаму
Не пакаралі тых,
Хто, перарабляючы прыроду,
Замахнуўся
На Байкал свяшчэнны,
У Каспія Кара-Бугаз украў,
Нож у спіну Севана ўбіў,
Арал здушыў арканам сухавею
І рыхтаваў труну
Паўночным рэкам.

«Сем раз адмер...»
Цяпер чарнобыльскіх
Герояў славім,
Што атамны вулкан
Сваім жыццём гасілі,
Ратуючы Зямлю.
І адначасна
Дараваць не можам,
Што нехта там забыўся
Сем раз адмераць і праверыць
Кожную дэталь,
Каб наш зямны каўчэг
Не пад жалобным ветразем
У будучыню плыў.

## ЗНАКІ ПРЫПЫНКУ

Відаць,
Зямля пачала
Круціцца хутчэй.

Як звар'яцелыя,
Кудысьці спяшаюцца
Гадзіннікі.
А за імі — гады
І стагоддзі.

Усё больш і больш
Вырошчваем скараспелыя
Кармавыя культуры.

Дзеці —
Яшчэ з соскамі ў роце,

Становяцца чэмпіёнамі
Ў спорце.

Не паспяваем мяняць
Назвы гарадоў, пасёлкаў,
А на п'едэсталах — герояў.

Спаборнічаем, хто хутчэй
Забудзе сваю мову.
Не хапае часу
Ні наведаць сяброў,
Ні ў пасланнях да іх
Парасстаўляць нават
Знакі прыпынку.

## ПРАЦЯГЛАСЦЬ ДНЯ І НОЧЫ

Памыляюцца тыя,
Хто ўсё яшчэ верыць,
Быццам
Працягласць дня і ночы
Падпарадкуецца
Астранамічным разлікам.

І я так думаў,
Пакуль аднойчы не пачуў,
Як, вяртаючыся з поля,
Спявалі нашы дзяўчаты:
«А я дня укарачу
І да ночы прытачу...»

Божа!
Якія гэта былі дзяўчаты!
Кожная з іх
Не толькі магла
І дзень укараціць,
І ноч прадоўжыць,
Але і ашчасліваць
На ўсё жыццё.

* * *

Аджылі век даўнія прафесіі
Розных знахароў, варажбітоў,
Баламутаў бесталковых, песеннікаў,
Катрыншчыкаў і карчмароў.
Аднаго шкада, што назаўжды
Можа згінуць слава тамады,
Без якога, як без хлеба з соллю,
Не ўявіць сяброўскага застолля.
Можа, лепшыя з найлепшых тостаў,
Што хлуснёй сваёй жыцця не плямяць,
Не хаваць на забыцця пагостах,
А нашчадкам перадаць на памяць,
Як, напрыклад: «Каб сто год жылося!»
«Каб над намі ззяла шчасця зорка!»
«Каб звінелі песні і калоссе!»
«Каб нікому не было ў нас горка!..»

# *Мікола Федзюковіч*

## ВАСІЛЬКІ

У сталіцы і ў сёлах Палесся,
дзе чакаюць мяне землякі,
я заўсёды прыгадваю песню
пра жытнёвыя васількі:

«Як зямное прычасце
на гады і вякі,
расцвітаюць для шчасця
васількі, васількі...»

Дзе шамрэе бярэзнік утульны,
на ўзбярэжжа да ціхай ракі
я ў маленстве прыносіў матулі
васількі, васількі...

Калі ж раптам часінаю смужнай
наляцелі на край чужакі,
бацька ўстаў супраць ворага мужна —
за Радзіму і за васількі.

У гармат апетыт ненажэрны.
Шлях салдацкі — суровы, цяжкі...
Бацька ўпаў на мяжы парыжэлай
на жытнёвыя васількі.

На пагорак, мурожны і мяккі,
мы вясною прыносім вянкі,
лугавыя рамонкі і макі,
васількі, васількі...

Як зямное прычасце
на гады і вякі,—
вырастаюць для шчасця
васількі, васількі!..

## *Любоў Філімонава*

### ГАРАДСКІ ЭСКІЗ

Легканогія кентаўры XX стагоддзя —
веласіпедысты,—
Празрыстыя прапелеры пад нагамі
ўзнімаюць пыл залацісты.
Бязгучныя, як анёлы,
ваш рух імкліва-ўрачысты.
Падзяліў вас на Моцартаў і Сальеры
стартавы выстрал калісьці.
Раскаваныя, як вецер
над раскаванай эпохай...
Ужо раніца
набрыняла сонцам патроху.
Чаму ж там, дзе бліпічыць
над пераграэтай шашой міраж,—
След абрываецца ваш?..

## *Алесь Цвях*

### КАВАЛІ

Зямлю не называлі сквапнай:
здаўным-даўна, з сівых вякоў
рудой балотнай, глінай, вапнай
узбагачала землякоў.

Грудкі, гародні
немарудна
абжыў разважлівы народ.
Заруддзе,
Руда,
Рудзенск,
Рудня...—
раслі паселішчы штогод.

Дым кузняў едка вочы рэзаў —
аб хлебе дбалі як маглі:
з кавалкаў руднага жалеза
сярпы кавалі
кавалі.

На кірмашах мігцелі косы
і — ваша імасць — цуд-плугі!..
Дадому везлі мёд і проса,
мурог, што песцілі лугі.

Мазурку брынкалі музыкі,
панкі дзесь запрашалі дам...
Спяваў па кузнях
горан зыркі
багам жалеза — кавалям.

У голад, кінуўшы гароды,
ішлі сяляне
на завод.
Каб не было хоць роду зводу,
гарбелі ў цэхах з году ў год.

Але ці льга трываць бясконца,
сабе ж выкоўваць ланцугі?!
І палымнелі ў небе сонцам
крывёй амытыя сцягі,

і з полымя ўзвіваўся голас
сыноў абуджанай зямлі...
Купала,
Каліноўскі,
Колас —
святла і слова кавалі.

Узняўся люд, як грозны волат,
над рабствам, здзекам, чорным днём.
І герб —
калоссе, серп і молат —
скаваў ён працай і агнём...

# *Кастусь Цвірка*

## СТАРАДАРОЖСКІ РАЁН

На карце хай загнаны ў рог,
Ды не ў баку ні трошкі
Ад новых пуцявін-дарог
Раён Старадарожскі!

Ля ўсіх пасёлкаў і шляхоў
Тут пад смыкамі ветру
Пяюць штодня ў руках слупоў
Драты — цымбалы веку.

А колісь пушча скрозь гула,
Калі ішла віхура.
І дзесь Алелькава страла
Тут наганяла тура.

Тут «сакуны» жылі ў лясах
З мядзведзямі сам-насам.
Гаворка й сёння ў нас на «са»:
«Намаяўса», «суняўса».

Матычыў ляды хлебароб,
А трэ было, дык добра
Касіў у сечы — лоб у лоб —
Татар ды обраў орды!

Быў і фашысту ў нас не дом —
Сядзеў, ад страху сівы.
Наш партызанскі грозны гром
Трос прыхадняў, як слівы.

Вёў мсціўцаў па барах старых
Крапак мажны, як шула,
Цудоўны баявы камбрыг
Хірург раённы Шуба.

Змёў час чужынцаў след з зямлі,
Іржа паела каскі.
У лузе чэрвеньскім чмялі
Апанавалі краскі...

Тут ёсць куточкі — проста рай!
Як прыпар,— ты начальства
У кабінеце не шукай —
На возеры Скачальскім!

А трэба на баравікі
Напасці з кашалямі,
Кіруй адразу пад Ляўкі —
Ўвесь Мінск там з «Жыгулямі»!

Заўсёды ў працы мой раён,
Работнік цягавіты.
Здаўна славуты ў свеце ён
Ліповым мёдам, жытам,

Ільноў нябеснай сінявой,
Сасною, звонкай, гонкай,
Ну і вядомай за Масквой...
Старадарожскай горкай.

Будуе, косіць, сталь куе,
Арэ — ушыр і ўдоўжкі —
І песню новую пяе
Раён Старадарожскі!

## *Віктар Шніп*

* * *

Далёкай зоркі
дрогкае святло,
Далёкай песні
сумнае гучанне.
Дамоў дарогі лісцем замяло.
Там спелы сад і першае каханне.

Таемна ў вечнасць
шамаціць
лісцё,
І галаву маю цяжарацць думы.
Якім бы светлым ні было жыццё,
Ды не пражыць без цяжкіх страт, без суму.

Павольна
хмара
чорная
плыве
У чорным небе да дрыготкай зоркі.
Адстаў ад кліну юны жураўель,
І крык яго, як журавіны, горкі.

Ісці мне светла да сябе ў сяло,
Пакуль шчэ не згубіліся ў тумане
Далёкай зоркі
дрогкае святло,
Далёкай песні
сумнае гучанне.

## *Віктар Шуткевіч*

### «ЧЫРВОНАЯ КНІГА»

«Чырвоная кніга»
Выдадзена па-беларуску...
Гартаю яе з нейкім сумам
І пачуццём асабістай віны.
Так, нам трэба ахоўваць
Тыя кветкі і жывыя істоты,
Якім пагражае знішчэнне.
Але не меней
Трэба нам берагчы
У першароднай яе чысціні
Тую мову,
Якою напісана
Гэта «Чырвоная кніга».

# *Віктар Шымук*

## ТРЫ РАЧУЛКІ

Выйду сонечным ранкам
За ваколіцу я.
Як жывеш ты, Ятранка,
Рачулка мая?



Ты шуміш напрадвесні
Між густых лазнякоў.
Гэту простую песню
Чую сёння я зноў.

Ты цячэш без аглядкі,
Шлях скіраваны твой
Да сястры, да Маўчадкі,
Да рачулкі другой.

А далей, між папіклых
Кучаравых ракіт,
Ўецца рэчка Паніква,
Ў хвалях — неба блакіт.

Вы — як цуд, як абнова,
Тры рачулкі-сястры.
...Сустракае вас Нёман
У зялёным бары.

## МАЕ ДРЭВЫ

Калі іду,
заўсёды прыпынюся,
Ля помніка Купалы пастаю.
На ліпы кучаравыя дзіўлюся,
Гляджу на працу даўнюю сваю.

Дзень добры, дрэвы!
Вы мяне пазналі?
Было гэта шмат год таму назад.
На гэтым месцы ямкі мы капалі
І ў іх садзілі ліпы рад у рад.

Цяпер заўсёды тут я прыпынюся
І задуменна, ціха пастаю.
На ліпы кучаравыя дзіўлюся
І іх, сваіх, заўсёды пазнаю.

І ім, траім, да скону я не здраджу.
Яны ж раслі у вязынскім бары.
Вы не замерзлі?
Дайце вас пагладжу
Сваёй рукою цёплай па кары...

*Леанід Якубовіч*

## МАЦЯРЫНСКІ НАКАЗ

Якой далёкай ні будзе дарога,
Якім бы шырокім ні здаўся прасцяг,—
Вяртайся сюды, да святога парога:
Адсюль твой пачатак і тут твой працяг.

*Яўгенія Янішчыц*

## ПАВЕЛ І НІКАН

Парадніося з палын-цішынёй,
Свет не ўвесь бессардэчна-бязлікі.
...Памагаюць матулі маёй
Два апосталы — Павел і Нікан.

Першы ўмела кіруе канём,
Спраўна ходзіць сякерка ў другога.
Зелянее жытцо пад акном,
Пахне лесам у хаце падлога.

А калі спорны дзень прамільгне,
За сардэчнай і ціхай вячэрай —
Павел чорны канцлагер кляне,
Грозіць атаму Нікан сякерай.

Паласнуць, як па сэрцы, агнём,
Дзве аповесці ў сумным гуморы.
...Ападаюць, цвітуць за акном
Зоры гневу і вечнасці зоры.

## У ШУМЕ ЖЫТНЯГА СВЯТЛА

Яшчэ расці маёй трывозе
І не любіць — на паўкрыла.
Убачу маму на дарозе
У шуме жытняга святла.

І покуль гэты поўдзень спелы
Дым тарфяны не завалок,
На зрэзе дня — рамонак белы
І пасівелы васілёк.

Снуецца беглая сцяжына —
Апошні збег майго сяла.

Гняздзечка птушкі і ажына —
У шуме жытняга святла.

І покуль дыхае планета,
Не вынішчаецца датла
Душа народа і паэта
У шуме жытняга святла.

## ...І ПРАСВЕЧВАЮЦЬ НАШЫЯ СЭРЦЫ

Як адбіткі вякоў, як набыткі,
Што не ў сілах здалець і смуга,—
Легендарныя коні і світкі,
Вышываная — кроўю — сцяга...

Нашы плечы ў баях не паслаблі,
Хоць крышыў іх нягоды віхор.
Чаратамі — сталёвыя шаблі
Над прадоннем былінных азёр.

Наша моц гартавалася ў буры,
На гарачых кастрах пачуцця.
...Неабутыя славы катурны
Пры высокім дыханні жыцця.

Песня й праўда — бясцэнныя злiткі!
(Чужакам хай пасвецяць рублі.)
Легендарныя коні і світкі —
Ўсё разбуджана гулам зямлі!

На паверцы стаім, на праверцы,
Растапляючы камень і лёд.
І прасвечваюць нашыя сэрцы
Каліноўскі. Купала. Народ.

# *Рыгор Яўсееў*

## БРАТКІ-БРАТОЧКІ

Пачытайце вы, браточкі,
Хоць бы гэтыя радочкі,
Вельмі простыя радкі,
Вы даруйце мне, браткі.
Іх пісаў я на світанні,
Покуль сонейка устане,
І пісаў іх адвячоркам,
Грала сонца над пагоркам.
Справу скончыць я стараўся,
Змрок густы ка мне падкраўся,
Глянуў месячык шчарбаты:
Час, браток, табе дахаты.
Дарагому слову «брат»
Кожны з нас заўсёды рад.
Скажаш:
— Вось прыйшлі дзяпёчкі!
І дабавіш тут:
— Браточкі!
Скажаш:
— Ах, разгон які!
І прамовіш тут:
— Браткі!
Просіш:
— Трэба пастарацца.
І злятае слова:
— Братцы.
Галасую на дарозе:
— Падвязі, браток...
Падвозіць...
— Ой, браточак,
дзякуй шчыры!..
Ды не слова,
цэлы вырай
Вылятае акурат.
Ёсць тут «братачка» і «брат»,

Ёсць тут «брацец»,
Ёсць тут «братка»,
Ёсць «братулька»,
Ёсць «братуха» —
Іх бяры ты па парадку —
Ні адно не муліць вуха.
Я ж не толькі ганаруся,
Чуць прыемна гэта слоўца,
Клічуць браткам беларуса
І смаленцы,
І літоўцы.
На Кубані
І ў Разані,
На Алтаі,
На Камчатцы
Беларусы ўсюды «братцы».
Ой, браточкі, як далёка
Добра ведаюць нас вокал,
Сцяг над намі наш вясновы,
А над светам — слава, слова.
Скажам «МАЗ»,
Гэта — раз,
А «БелАЗ» —
Яшчэ раз,
Трактары — гэта тры.
А маторы,
А станкі
Ці ж не славяцца, браткі?
Хваляць бульбу нашу, братцы,—
Масквічы і ленінградцы,
Неблагія, братцы, нашы
Пірагі, таксама каша,
А ляночак на сарочкі
Ці ж не славіцца, браточкі?
«Братцы» — заклік аб'яднацца
Да змагання і да працы,
Непарушнай на вякі
Дружба нашая, браткі.
Брат з Масквы
Ці брат з Ташкента —
Ёсць адзіная ў нас мэта,
У вялікасці, красе
Хай жывуць народы ўсе!

*А хто там ідзе, а хто там ідзе*
*У агромністай такой грамадзе?*
*— Беларусы.*

Янка Купала

*Мы з тых беларусаў,*
*Што Леніну лёс уручылі.*

Пімен Панчанка

## *Леанід Дайнека*

### ПОСТАЦІ ГІСТОРЫІ АЙЧЫННАЙ

Не кліч, не кліч — мне ўдалеч добра крочыцца,
Аддамся я шляхам, вытокам, нетрам,
Бо мне ў душу стагоддзяў глянуць хочацца,
Нібы ў акно, расчыненае ветрам.

Да вас іду, адважныя, палеглыя.
І разам з вамі за народ свой б'юся.
І праз усе нягоды і адлегласці
Нам свецяць вочы роднай Беларусі.



#### ВЯЧКА. 1224 ГОД

Дзядзінец дагарае.
Прабіў сцяну таран.
Князь Вячка памірае
Ад ран.

Смяюцца мечаносцы:
— Здыхай, славянскі пёс!
Не ўбачыш болей ноч ты
І дзень у ззянні рос.

Глядзі: агонь віхурыць...
Смыліць, пячэ — няўцерп!

Мы знішчым горад Юр'еў,
Збудуем горад Дэрпт.

Мы пройдзем лесам, полем,
Смерць несучы і боль.
Мы спалім горад Полацк.
На попел кінем соль.

Ты бой прайграў. На трупах
Сваіх людзей ляжыш.
Пад неба сіні купал
Плыве тэўтонскі крыж.

Ні ліваў і ні селаў [1]
Не ўбачыш больш, сляпы.
Ты жыта ў полі сеяў.
Мы сеем чарапы.

Дзядзінец дагарае.
Скрышыў сцяну таран.
Князь Вячка памірае
Ад ран.

Пральецца хмара-плачка
Слязінкай дажджавой.
Але не плача Вячка,
Смяецца мужны вой:

«Сын Полацка не стане
Аб літасці прасіць.
Умеюць палачане
Заморскіх птушак біць.

З-за мора, совы-госці,
Вы прыляцелі ўсе.
І ў мора вашы косці
Паводка панясе.

---

[1] Лівы, селы — прыбалтыйскія плямёны, якія ў пачатку XIII стагоддзя сумесна з Полацкім княствам змагаліся супроць агрэсіі рыцараў-мечаносцаў.

Прыблудам-ліхадзеям
Славян не зацугляць.
Мы будзем жыта сеяць,
Спяваць, жанчын кахаць.

Ваш меч не пацалую.
Цалую васілёк...»
Пацалаваўшы кветку,
На попел Вячка лёг.

Сканаў. І ў тыя ж хвілі,
Трывогі вестуны,
На Полацкай Сафіі
Ускрыкнулі званы.

...За векам век згарае.
Зірні ў начны блакіт —
Вунь маладзік над гаем,
Як князя Вячкі шчыт.

## ЛЫШЧЫНСКІ. 1689 ГОД

У вочы прыродзе
Гляджу і пытаю:
Адкуль мы прыходзім?
Куды мы знікаем?

Гэй, ксёндз, пакажы
(Хоць сёння будзь шчыры)
Прытулак душы
У нябесным эфіры.

Дзе рай залаты?
Дзе спеў херувімскі?
Не пойдзе туды
Бязбожнік Лышчынскі.

Не прагну ярма,
Салодкай няволі,
Бо раю няма
І бога тым болей.

Няма мне ў той бок
Ні сцежкі, ні броду.

Адзіны мой бог —
Зямная прырода.

Каб здрадзіў я ёй,
Ніхто не прымусіць.
Прыродзе адной
Над плахай малюся.

Усё. Родны брат
Па веры, па богу,
Язык вырве кат,
Шпурне на дарогу.

Сыноўні паклон
Зямлі беларусаў.
Іду я ў агонь.
Іду. Не скаруся.

## ВЕЦЕР. 1744 ГОД

Аб шчаку завіруха трэцца.
Снежны лес у халодным сне.
Я — мядзведзь з чалавечым сэрцам.
На шматкі рвуць сабакі мяне.

Ад пажараў быў ранак буры.
Радзівіл перамог ізноў.
Нас зашылі ў мядзведжыя шкуры,
Нацкавалі на нас ганчакоў.

Так, сябры, мы звяры, мы мядзведзі.
Хочаш, рэж нас. Хочаш, страляй.
Ды на нашай спіне не заедзе
Радзівіл у свой панскі рай.

Мы сказалі панам: «Даволі!
Хопіць з жылаў вяроўкі віць!»
Падзяліліся хлебам-соллю,
Птушку волі пайшлі лавіць.

Не злавілі. Далёка птушка.
Толькі пер'е пагладзіць змаглі.
Але мару нішто не патушыць
Аб свабоднай мужыцкай зямлі.

У чырвоны снег асядаю.
Крок зрабіць не хапае сіл.
Беларусь, за цябе памірае
Верны сын твой, Вецер Васіль.

Я — мядзведзь. Я вясёлы, вясёлы...
Вулей мёду цягну на спіне.
Я — мядзведзь. Ды кусаюць не пчолы,
А жаўнерскія кулі мяне.



**ГРЫНЯВІЦКІ. 1881 ГОД**

Агнём палае рана...
Крывёй дыміцца брук...
На новага тырана
Выходзіць новы Брут.

Не размінуцца болей —
Шлях скрыжаваўся ваш,
Баец «Народнай волі»
І царскі экіпаж.

Ты любіш рэчак буйства,
Ды рэкі пад ільдом.
А дзесьці ля Бабруйска
Сумуе бацькаў дом.

Там светлым птушкам віцца.
Там юных сноў міраж.
Чакае Грынявіцкі...
Грукоча экіпаж...

Крывавых і агідных,
Ты змёў бы ўсіх цароў.
Ды ў ненавіснай гідры
Занадта шмат галоў.

На край, тыранствам скуты,
Яны наводзяць жах.
Полымя з атрутай
У іх стальных вачах.

Душу распалавіняць.
Заганяць у труну.
Ды з тых галоў павінен
Ты ссекчы хоць адну.

І з бомбай смертаноснай
(Загіну, а ссяку!)
Ўздымаеш пад нябёсы
Няўмольную руку.

### ЧАРВЯКОЎ. 1922 ГОД

Чуеш: метал пяе і гудзе.
Праз прахадную завода.
Стараста Ўсебеларускі ідзе,
Ідзе да свайго народа.



Кажа:
«Волю здабыў беларус.
Каб вольнымі быць навечна,
Трэба з'яднацца ў адзіны Саюз,
Саюз Рэспублік Савецкіх.

Домам Братэрства ўздымецца ён —
Не Вавілонскаю вежай,—
Злучыць сэрцаў нашых агонь,
Земляў нашых бязмежжа.

Разам з Масквой не збаімся нягод,
Рушым у шлях перуновы».
І адказаў беларускі народ:
«Верым табе, Чарвякову!»

Чуеш: метал пяе і гудзе.
Бачыш: вясна расцвітае.
Гэта ў яснотныя далі ідзе
Наша зямля маладая.

Не, ты не згубішся ў громе вякоў,
Ты не згінеш, наш краю,—
Цені вялікіх адважных сыноў
Неба тваё ахінаюць.

## *Сяргей Панізнік*

### СЛОВА ПРА ОДРЫСА-ХАРОБРАГА[1]

У 1386 г. замак летапіснага горада Одрысь (Дрыса, Одрьск — ?) быў спалены Андрэем Полацкім у час міжусобнай вайны. У 1962 г. Дрыса перайменавана ў г. Верхнядзвінск.

Любоў ужо не помніцца.
І гневаецца Полацак.
Дарога — не услон:
мячамі поле полецца,
у неба коп'і колюцца...
Наперадзе — палон.

Ратуйся, рацьь услужная:
з цапамі харалужнымі
ідзе мая бяда.
Мае магуты мужныя!
Шляхі да славы скрушныя,
астужнаю — вада.
Быў крывічом адчайным,
а буду палачанінам,
а потым — ліцьвіном...
Мой лёс? Ён не прычалены:
спадар я, падначалены...
То волат, а то гном.

І не Андрэя конніцу
напоіць памяць Полацка,—
а тых, хто будзе жыць,
чый конь не рассупоніцца.
І Беларусь — нястомніцай! —
пачне вякам служыць.

---

[1] Балцкае слова «дряса» перакладаецца як смеласць, харобрасць, адвага.

Вякам — шчыты чарлёныя
і шоламы калёныя,
зялезнай зброі звон.
Свабода ёсць хвалёная,
як Дрыса, замутнёная...
І воля ёсць — палон.

Паклон палону Полацка.
Іду цяпер не вобмацкам.
А замак? Памянём.
Хто помніць, той і помніцца.
Радзіма — гэта Поўніца,
налітая агнём.

Глынуць нашчадкі... Горача?
Гісторыя — на горычы,
уся — на забыцці.
Але не перайначана!
І я ўвесь — ваша спадчына.
А спадчына — не матчына:
падмурак у жыцці.

# *Кастусь Цвірка*

## ЯЦВЯГІ [1]

Хто ўкраў сёння сонца з неба,
пераплёў шляхі каранямі?
Хоць крычы: дзень, як луг у цэбры,—
затапіла свет туманамі.

Недзе пікамі далеч ашчэрыў
вораг —
што ж, аб крыжацкія лбы
памацуем нашы сякеры:
мы — яцвягі, мы — не рабы.

Дзеці лесу, мы воляй гордыя —
віся, восеньскіх лісцяў рой!
Колькі раз чужацкія орды
край капыцілі пад зарой!

Нам багоў сваіх неслі і ёрмы,
ды праз вываратні і равы
гналі прэч іх ад нашых зор мы:
мы — яцвягі, мы — не рабы!

---

[1] Ятвязь — такую назву носяць некалькі вёсак на Гродзеншчыне. Ёсць там і рэчка Ятвязь, на якой стаіць сяло Ятвеск. Гэтыя назвы — ад яцвягаў, колішніх насельнікаў краю, паходжанне якіх канчаткова не высветлена. Рускі гісторык XIX ст. С. М. Салаўёў, адзначаючы смеласць і непакорлівасць гэтага «загадкавага народа», пісаў, што «яцвягі ў бітвах ніколі не ўцякалі і не здаваліся ў палон, а гінулі разам з жонкамі». Яцвягі былі амаль поўнасцю знішчаны ў няроўных бойках з іншаземцамі. С. М. Салаўёў даводзіць, што рэшткі яцвягаў быццам бы заставаліся яшчэ ў яго час на Скідальшчыне: «Яны рэзка адрозніваюцца ад беларусаў і літоўцаў смуглым тварам, чорнай вопраткай, норавамі і звычаямі, хаця ўсе ўжо гавораць на беларускай мове з літоўскім акцэнтам».

Сойкі сокат ускрай дарогі...
Граюць сосны па-пад грудом...
Пушчы звонкія, пералогі —
гэта наша радзіма, наш дом.

І яго мы, яго мы, яго мы,
покуль жывы,— ведай любы! —
адабраць не дадзім нікому:
мы — яцвягі, мы — не рабы!

Неба чорным услана дымам,
нашы хаты гараць і ёўні:
у цісках чужынцаў радзіма,
вораг хіжы лютуе сёння.

Асталася нас жменька толькі
ад крывавае малацьбы,
ды ізноў мы шукаем бойкі:
мы — яцвягі, мы — не рабы!

Край зрабіўся суцэльнай магілай,
крык дзіцячы ў хвоях растаў,—
як атаву, смерць нас касіла,
ды ніхто на калені не стаў.

Рвіце, коні, глей капытамі!
Стан варожы!
Няма ў нас слабых —
мужна зложым галовы там мы:
мы — яцвягі, мы — не рабы!

Станем зорамі.
Як паходні,
будзем з неба свяціць заўжды.
Ад Драгічына да Гародні
пашукайце нашы сляды!

Завірыць хай завея над імі,
ды ў вякі панясуць,
сцяг нібы,
рэкі чыстыя наша імя:
мы — яцвягі,
мы — не рабы!

## ПАЖАР
## У СТАРАЖЫТНЫМ ПОЛАЦКУ

В Полотске позвониша заутреннюю у Светыя Софеи въ колоколы: а он въ Кыеве звонъ слыша.

«Слова аб палку Ігаравым»

Полымем раскалыханыя званы,
У Полацку
Кідаюцца ў агні яны,
Нібы жывыя,—
Ім цесна ў цеснаце званіц
Званіць.
«Дапамажыце,
Людзі дарагія!
Хоць нечым...
Мы клічам вас на веча!»
А ў адказ,
Аглушаныя звонам
(Не адарвацца птушкам ад званіц!),
Крычаць, лятаючы ля іх, шалёна
І падаюць, як факелы, уніз...
У горадзе — адны званы.
А вораг тут, ля гарадской сцяны,
І чуцен звон ягоны:
Звіняць страмёны,
Мячы і дзіды звоняць...
Звіняць званы.
І плавяцца званы,
Бы воск.
І кропелькі — маленькія званочкі — у жар
Звіняць і падаюць,
І падаюць...
Бы скідвае на мёртвыя стагоддзі
Свой рэквіем пажар.
«Народзе, дзе ты, мой народзе!..»
Маўчаць, дымяцца ваяры.
Званы кідаюцца ўгары
І клічуць мёртвых зноў на веча...

Трымайцеся, званы! Пачуў вас...
Коней асядлаў...
Спяшае з Кіева дадому Усяслаў —
Будзе сеча,
Будзе сеча...

Але пакуль
Ад агню паўсюль
Абараняюцца званы
Адны...

## ВЕЧАРОВАЯ ПЕСНЯ ЛЕСАЎЧЫКА [1]

Абсыхае мой конь уночы —
Нялёгка было і каню...
А вочы, забітых вочы,
Да майго спяшаюць агню.
І, ціхія, сочаць самі
За буднем маіх клапот.
А сала тады, нібы камень,
Не лезе ў засмяглы мой рот.
Яшчэ не астыла руля,
Загады грымяць увушшу...
Маці, мая ты кукуля,
Прысніся свайму Тамашу!

Даўно ўжо блукае слава
Па пятах нашых пакут,
І просяць чужыя дзяржавы
Лесаўчыкоў хоць капу.
І мы распраўляем плечы,
Імчымся на злом галавы
І смела кідаемся ў сечу,

[1] Лесаўчыкі — беларуская вайсковая вольніца канца XVI — пачатку XVII стагоддзяў. Славіліся сваёй смеласцю. Абаранялі не толькі свае землі, але іх прасілі на дапамогу і іншыя краіны тагачаснай Еўропы. Прымалі ўдзел у Трыццацігадовай вайне, у барацьбе супраць туркаў, у войнах Запарожскай Сечы.

Нібы раззлаваныя львы...
Павісні над сумам, поўня,
І асвятлі мне душу...
    Вазоўня, наша вазоўня,
    Прысніся свайму Тамашу!

І вось, як паранены, гасне
Стомлены стогнамі дзень...
Хто, нібы толькі што пасвіў,
Гусака на вяроўцы вядзе;
Хто сала полаці выняў —
Наесціся толькі й ахвоч;
А хто ў падранай пярыне
Вязе паланянку на ноч.
Абіраецца тая ад пуху...
    Каханая, штодзень прашу.
    Рагнеда! Дзе ты? Паслухай —
    Прысніся свайму Тамашу!

Прынясі хоць у сон мне дзетак,
Якіх яшчэ ў нас няма.
Усю ноч, хоць і стомлены гэтак,
Ім аддасць твой далёкі Тамаш.
Я ў сне б на радзіму паехаў,
Каб управіцца к самай касьбе,—
Так бы ляскалі рэхвы, што рэха
Даляцела б і ў сон да цябе.
Зноў вочы... Зноў вочы... Над імі
Рук, быццам крылаў, шум...
    Валошка... Валошка з радзімы,
    Прысніся хоць ты Тамашу...

## ТУРАЎСКАЯ ЭЛЕГІЯ

> Сёння вясна красуецца, ажыўляючы зімовую прыроду. Буйныя ветры, ціха павяваючы, песцяць і гадуюць плады. І зямля, жывячы насенне, родзіць зялёную траву...
>
> З малення Кірылы Тураўскага

Прыгінае і самых высокіх
Да зямлі вечны цяжар гадоў.
І цішэюць, цішэюць крокі
І людзей і старых гарадоў.

Як прысеў ты, драўляны горад!
З крэктам з замкавай споўз гары.
І стагоддзі з табой не гавораць,
Як калісьці маглі гаварыць.

І за сценамі замка не радзяць,
Як прыняць з Егіпта гасцей,
А на колішнім княскім пасадзе
Бульба расце.

Покуль сала княгіня смажыць
(Пах яго заваёўвае дзень),
З камунальных харомаў княжыч
Па каня з аброццю ідзе.

Бы праз сон, праз гады сваю веліч
Слухае горад стары,
Як над ім, над стольным, звінелі,
Нібы песня, званы ўгары.

А таму, калі сонца прагляне
І ўдзяўбнецца промнямі ў снег,
Як продкі, спавядаюцца тураўляне
Вясне.

Хоць і вёснаў мінула багата,
Толькі ў Тураве, як і тады,
Зямля атуляе і корміць зярняты,
Каб радзіць,
як даўней,
плады.

## ФАНТАН СЛЁЗ

Капаюць слёзы, слёзы, слёзы, слёзы,
Капаюць слёзы зусім як калісь, калісь, калісь,
Нібы ўспаміны аб сонцы, аб танцы вясеннім бярозавым
І аб навекі далёкай зямлі, зямлі, зямлі.
Дзікі налёт і гадзюка аркана. О божа наш мілы!
Дай нам радзіму, бо сэрцы аб ёй толькі б'юць,
Дай нам, глухі, лебядзіныя белыя крылы,
Каб даляцець на старонку, старонку, старонку сваю.
Плачам за краем, нібыта за страчаным раем,
Тужым па лепшай на свеце сваёй старане
Ў гэтым тужлівым, пустынным Бахчысараі,
Ў гэтай цясніне, дзе божаму свету канец.
Выйсце? Іх два. І абое замкамі замкнёны:
Злева — пустэчы, дзе косткам бязрадасна тлець,
Справа — гняздо караімаў і пракажоных,
Горад ізгояў, пячорны Чуфут-Кале.
Дзе вы, далёкі наш Нёман, Дняпро, Белавежа?
Клетка і скалы вакол, і нябёсы дзярэ мінарэт.
Хана пяшчота праклятая, еўнуха вежа,
Чахлы садок, і фантан, і гарэм, гарэм, гарэм.
Змоўч на хвіліну.
Не плюскай...
Молім...
Не плюскай...
Падае кропля і ціха, так ціха звініць,
Быццам расінкі вясёлак з дубоў беларускіх
Ў срэбныя чашы лясных беларускіх крыніц.

## БАЛАДА
## ПРА ПАЎСТАНЦА ВАЎКАЛАКУ

Апошняя ноч над зямлёю.
Каля мяне, як цень,
Праходзіць да вадапою
Вольны лясны алень.

Заўтра нічога не будзе.
Ляжу ў яры ля ракі.
Куляю срэбнаю ў грудзі
Звалілі мяне паюкі.
У полі абшар шырокі,
А тут і вільгаць, і цень —
Няма прасторы для вока...



Лісце аб'еш, алень!

Біўся з панамі нямала,
На ўсіх наганяючы жах,
Часамі — і без кінжала,
З адною злосцю ў руках.
Дабрацца б да родных межаў,
Пабачыць бы новы дзень...
Дай глянуць на свет бязмежны,

Лісце аб'еш, алень!

Мне ж не зламаць рукамі,
Я ж не магу стаяць.
А там на гары, за кустамі,
Родная хата мая...
Сястра сядзіць пад калінай,

Абляпілі «маскалікі» пень...
Зрабі прасвет у галінах,

Лісце аб'еш, алень!

Каб хату пабачыць бедную
І неба, дзе бусел ляціць,
Каб магілкі мог я ўгледзець,
Дзе маці мая ляжыць.
Пад мядовыя гівала гукі,
Патаемны крок леляка
Склала каравыя рукі,
Чакаючы з пушчы сынка,
Апоўдзень над тымі капцамі
Сыта бубніць авадзень...
Зламай крушыну рагамі!

Лісце аб'еш, алень!



Знімі мяккімі губамі
Пярсцёнак з рукі маёй.
Там, пад старымі дубамі,
Хата пад новай страхой...
Ад пана адбіў дзяўчыну,
Ад пана на белым кані...
Схавалі мяне яліны,
Хмыз, лесавыя пні.
А ў сэрца другі ёй убіўся,
Пакорлівы, добры, святы.
Я пабачыў і адступіўся,—
Што возьмеш з авечак ты?
Зрабіў я, што пан у іх новы
(Й таго «Кабыздохам» завуць),
Дапамог канём і каровай,
Няхай сабе ў міры жывуць...
Пярсцёнак жанчыне ў маністах
Аддай і пра смерць не крычы.
Хай будзе сумленне чыстым!
Хай спіць спакойна ўначы!
Цяпер і маніць не трэба,
Як слабасць да сэрца дайшла:
Больш солі,
больш хлеба, больш неба

Патрэбна яна была,
І толькі волі вялікай
Я б за яе не аддаў...
Зацкаваны... Магутны... Дзікі...
Як я яе кахаў!
Пабачыць бы любыя вочы,
Пакуль не пакрыў мяне цень.
Не абмінай!
Варочай!
Лісце...
аб'еш...
алень!

*Рыгор Семашкевіч*

## АПОШНЯЯ НОЧ КАЛІНОЎСКАГА

Заўтра ўсё... Заўтра смерць. Мяне выведуць каты.
Сакавік на двары... Яшчэ тыдзень — і птушкі дамоў.
О буслы, дзеці сонца! Летучы, адшукайце вы хату,
Дзе жыве маё шчасце, якога ў жыцці не знайшоў.

У вясновай красе! Ясна-чыстая, нібы бяроза.
Вуснаў не цалаваў і не насіў на руках.
Птушкі! Людзі казалі... Прашу вас праз слёзы —
Ўкіньце вы ёй праз комін маленькага хлапчука.

Хай ён будзе маім! Тую дзеўчыну вы папрасіце.
У краіне цяпер будуць віселыні, здзекі і жах.
Будзе слухаць ён жаль перапёлкі у стоптаным жыце,
Песні ціхія з прызбаў па вечарах.

Веру — кроў мая ў сэрца яго застукоча.
І калі прыйдзе час новай гнеўнай касьбы, то ізноў,—
Хай жа пільнымі будуць і ноччу і днём яго вочы.
І пажары палацам! За мову, за слёзы, за кроў!..

Хлопчык мой! Я цябе, дарагі, абдымаю.
На радзіме маёй здратаванай павінен ты быць.
Крокі ў лёхах! Ужо і світаць пачынае!
Беларусь, мая маці! Ты будзеш, адзіная, жыць!

# *Уладзімір Караткевіч*

## НЯВЕСЦЕ КАЛІНОЎСКАГА



Недзе поруч ляжалі дарогі,
Кліч кахання ляцеў ад ніў,
Але ён не кахаў нікога,
Бо занадта радзіму любіў.
Варты лепшага ў свеце кахання,
Рана скончыўшы мужны палёт,
Русы хлопец золкім світаннем
На высокі ўзышоў эшафот.
Плач людскі барабаны крыюць,
І ад пошчаку глухне зямля.
На высокую гордую шыю
Успаўзае змяёю пятля.
З плачам жоравы пралятаюць.
Курганы і магільны жвір,
Непалітая ніва святая,
Плач жанчын, эшафот і Сібір.
Нікні гожаю галавою,
Па нязнанай страце ўздыхай.
Дарагая, ты стала ўдавою,
Не пабачыўшы жаніха.
Вашы кветкі ў лугах завялі,
Месяц марна згарэў над ракой,
Ты чакала яго, а стала
І нявестай і жонкай чужой.
І чамусьці ў сэрцы, як рану,
Я нясу твой нязбыты лёс,
Не даруючы ўсім тыранам
Непралітых табою слёз.

## *Валянціна Коўтун*

### СТАРАЯ БАЛАДА

Званы гудуць.
Малітву правіць паства.
Світальны промень сціплы, нібы госць.
А ў вёсачцы,
У трыдзесятым царстве
Жыла дзяўчына...
Мроя...
Маладосць!

Дачка жняі і грознага Пяруна.
Бы кветкі, вусны.
Зоры — у вачах...
Жаўцеў сланечнік,
нібы кола бубна.
Свяціла поўня доўга па начах.

І сваякі варожаць, і суседзі,
Ў каго ж яна нявесткай будзе жыць?!
Ды паства грозна вырашыла:
ведзьма!
І асудзіла, жорсткая:
ўтапіць!

І задрыжэла вогненная круча,
Трывожны бусел сцішыўся ўгары.
Яна звінела стрункаю пявучай,
Яна ляцела ў чорныя віры.

Хавалі боль
сузор'і і планеты,
Лавілі крык
нябёсы і вякі.
На важкай хвалі плавілася лета.
Суседзі, дзе вы?
Дзе вы, сваякі?

Ды ўсе яны спалохана маўчалі.
Палаў сланечнік і крывіў брыво...
І раптам хлопцы кінуліся ў хвалі,
Ратуючы любоў і хараство!

...Прайшлі гады па трыдзесятых царствах,
Шчыруе сонца весела ўгары.
Калі ж ахвяры выбірае паства,
Зноў юнакі кідаюцца ў віры!

## *Мікола Пракаповіч*

### БЕЛАЯ ВЕЖА

Ты з'яўляешся на світанні
З цемры, быццам з глыбінь вякоў,
І блукаюць ля сцен, як здані,
Посвіст стрэлаў і звон падкоў.

Прарастаюць з нябыту гукі,—
Ты не ведала цішыні.
Чужаніцы цягнулі рукі
Да тваёй святой чысціні.

На скрываўленых родных межах
Чорны дым засцілаў зару,
Ды стаяла
                    Белая вежа,
Прыкрываючы
                    Белую Русь.

Прарастала з нябыту слова
Недасяжнаю вышынёй
І набатам гуло сурова
Над тваёй святой чысцінёй.

Нам адведзены час кароткі,—
Чым пазначым мы гэты час?
З пасівелых байніцаў продкі
Запытальна глядзяць на нас.

Прарастае з нябыту памяць —
І ў наструненай цішыні
Белай птушкай плыве над намі
Да тваёй святой чысціні.

## *Васіль Вітка*

### НЯМІГА

«Кладуць на Нямізе снапамі,
Упокат галовамі сцелюць,
Малоцяць цяжкімі цапамі
І веюць душу ад цела...»

Хто яго ведае, можа быць,
Даверымся даўняй кнізе,
Што ворагі нават маглі праплыць
У стольны Мінск па Нямізе,

І што наўсцяж па абодва бакі
Стаялі харомы
І хаты,
І што дагэтуль па дне ракі
Ляжаць шаломы
І латы.

Ідзі правер, калі ўсё далёка,
За казкамі, за вякамі.
А вось такога прашчураў вока
Не бачыла, як мы з вамі.

І нас нашы ворагі клалі снапамі,
Але не білі цапамі.
Яны нас рэзалі кулямётам,
Таптані каваным ботам.

А калі не пасмелі адкрыць мы рота,
Нам губы сшывалі дротам,
А каб мы дарогу да шчасця забылі,—
Нашых дзяцей жывымі палілі.

Свету ўсяму расказалі пра гэта
Не старажытныя кнігі,
А чорныя сцены пакутнага гета
І камяні Нямігі...

Даўно свае воды рачулка гоніць
Пад каменем, у бетоне,
Сама ўсё з сабою пацiху гамоніць,
Забытая ў вулічным звоне.

І там, дзе ніхто не чуе, не бачыць,
Паміж палявых узгоркаў,
Часам не вытрымае, заплача
Слязамі пяўцешнымі, горкімі.

# *Вольга Іпатава*

## РАВЕСНІЦЫ

*Каміле, дачцэ Дуніна-Марцінкевіча*

Равесніцы,
у светлых залах блішчыце
Белай аголенасцю плячэй.
Мой шлях другі.
Я бунтаўшчыца.
Мой бацька таксама.
Разам лягчэй.
Жандары з вамі —
шарман, кавалеры.
Са мною —
жандары,
і толькі яны.
Мой шлях сярод іх —
даносы, паперы,
Холад і бруд
турэмнай сцяны.
Пісульку —
у веер або ў пальчатку.
Каханкам —
забава,
гульня,
смяшкі.
А на маіх,
перахопленых,
скрозь пячаткі
І надпіс:
«Праверыў... унтэр... такі».
На вас карсеты.
Паветра не будзе —
Хіба скрозь свецкі заўважыце шум?
А ў мяне і так разрываюцца грудзі
У краіне,
дзе паліцэйскі
на кожную чалавечую душу.

Народзіце дзяцей.
Памажы вам божа!
Расціце іх да чыноў,
эпалет.
Мой шлях другі.
Згару —
дык, можа,
Будзе нехта на кропельку
жыць святлей.

## *Серафіма Бестава*

### СПАДЧЫНА

Што атрымала я ў спадчыну?
Слязіну, як кіпень, гарачую
З бядою ўдавы салдацкай
І зоркай магілы брацкай.

Што атрымала я ў спадчыну?
Мову пявучую матчыну,
Зямлю, на спагаду ўрадлівую,
Ды песню ўдоваў тужлівую.

Што атрымала я ў спадчыну?
Гэта нідзе не пазначана:
Звон ручая пад вярбой
Ды хвалі дняпроўскай прыбой.

Што атрымала я ў спадчыну,—
З сабой пранясу нерастрачана:
Кастрычніцкіх зор агністасць,
Сумленне бацькава чыстае.

*Максім Танк*

## АКАМЯНЕЛЫЯ ВОЛАТЫ

Зусім не
Нейкі там
Скандынаўскі ляднік
Зямлю нашу
Сваімі валунамі
Засеяў.
Гэта — акамянелыя
Волаты спяць,
Што свой край баранілі.

Хоць бязлітасны час
Сцёр нямала імён,
Ды ў легендах і песнях
Жывуць яны ўсе:
Камяні Глеба,
Рагнеды,
Адама,
Кастуся,
Багушэвіча,
Камяні Янкі, Якуба,
Брэста,
Лудчыцкай вышыні.
Камяні. Камяні. Камяні.

## ГРАВЮРЫ СКАРЫНЫ

Гравюры Скарыны!
Ён выразаў іх
На спаконвечным
Дрэве гісторыі
Свайго народа,
Хоць мог бы падабраць
І больш падатлівы,
І больш удзячны
Матэрыял.

І выразаў ён іх
Не штыхелем-разцом,
А промнем сонца.
Промнем сваёй веры
І любові да народа.

Таму штрых кожны
Быў такі глыбокі,
Што ні агонь,
Ні забыццё,
Ні ворагі,
Ні час
Гравюраў гэтых
Знішчыць не змаглі.

І сёння
Нейкая чароўная
Жыве ў іх сіла,
Якая сляпым
Вяртае зрок,
Глухім — іх слых,
Няпомнячым —
іх памяць,
А без'языкім — мову.

# *Генадзь Пашкоў*

## ПАРТРЭТ СКАРЫНЫ Ў ПАДУІ

Эпохаў усіх ілжэгеніям,
усім сябелюбцам назло,
сумленне чыё
карэннямі
ў Радзіму
не урасло;
усім, каму сніліся помнікі,
хто праг у граніце стаяць,
куды паімчацца паломнікі
каменьчыкі падбіраць;
усім, хто пражыў чужым потам,
чужою крывёю —
назло,—
чые манументы потым
кляймiла эпоха:
«На злом!»,—
на нас, з даўніны
старажытнаю
памяткаю
праз вякі
глядзяць
чысцінёю блакітнаю
родныя васількі.

Ад тых, хто, ўзлятаючы,
падае
душою,—
адпрэчыцца свет.
...Партрэт Скарыны ў Падуі,
майго земляка партрэт...

## *Сцяпан Гаўрусёў*

* * *

Мой даўні род не ведаў кволых:
Яшчэ з мінуўшчыны-начы
Надзею ў прышласць дзён-вясёлак
Умелі продкі берагчы.

Нібы маланкі шаравыя,
Што часта ахалі ў галлі,
Яны скрозь нетры баравыя
Сваю нястрымнасць праняслі.

Яны жадалі долі новай,
Не старaніліся бяды,
І роскат праўды перуновай
Застаўся ў слове назаўжды.

Я рад, што маці надзяліла
Грымотнай моваю — яна
Мне грудзі смагай апаліла,
Душу ўзварушыла да дна.

Нядарма рукі абдымалі
Бязмежнасць спадчыннай зямлі,
Каб крок, паўтораны грамамі,
Далёка ветры разняслі.

## *Кастусь Цвірка*

### ПЕРЛЫ РОДНАЙ ЗЯМЛІ

> На беларускай мове... гаворыць каля 10 мільёнаў чалавек; гэта самая багатая і самая чыстая гаворка, яна ўзнікла даўно і выдатна распрацавана...
>
> Адам Міцкевіч, 1842 г.

Абрус — абцас — азярод — арэлі...
Вясёлка — вырай — вярба — ваўчкі...
Як міла пазваньваюць, сэрца грэючы,
Чыстых бацькоўскіх слоў ланцужкі!

Зямлі маёй перлы, дзе іх адшукалі?
Спытай у магіл: удзень і ўначы
Іх, з бурамі дужаючыся, здабывалі
Людзі простыя — крывічы.

Каб ярка свяцілася перлінка-слова,
Каб людзям зіхцела — на ўсе бакі,
Яго шліфавалі як след, адмыслова
Найлепшыя ў свеце тачылы — вякі.

Ды лезлі чужынцы — мой край прысвойваць —
І ўсюды (бо трос душы чорныя страх)
Знішчалі агнём беларускае слова,
Палячы геніяў на кастрах.

Але ўратаваў люд мой слова ад згубы
І, гонячы катаў ад родных бяроз,
Праз далеч стагоддзяў сівых — з губ у губы —
Да нас, незамутненае, данёс.

Як скарб дарагі, перададзены ў спадчыну,
У сэрцы хавае народ мой ад здрад
Праменнае, звонкае слова матчына
Для песень сонечных і балад!

## *Янка Сіпакоў*

### РОДНАЕ СЛОВА

> У 1697 годзе сейм Рэчы Паспалітай забараніў складаць дзяржаўныя дакументы на беларускай мове.
> У 1867 годзе царскі ўрад спецыяльным загадам забараніў беларускую мову.

Цябе забаранялі, як скрыжалі,
І адбіралі, быццам бы сцягі,
А крэслілі,—
здавалася, збівалі:

Як ад шпіцрутэнаў сінелі пісягі.
Цябе забаранялі, быццам свята,
Нібы злачынцу заціскалі рот.
А ты і з-за выкрэсленняў,
нібы з-за кратаў,
Глядзела на знямелы свой народ.

Ў архівах думкі, нібы ў цэлях, вязлі...
А ўчуўшы кліч кастрычніцкай сурмы.

З-за кратаў словы,
нібы тыя вязні,
Сцягі чырвоныя выносілі з турмы —
Да нас, пакуль нямых...

## *Аляксей Пысін*

* * *

Дала мне маці гэту мову,
Каб не прыйшоў нямым у свет,
Дала мне маці гэту мову,
Як спадчыну і запавет.

Была яна не беларучкай
І на жніве, і на сяўбе;
На глебе добрай беларускай
Здабыты словы ўсе яе.

Прапахлі сонцам і падзолам,
Дажджамі, сокамі раслін,
Пад знак рукам яе мазольным,
Што мелі толькі ў сне спачын.

Дачка мая! Ў жыццёвай прозе,
У буднях і святочным днём
Не пакідай яе ў парозе,
Калі у нечы ўвойдзеш дом.

## *Сяргей Грахоўскі*

### ЛЮБІМАЯ І РОДНАЯ

Дзве родныя мовы, як два ручаі,
Зліліся і сталі крыніцай жывою.
Мне курскія ў Глуску пяюць салаўі,
І кружацца нашы буслы над Нявою.

Я з першага класа усё зразумеў:
«Плакала Саша, как лес вырубали»...
Пад гукі цымбалаў ад шчасця нямеў,
Калі за ракою шугала Купалле.

Купала і Колас адкрылі мне зрок,
Душу зачароўвалі матчыны песні,
А пушкінскі вечна крылаты «Прарок»
І ў познюю восень прыносіць прадвесне.

Я ў ленінскім слове знаходжу заўжды
Падтрымку, адказ і параду,
І мне, як і ў даўнія тыя гады,
Не трэба зусім перакладу.

Я мудрасці ўсе адкрываю нанова,
І робіцца ў свеце святлей і відней:
Люблю неўміручую рускую мову,
А роднае слова, як маці, радней.

## *Васіль Жуковіч*

### АГНЯВЫ РАДОК

Няхай мяне няшчырасць абміне...
З маленства я знаёміўся з Купалам,
ды не адразу ў вочы мне запала
святло: «Я не для вас, паны, о не!»

Я не дзівуюся, што і пазней,
калі яго завучваў я з запалам,
у памяць неглыбока мне запала
струна: «Я не для вас, паны, о не!»

Мінулае не ў моры, не на дне...
З вачэй маіх імгла спакою спала —
і ў сэрца мне ударыў мой Купала
агнём: «Я не для вас, паны, о не!»

Паэзія — не ў вузенькім акне,
свет багацее мудрасцю Купалы,
няпешчаная песня не прапала —
жыве: «Я не для вас, паны, о не!»

## *Мар'ян Дукса*

### КУПАЛАЎСКІ РАДОК

Жадаў ён быць і песенным і дзейным,
гучаў, як покліч, ранішні гудок,
упэўнены, журботны, веснавейны,
пранізлівы купалаўскі радок.

Як зверху хто яго паклікаў быццам...
На нейкай маладзечанскай вярсце
ён змог крыніцай да людзей прабіцца,
каб слёзы ўмыць краіне-сіраце.

Лугоў, палеткаў увабраўшы водар,
напоўнены расою і бядой,
ён акрапіў наш беларускі гонар
любоўю слоў, нібы жывой вадой.

Сваёй найбольшаю узнагародай
лічыў паветра роднага глыток.
Бяссрэбранікам быў і ёсць заўсёды,
адкрыты ўсім, купалаўскі радок.

Як журавель, ён праплывае плаўна
над нашай мовай, пахкай і густой,
свабодны ад складанасці ўяўнай
і вольны ад манернасці пустой.

# *Міхась Стральцоў*

## КУПАЛА

У Анны у Андрэеўны Ахматавай
Ёсць невялікі вершык —
ён пра тое,
Як Муза ёй з'явілася аднойчы
У пастушковых строях
і з жалейкай.
— Скажы, ці ты калісьці дыктавала
Старонкі «Пекла» Дантэ? Адкажы! —
Так запытала Музу паэтэса.
І сціпла адказала Муза: «Я».

А сына Дамініка Янука,
Якога сёння мы завём Купалам,
Натоўп аднойчы пераняў дарогай —
Галодны,
босы,
у падраных світках.
Сын Дамінікаў запытацца мусіў,
Хто вы, маўляў,
адкуль, і хочаце чаго вы?
І быў адказ, як выдых:
— Беларусы!..
Ён благаславіў іх, а натоўп яму
Аддаў у рукі верную жалейку.

# *Пятрусь Макаль*

## СЛОВА-ЗЕРНЕ

Каб замкнуць пагарджанаму люду раты,
У турэмшчыкаў рук не хапала.
Сумным плачам жалейкі прарэзаўся ты,
Боль народа — Купала.
Песня тая, што спела пакутна ў душы,
Думнай долі сваёй не праспала.
Пракаціўся, як гром перуновы ў цішы,
Крык народа — Купала.
Свет пытаў у здзіўленні:
— А хто там ідзе?
З воч заслона туману апала.
Вырастаў упярэймы спрадвечнай бядзе
Меч народа — Купала.
У граніт берагоў біў маланкавы ўздым
Хвалі той, што, як гнеў, закіпала.
Дол і высь абручыліся з імем тваім,
Лёс народа — Купала.
Каб заўжды ты ўпрыгожваў сабою зямлю,
Каб віхура цябе не шчапала,
Я любоўю сыноўняй цябе атулю,
Сад народа — Купала.
Сёння зноў на вялікай штодзённай сяўбе
Слова-зерне, што ў сэрцы запала.
Мы нясём пакаленням наступным цябе,
Скарб народа — Купала.

*Янка Сіпакоў*

## ЯЛТА, МАКСІМ, КІПАРЫСЫ

Ён навучыў, здаецца, гаварыць
Па-беларуску нават кіпарысы,
Барвінак на магільніку гарыстым
Ён навучыў, здаецца, гаварыць.
Паўднёва сонца плавіцца ўгары,
Зямля гарачая, нібыта прысак...
Ён навучыў, здаецца, гаварыць
Па-беларуску нават кіпарысы.

*Уладзімір Караткевіч*

## НА РОДНАЙ МАГІЛЕ

Тыя цёмныя цісы і цёмныя кіпарысы,
Тыя зарасці лаўраў і леташняй ссохлай травы
І туманныя горы з Яйлою, марознай і лысай,
Над якімі ўсё цягнуць і цягнуць у родны наш край журавы,



Тыя, белыя з ярасці, тыя гуллівыя рэкі,
Хмар чароды, што снежнай вадой набіваюць валлё,—
Не забуду я іх, не забуду ніколі, давеку,
Не забуду, як ты, што засыпаны крымскай зямлёй.

І прабач за пралескі. Табе б васількі і рамонкі,
Але доўга яшчэ не цвісці ім на нашых палях.
Там вада памярцвела гайдаецца ў чорных палонках,
Там зіма, там на схілах адных і растала зямля.

Я скажу табе тое, чаго не сказаў бы я людзям,
Пастаю тут з гадзіну з апушчанай галавой,
А пасля... Што пасля?.. Суцяшэння няма і не будзе:
Я вярнуся дадому, а ты — да самоты сваёй.

Не сумуй, што далёка твой край і зялёны і сіні,
Што пралётныя жоравы граюць на веснай трубе:

Я хацеў бы і скону, і смерці ў далёкай чужыне,
Толькі б вочы юнацтва любілі мяне, як цябе.

Гэта дзіўна, што мёртвым часамі зайздросцяць жывыя,
Тым, што песцілі парасткі, нішчылі ламаўё...
Хай канец, хай атлантаў цяжар на маю несагнутую выю,
Толькі б вечнае шчасце каханай старонцы маёй.

# *Валянціна Коўтун*

## СУД АЛАІЗЫ

**Урывак з драматычнай паэмы**

А л а і з а

Стаміў мяне ты...
Ўжо аслеп, няйначай.
Мы радуемся, любім мы і плачам
З зямлёю роднай, з добрымі людзьмі.
Яны заступяцца. Вунь колькі іх, зірні!
А вось мая прырода маладая
Людскія лёсы голлямі гартае.
А вось дубы, бярозы ды асіны,
Дрыготкі ліст, глыбокі след ласіны...
Ці журавы, курлы-курлы — ў палёт!
І гэта ўсё таксама мой народ...
Сцягі і крылы...
Як яны шумяць!
І судзім мы! Ад іхняга імя.

Г м ы р а к

Не зор шукаюць, а рыхляць гароды,
Цямней за ноч усе твае народы!

А л а і з а

Ты хлусіш зноў...
Мы людзі, не звяры!
Наш чалавек...
Ён і зямны, і кніжны.
Ёсць прадзеды ў нас. Першадрукары,
Мы з імі зернем і сярпамі пішам.
Наш першы друк...
Ён болем нас крануў.
І след яго не толькі на бяросце.
І ўбіўся знак свабоды і агню
Не ў хруст паперы, а ў людскія косці.
Мы ўсе з трывог, з адступнікаў і дрэў,
І служкі д'ябла ў праведных сутанах

Нас распіналі на уласных ранах.
А белы свет...
Ён нехаця дабрэў,
Вось попел наш.
Ох, як палын расце.
О як любілі нас, як забывалі.
Але з крылатых птушак і дзяцей
Мы з першым крыкам раптам ажывалі!
Мы з кніг зямных, мы з цвёрдага рабра,
За дух змагання сплочваем сурова.
І кожны з нас гарыць па тых кастрах,
Дзе ўжо былі народы, кнігі, словы.

*Мікола Пракаповіч*

## ДОЛЯ

**(Паўлюк Багрым)**

Бяжы, уцякай, Паўлюк,
У поле,
ў гарачае жыта,—
Там марай звініць жаўрук,
І бацька яшчэ не забіты.

Там Шчара вальней цячэ
Без вылюдкаў і чужынцаў.
Бяжы,
уцякай хутчэй
Ад долі сваёй мужыцкай.

«А я долю, сваю долю
Закапаю ў чыстым полі...»

Кажан пе крапуў крылом,
А рэкрут —
ён той жа вязепь.
Ды ў полі, вятрам пазло,
Цягнуўся да сонца ясепь.

Ён цвіў, зелянеў,
і зноў
Тугой павуцінкі стылі.
...Колькі іх,
тых гадоў,
У косах сівой Юстыны!

«А я долю, сваю долю
Жаўруком пушчу на волю...»

Каму журыцца? —
Жыла
Доляй адной з Радзімай,
Самотны вянок сплята

З песень свайго сяла,
Яго безыменных Багрымаў.

Ці вернуцца, без прыкрас,
Для душ сасмаглых — патоляй?
...Збіраюць у добры час,
Склікаюць у Крошын нас
Агеньчыкі жырандолі.

«А я долю, сваю долю...»

## *Рыгор Барадулін*

### СЯРГЕЙ ПАЛУЯН

Не заімшэла-саламяна,
А вогнедаха-палымяна
Здалёку клікала яна,
Радзіма-маці,
Палуяна.
Яго забрала, як вайна,
У рэкруты святая справа.
Даць думку
Роднай старане.
Духоўная, скупая страва,
На лебядзе, на палыне
Прыгатаваная выгнаннем
На вогнішчы сцюдзёным раннем,
Была да смаку
Небараку.
Няхай багатая куцця
Сама ідзе па стол басцяку,
Хто Беларусь,
Нібы дзіця,
Пакінуць без прытулку хоча.
Халодны сам, шаптаў:
— Сіроча,
Змагайся, родны край, з бядой.
Як на вялікадне вадой,
Абмыйся думкай самавітай
І на снягах надзеяй вытай
Прataліну пад рунь густую.
Хай рэчка веры нарастуе
І крышыць крыгі стылых зім.
Яшчэ далёка самабранка,
Ды падае свой голас Янка,
Знайшоў свой маладзік
Максім.
Пасля самотнага Сяргея
Іскрынка памяці сагрэе.

## *Данута Бічэль-Загнетава*

### ХАДЫКА І ЖЫЛКА

Уладзіміры
Хадыка і Жылка —
вы найраднейшыя мае браткі.
Заменяць гутарку вашы радкі.
Праз бездараж слова
віецца сцяжынка.

Дакранаюся,
як да рук мацеры,
як да прытульнай
з дзяцінства печы.
Не навучылася
шаптаць пацеры,
дык памалюся
на вашыя песні.

*Уладзіслаў Нядзведскі*

## МАКСІМ ГОРКІ НА СТАНЦЫІ СТОЎБЦЫ

Ішоў май зялёны,
Быў год дваццаць восьмы.
Экспрэс цераз Нёман
Стралою пранёсся.

Да болю ўглядаўся
Праз шыбы экспрэса ён
У край той, што зваўся
«Усходнімі крэсамі».

Там дзёўб «ожэл бялы»
Загончыкі вузкія,
І ўсюды стагнала
Зямля беларуская.

Калі ж семафоры
Мільгнулі зялёныя,
Ступіў на платформу
У Стоўбцах з вагона ён.

Сядзеў у буфеце,
Піў чай тою раніцай.
Шапталіся недзе:
— З Сарэнта вяртаецца.

Сядзеў, і па твары
Калолі, як шпількамі,
Паноў і жандараў
Пагляды шматлікія.

З вакзала выходзіў
Ён крокамі цвёрдымі,
Ішоў, як праходзіць
Жывы паміж мёртвымі.

Калі ж ад вагона
Адхлынулі сышчыкі,
Пісьменнік далоню
Паціснуў насільшчыку.

...Мне ў Стоўбцах
Сівенькі насільшчык расказваў,
Як стрэў Чалавека
Тады першы раз ён.

## *Сцяпан Гаўрусёў*

* * *

*Памяці Аляксея Пысіна*

На небасхіле —
профіль Магілёва:
Асэнсаванай доблесці граніт.
Арапжава,
пурпурна
і лілова
Адсвечвае абветраны зеніт.

І,
выступаючы з плячыстай далі
Лясною шчабятлівасцю гадоў,
Зямную цвердзь да магмы разгайдалі
Скрыжалі электрычных правадоў.

Паэт —
сейсмограф трапяткога часу.
І — строга ўпаўнаважаны жыццём —
Рытм пакалення і яго акрасу
Перадае сваім сэрцабіццём.

Згадай —
падскокваў твой лясны закутак,
Гарматных трас падкінуты багром,
Калі не дзень,
а д в а ц ц а ц ь т р о е сутак
Грымела бітва над сівым Дняпром.

Таму не дзіўна з-пад счарнелых красак,
Якім не пасвяжэць і ад расы,
Убачыць бляск чырваназорых касак,
Пачуць байцоў сасмяглых галасы.

Ніводнай не мінаючы руіны,
Тады па іншых лётаў ты франтах,

Праз полымя і боль усёй краіны,—
Як безгалосы агнякрылы птах.

Зноў рассцілае горад самабранку —
Мядовасць хмар з туманным малаком,
Дзе з добрым другам кожны раз да ранку
Ажно хмялелі над любым радком.

Праймае грудзі сінява скразная —
Мар акрылёнасць
і святло магіл,

Што з далікацтвам чуйным ахінае
Па-пысінску лагодны небасхіл.

## *Мікола Арочка*

### СЯРГЕЮ ДЗЯРГАЮ

Ранкам,
Калі яшчэ пахлі дымам
Камяніцы і каласы,
Помніце —
Пеўнікі маладыя
Пачалі спрабаваць галасы.
Галасы тады ледзь праразаліся,
Ад натугі зрываліся ў нас,
Вы ў адказ толькі ўдумна ўсміхаліся:
Разумелі — дзе ўзрост,
А дзе час...
Мяне ўразілі вы
Чыстым поглядам.
Сцяты боль...
І сутуласць пляча...
Валасы густа ўсыпаны попелам,
Як пушком у драча-дзергача.
Ды з вачэй
І з радкоў напорыста
Прамяніцца давер...
Не бяда!
Я не знаў, праз якія вёрсты
Вы вярнуліся да гнязда.
Зрокам вашых радкоў,
Іх пальцамі
Я кранаўся нялёгкіх дарог,
Крыўд і праўд гістарычнай памяці
І ўсплёску крыўд чатырох.
Ёсць паклады сумлення і годнасці.
Ёсць урокі...
А гонар — пасля...
Залатую расінку ў голасе
Толькі родная дасць
Зямля.

# *Уладзімір Някляеў*

## ХАДОК

*Уладзіміру Караткевічу*

Біклага, кульба, торба на плячах —
Па нашым часе
выгляд маскарадны.
Нікому і ні ў чым не падуладны
Хадок ідзе, таму што выбраў
Шлях.

З дубровы ў бор, з нізіны на грудок
Ідзе хадок,—
а бэйбусы, барыгі
Крычаць: «Гэй ты! Дзе крыж твой? Дзе вярыгі?»
Хадок ідзе. Таму што ён
Хадок.

Ён выбраў шлях — і ўжо не зверне ў бок
Ад ісціны, вядомае спрадвеку:
Амаль усё, што трэба чалавеку,—
Скарынка хлеба ды вады глыток.

Амаль усё. Амаль, амаль, амаль...
Але не ўсё, калі камяк у горле,
Не ўсё, не ўсё — калі душу агорне
Па незабыўным непазбыўны жаль.

Па кім? Па чым? Ці не па ўсіх і ўсім:
Па каласах тых, што на ўзмежку поля,
Па тым — што праўда, і па тым — што воля,
Па самым любым, самым дарагім,
Па ўсім, па ўсім — да слёз, да слёз, да слёз
Па самым крэўным у чужынным свеце,
Што княжым ветрам прашуміць у вецці
На спеўных вежах полацкіх бяроз
Ці паляўнічым рогам прагудзе
Ля Турава — і адгукнецца ў Крэве...

Хай шлях кружны, нібыта кольцы ў дрэве,
Бясконцы шлях. Але хадок
Ідзе.

Усё сваё з сабой нясе... Яму
Таго даволі, больш чым неабходна,
Каб зратаваць сасмяглых і галодных.
Каго? Яму вядома аднаму.

Ідзе хадок. Над ім дажджыць, сняжыць,
Яму не выйсці з гэтай кругаверці.
Ён ведае так мала, каб памерці.
І гэтак многа ведае, каб жыць.

# *Ала Канапелька*

## ПАМЯЦІ ІВАНА МЕЛЕЖА

— Ган-но! —
Блукае няўцешнае рэха.
— Ган-но! —
Гукаюць, шукаюць вятры.
Снегам запесены сонныя стрэхі,
Моракам скутыя дрэмлюць двары.

Снегам расстання, халодным, зімовым,
Шлях перамецены —
шлях да вясны.
Ганно, ты ж ведаеш тую замову,
Каб адышлі непрабудныя сны.

Ты іх пашлі на бягучыя воды,
Ты іх на лозы сухія пашлі.
Ранняй вясною у барвах усходу
Зноўку пратрубяць Яго жураўлі.

...Зорка ўзыходзіць над сцюжай,
над снегам.
Памяць жывою рабінай гарыць.
— Ган-но! —
Палескае коціцца рэха.
— Ган-но! —
Гукаюць над светам вятры.

## *Пятро Прыходзька*

### ПЛОШЧА ЯКУБА КОЛАСА

Спытайце сёння вы ў паэта:
«Наш дзядзька Колас, як вы тут?»
І ён адкажа: «Плошча гэта
Цяпер — мой родны, мілы кут».

З бяроз лістота ўжо апала,
Яе сабралі па лістку...
І вось з-за Свіслачы Купала
Яму працягвае руку.

# *Пятрусь Макаль*

## ЗА СВАІМІ СЫНАМІ НАРОД

*Ігнату Буйніцкаму,*
*бацьку беларускага тэатра*

У матулі імёны сыноў,—
Як паверка душы і трывога.
Хай жа памяць айчынная зноў
Расхіне нам заслону былога.
У цябе, мой народзе, яшчэ —
Ні дзяржавы, ні долі, ні сцяга,
Толькі ў сэрцы нясцерпна пячэ
Неспатольная смага...
Звон расы.
Звон касы.
Галасы.
І, сярмяжную гонячы скруху,
Надзімае душы парусы,
Прага праўды і вечнага руху...
Толькі так,
Толькі так,
Толькі так! —
Прага далечы волатаў родзіць.
І выходзіць з туману мастак,
І ўладарна на сцэну ўзыходзіць.
Боль і крык невыказны спярша.
Потым — свята, і бронза, і ўдача.
У артыста такая душа,
Што пяе, і смяецца, і плача.
Спеўны звон і раскацісты грук —
У віхуры мяцежнага танца.
І мільёнамі ўчэпістых рук
Родны край абдымае абранца.
Крок па сцэне — у вечнасць палёт:
Расступіцеся, вузкія сцены!
За сваімі сынамі — народ,
Што ніколі не сыдзе са сцэны.

## *Уладзімір Скарынкін*

### ІДУЦЬ БЕЛАРУСЫ

А хто там ідзе,
А хто там ідзе
У шматгалосай такой грамадзе?
— Народ беларускі!

Хай чуюць усе,
Хай бачаць усе —
Не крыўду сваю на руках ён нясе,
Не долю цяжкую.

Ён зроду не быў
Шчаслівым такім.
І сцяг пераможна лунае над ім
Чырвона-зялёны.

Край сініх азёр
І чыстых крыніц,
Тваіх песняроў і тваіх чараўніц
Свет ведае цэлы.

Хто іх разбудзіў,
Хто іх акрыліў,
Хто радасць у іхніх вачах запаліў?
— Кастрычнік вялікі!

Хай гора і слёз
З-пад чорных нябёс
Павек не прыносіць бязлітасны лёс
Нашчадкам Купалы.

## *Юрась Свірка*

### ХАЧУ ПРАЧНУЦЦА...

Хачу прачнуцца я
Праз сотні год,
Паслухаць траў і ветру шапаценне.
Хачу я толькі на адно імгненне
Паслухаць,
Як жывеш ты, мой народ.

Хачу паслухаць
Шум сівых бароў
І пахадзіць дарогаю лясною,
Спыніцца над Бярозаю-ракою,
Паслухаць шоргат сініх чаратоў.

Калі пачую:
Ты жывеш, народ
(Па голасу пазнаю беларусаў),
Тады спакойна на пагост вярнуся
І зноў засну —
На сотні тысяч год.

## *Ларыса Геніюш*

* * *

Хай славіцца наш беларускі род,
душой з вясны і воляю са сталі,
каб з гнёздаў нам не пеўнікі на плот,
а горда арляняты выляталі!

## *Генадзь Бураўкін*

### НАША ПЕСНЯ

Не была ты ніколі пры знаці,
Не стаяла ў чарзе да стала,
Не прасілася слёзна «Прызнайце» —
Проста з людам тутэйшым жыла.

Лёс ягоны цярпліва дзяліла,
Не падсмейвалася з-за вугла,
Галасіла на ранніх магілах,
Гулкі рэй на вяселлях вяла.

Не прымала маны і прынукі,
Не сцірала загару са шчок
І хавала сялянскія рукі
Пад сатканы самой хвартушок.

Засталася спагаднай і годнай,
Разбудзіла маўклівы абшар,
Некрыклівая споведзь народа,
Васількавага краю душа.

# *Ніл Гілевіч*

## СЭРЦА ДЗЯДЗЬКІ РЫГОРА

*Р. Р. Шырму*

Колькі птахаў пявучых у родных лясах,
Колькі нот непаўторных у іх галасах,
Колькі тонаў, адценняў, ладоў, пераборaў —
Столькі песень у сэрцы у дзядзькі Рыгора.

Колькі ў краі бацькоўскім празрыстых крыніц,
Колькі іх, між пагоркаў, булькоча-звініць,
Бегучы, ручайкамі, да сіняга мора,—
Столькі песень у сэрцы у дзядзькі Рыгора.

Колькі ў небе вясновым за тысячы год
Па-над роднай зямлёй прагрымела грымот,
Абдараючы радасцю долы і горы,—
Столькі песень у сэрцы у дзядзькі Рыгора.

Дык якім жа павінен ён волатам быць,
Каб у сэрцы адным гэтак многа ўмясціць?
Ой, не дзіва, скажу вам, не дзіва, не дзіва,
Калі песняю песень у сэрцы — Радзіма!

## *Уладзімір Скарынкін*

* * *

Сыграй мне песню,
Цымбалістка,
Пра беларускі родны край.
Сыграй пра ўсё,
Што сэрцу блізка,
Пра ўсё,
Што дарага,
Сыграй.

Хай зала
Чарадзейным звонам
Напоўніцца,
Як лес вясной.
І ўзыдзе
Сонейкам чырвоным
Твой мілы твар
Перада мной.

Мне вельмі хочацца
Ўлюбёна
Ізноў зірнуць
На дзве рукі,
Што над цымбаламі
Ўтрапёна
Трапечуцца,
Як жаўрукі.

Сыграй што-небудзь,
Чараўніца,
Пра мой шчаслівы край.
Прымусь
Мяне употай праслязіцца
Ад гордасці за Беларусь.

# *Максім Багдановіч*

## ЗОРКА ВЕНЕРА

Зорка Венера ўзышла над зямлёю,
Светлыя згадкі з сабой прынясла.
Помніш, калі я спаткаўся з табою,
Зорка Венера ўзышла.

З гэтай пары я пачаў угля́дацца
Ў неба начное і зорку шукаў,
Ціхім каханнем к табе разгарацца
З гэтай пары я пачаў.

Але расстацца нам час наступае;
Пэўна, ўжо доля такая у нас...
Моцна кахаў я цябе, дарагая,
Але расстацца нам час.

Буду ў далёкім краю я нудзіцца,
Ў сэрцы любоў затаіўшы сваю;
Кожную ночку на зорку дзівіцца
Буду ў далёкім краю.

Глянь іншы раз на яе,— у расстанні
З ёю зліём мы пагляды свае...
Каб хоць на міг уваскрэсла каханне,
Глянь іншы раз на яе...

*Янка Купала*

## ЯВАР І КАЛІНА

Песняй вясны лебядзінаю,
	Скінуўшы зімнія чары,
Шэпчуцца явар з калінаю
	Ў сумнай даліне над ярам.

Лісцікі зеленяй хваляцца
	Небу панятлівай мовай:
Росамі мыюцца раніцай,
	Песцяцца сонцам паўднёвым.

Захадам модлы пакорныя
	З маткай-зямлёй адпраўляюць;
Тайна у ночаньку чорную
	Месяца, зор выглядаюць.

Слухаюць смехаў русалчыных,
	Лопату крылляў начніцы,
Ветру павеваў ап'янчаных,
	Плёскату шклістай крыніцы.

Чуецца музыка дзіўная
	Ў повесцях сонных імшараў...
Цешыцца явар з калінаю,
	Скінуўшы зімнія чары.

## *Канстанцыя Буйло*

### ЛЮБЛЮ

Люблю наш край — старонку гэту,
Дзе я радзілася, расла,
Дзе першы раз пазнала шчасце,
Слязу нядолі праліла.



Люблю народ наш беларускі,
Хаціны ў зелені садоў,
Залочаныя збожжам нівы,
Шум нашых гаяў і лясоў.
І рэчку, што імкліва воды
Імчыць ў нязведаную даль,
І схілы берагоў пясчаных,
І яснасць чыстых яе хваль.
Люблю вясну, што ў кветкі зелень
Аздобіць радасна зямлю,
Буслоў на гнёздах клекатанне
І спеў жаўрапачка люблю.
Гарачую спякоту лета
І буру летнюю з дажджом,
Як гром грыміць, а ў чорных хмарах
Маланка зіхаціць агнём.
І восень сумную люблю я,
І першы звон сярпоў і кос,
Як выйдуць жнеі жыта жаці,

А касары — на сенакос.
Люблю зіму з яе марозам,
Што вокны прыбярэ ва ўзор,
І белы снег, што ўкрыўшы поле,
Ірдзіцца бляскам ясных зор.
Люблю ў пагодную я ночку
Дапозна на двары сядзець,
Сачыць за сініх зор мігценнем,
На месяц залаты глядзець.
І песню родную люблю я,
Што дзеўкі ў полі запяюць,
А тоны голасна над нівай
Пераліваюцца, плывуць.
Усё ў тым краі сэрцу міла,
Бо я люблю край родны мой,
Дзе з першым шчасцем я спазналась
І з гора першаю слязой.

## *Вера Вярба*

### РУЧНІКІ

У суботу Янка ехаў ля ракі,
Пад вярбой Алёна мыла ручнікі.
— Пакажы, Алёна, броды земляку,
Дзе тут пераехаць на кані раку?

— Адчапіся, хлопец, едзь абы-куды,
Не муці мне толькі чыстае вады.
У маркоце Янка галавой панік,
Упусціла дзеўка беленькі ручнік.

— Янка, мой саколік, памажы хутчэй,
Ой, плыве, знікае ручнічок з вачэй.
— Любая Алёна, я вады баюсь.
Пацалуй спачатку, што, як утаплюсь?

Супыніўся гнеды пад вярбой густой,
Цалаваў Алёну Янка над вадой.
Стала ціха, ціха на усёй зямлі,
Па рацэ далёка ручнікі плылі...

*Алесь Ставер*

## ЖУРАЎЛІ ЛЯЦЯЦЬ...

Каб любіць Беларусь нашу мілую,
Трэба ў розных краях пабываць.
Разумею цяпер, чаму з выраю
Жураўлі на Палессе ляцяць.



Што ім тыя пагоды паўднёвыя!
Што ім пышны платанавы рай,
Калі клічуць іх далі сасновыя
І азёрны рабінавы край.

Сакавітыя пожні мурожныя
Не заменіш нічым і нідзе,
І зямлю, дзе сцяжыначка кожная
У прыветлівы двор прывядзе.

Каб любіць Беларусь нашу мілую,
Трэба ў розных краях пабываць.
Зразумееш тады, чаму з выраю
Жураўлі на Палессе ляцяць.

*Адам Русак*

## БЫВАЙЦЕ ЗДАРОВЫ

Бывайце здаровы,
Жывіце багата,
Ужо ж мы паедзем
Дадому, дахаты.

Ў зялёнай дуброве
Мы начаваць будзем,
А вашае ласкі
Павек не забудзем.

Мы слаўна гулялі
На вашым вяселлі,
Было ж нам даволі
Ўсяго, што хацелі.

У вашым калгасе
Шырокае поле,
Няхай жа для шчасця
Цвіце наша доля.

На рэчках на вашых
Бурліліся б воды,
Каб плавалі з крыкам
Гусей карагоды.

Каб кожны у працы
Быў дужы, дзябёлы,
Хлявы былі б поўны
Усякай жывёлы.

Кароў шмат і коней,
Свіней і авечак,
А куры каб неслі
Па возу яечак.

Каб жыта у полі
Трубою вілося,
А ў хаце каб сала
Кублами вялося.

Штодзень у капусцэ
Каб плавала скварка,
А к ёй, калі трэба,
Знайшлася б і чарка.

Каб вам шанцавала
Часценька на госці,
Ніхто каб ніколі
Не меў на вас злосці.

Каб дружнай работаю
Вашай брыгады
Усе ганарыліся,
Ўсе былі рады.

Каб вы падрасталі
Ад года да года,
Каб вам і пашана
Была ад народа.

Жадаем яшчэ вам
Прыбытку у хаце,
Ні мала, ні многа —
Штогод па дзіцяці.

Не будзе вам крыўды
Яшчэ і за тое,
Калі пашанцуе
На год і па двое.

Дарогу ж мы знаем
Да вас, ягамосці,
І ездзіць да вас
Будзем часта у госці.

То на адведы,
То на радзіны

Вазіць караваі
По дзве паўасміны.

Бывайце здаровы,
Жывіце багата,
Ужо ж мы паедзем
Дадому, дахаты.

# *Яўген Міклашэўскі*

## БЕЛАРУСЬ

Я — Беларусь!
У. Караткевіч

Як у сям'і сваіх сясцёр,
Я — роўная з усімі,
І неба роднага шацёр
Мне не шкадуе сіні.
А выйдуць рэкі з берагоў,
Імклівыя прадвеснем,
І між узгоркаў і гаёў
Мігцяць блакітам веснім.

Хоць я ўладальніцай слыла
Маёй зямлі чароўнай,
Ды век бяздольная была,
Як падчарка ўсё роўна.
Любіла жаць, снапы вязаць,
Але жыла ў нядолі
І ўголас не магла сказаць,
Як хочацца мне волі!

Маіх катуючы сыноў
За веру іх і мову,
Кавалі злыдні з ланцугоў
Усім адпу абнову.
Як ноч без месяца і зор,
І мне быў свет нямілы,
Які б арол не распасцёр
Над галавою крылы.

Маіх дзяцей ён спакушаў
Ці прыніжаў без меры
І адрачыся прымушаў
Іх ад бацькоўскай веры.
І чорнай верачы мане,
Мае сыны і дочкі

Прызнаць баяліся мяне —
З адчаю беглі ўпрочкі.

Аднак, як родных, я люблю
І тых, хто ў час нягоды
Праславіў іншую зямлю
І іншыя народы.
Хто апяваў красу сясцёр
На іх уласных мовах
На берагах маіх азёр
Або ў маіх дубровах...

А колькі ліха пеpажыў
Народ у краі родным,
Калі арол над ім кружыў
Драпежнікам галодным.
Ды, як народ ні бедаваў,
Знаходзіў выйсце ў працы
І нам на славу будаваў
Саборы і палацы.

Араў зямлю сваю штогод,
Упарты, працавіты,—
Таму не мог такі народ
Не быць таленавіты.
Хоць быў прыгнечаны спрадвек,
Не траціў у галечы,
Дзе панавалі глум і здзек,
Свой воблік чалавечы...

Час горы ліха перацёр
На захадзе і ўсходзе,
Каб — роднай між сваіх сясцёр —
Мне жыць з усімі ў згодзе.
Народ, што голаў не схіне
Ні перад кім у скрусе,
Спявае Песню песняў мне,
Савецкай Беларусі!

ЗМЕСТ



## *Векапомныя дні*

## *О, Беларусь, лясная ружа*

## *Мы з тых беларусаў*

**Мы — беларусы:** Вершы/Склад. Я. Міклашэўскі.— Мн.: Маст. літ., 1988.— 310 с.: іл.

М 94

ISBN 5-340-00056-7.

Мы — белорусы: Стихи.

Кнігу склалі вершы беларускіх паэтаў розных пакаленняў, якія апяваюць неўміручасць ленінскіх ідэй, радасць жыцця і стваральнай працы, пачуццё гонару за сваю сацыялістычную Радзіму.

Зборнік прысвечаны 70-годдзю ўтварэння Беларускай ССР і Кампартыі Беларусі.

М $\frac{4702120200-123}{М\ 302(03)-88}$ 56—88

ББК 84 Бел 7

*Мы — беларусы*

311

Литературно-художественное издание

*Мы — белорусы*

Стихи

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Літаратурна-мастацкае выданне

*Мы — беларусы*

Вершы

Рэдактар Хв. Д. Жычка. Мастацкія рэдактары А. М. Малышава, А. І. Цароў. Тэхнічны рэдактар Г. П. Тарасевіч. Карэктар Л. П. Бялова.

ІБ № 2814

Здадзена ў набор 20.04.88. Падп. да друку 01.07.88. АТ 09652. Фармат 60×100[1]/[16]. Папера афс. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк 21,64. Ум. фарб.-адб. 41,50. Ул.-выд. арк. 13,18. Тыраж 11 000 экз. Зак. 1351. Цана 2 р. 90 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.

